

*Франсіско Гоя. «Святы Геранім».*
*Каля 1799 г. Палатно, алей. 193х114,3 см.*
*Мастацкі музей Нортана Саймана, Пасадэна (ЗША).*

Св. Эдыта Штайн

* * *

Збаўца чакае нас,
каб увесь наш цяжар на сябе узяць,
дапамагчы, як самы надзейны сябра,
які заўсёды застаецца верным.
І разам з тым Ён дазваляе ўдзельнічаць
у Яго жыцці.
Тады мы аказваемся ўзятымі
з нашага абмежаванага быцця
ў прасторы Божага Валадарства.
Знікае ўсялякая самотнасць,
і мы, укрытыя бяспечна
ў намёце Валадара,
вандруем ў Яго святле.

*Пераклад з нямецкай мовы*
*Ірыны Бурак.*



**У нумары 2/2012**

# НАША ВЕРА



# У пошуках праўды

*З гамілії Яна Паўла II падчас урачыстай св. Імшы з нагоды кананізацыі Тэрэзы Бэнэдыкты ад Крыжа (Эдыты Штайн) 11 кастрычніка 1998 года*

«Няхай я не буду хваліцца нічым, акрамя крыжа Пана» (Гал 6, 14).

Словы, якія напісаў да Галатаў святы Павел... адпавядаюць таксама чалавечаму і духоўнаму вопыту сястры Тэрэзы Бэнэдыкты ад Крыжа, імя якой сёння ўрачыста ўпісваецца ў кнігу святых. Яна таксама можа паўтараць разам з Апосталам: «Я хачу хваліцца толькі крыжам Езуса Хрыста».

Крыж Хрыста! Заўсёды квітнеючае дрэва Крыжа пастаянна прыносіць ўсё новыя плады святасці. Таму вернікі з даверам глядзяць на Крыж. З гэтай таямніцы любові яны чэрпаюць мужнасць і сілу, каб верна наследаваць укрыжаванага і ўваскрослага Пана. Так пасланне Крыжа ўваходзіць у сэрцы многіх мужчын і жанчын і змяняе іх жыццё.

Яскравым прыкладам такога надзвычайнага ўнутранага аднаўлення з'яўляецца духоўнае развіццё Эдыты Штайн. Дзякуючы ціхаму дзеянню Божай ласкі маладая жанчына, якая шукала праўду, стала святою і мучаніцаю. <...>

Дарагія браты і сёстры! Любоў Хрыста была тым агнём, якім палымнела жыццё сястры Тэрэзы Бэнэдыкты ад Крыжа. Яшчэ да таго, як усвядоміла гэта, яна была ахопленая гэтым агнём. Спачатку Эдыта Штайн з захапленнем аддалася *свабодзе*. Доўгі час яна была ў пошуках. Яе дух не стамляўся прысвячаць сябе даследаванням, а сэрца прагнула надзеі. З энтузіязмам яна пераадольвала знясільваючы шлях філасофіі. І ўрэшце была ўзнагароджаная — яна авалодала праўдаю. Ці лепей сказаць: праўда авалодала ёю. Таму што ёй дадзена было адкрыць, што праўда мае імя: Езус Хрыстус. Пачынаючы з гэтага моманту, уцелаўлёнае Слова стала для Эдыты адзіным скарбам. Ужо будучы кармэліткаю і аглядаючыся на гэты перыяд жыцця, яна напісала знаёмай манашцы бэнэдыктынцы: «Хто шукае праўду, той шукае Бога, ясна яму гэта ці не».

Хоць Эдыта Штайн атрымала рэлігійнае выхаванне ад сваёй маці юдэйкі, ва ўзросце чатырнаццаці гадоў яна «цалкам свядома і паводле свабоднага рашэння адвучыла сябе ад малітвы». Яна хацела фармаваць сваё жыццё выключна паводле ўласных жаданняў, імкнулася да таго, каб адстойваць сваю свабоду ў прыняцці рашэнняў, якія датычаць яе жыцця. У канцы доўгага шляху яна прыйшла да надзвычайнага ўсведамлення: толькі той, хто даручае сябе лю-

бові Хрыста, становіцца сапраўды свабодным.

Гэтая жанчына змагла выстаяць перад выклікамі такога багатага на перавароты стагоддзя, як нашае. Яе вопыт становіцца прыкладам для нас. Сучасны свет выхваляецца спакушальнаю брамаю сцвярджэння: усё дазволена. Пры гэтым ён ігнаруе вузкія вароты распазнавання і адмаўлення. Таму я звяртаюся асабліва да вас, дарагія маладыя хрысціяне... Будзьце ўважлівыя! Вашае жыццё — не бясконцы шэраг адчыненых дзвярэй! Прыслухоўвайцеся да свайго сэрца! Не задавольвайцеся павярхоўнасцю, але старайцеся зразумець сутнасць рэчаў! І калі настане час, майце мужнасць прыняць рашэнне! Пан чакае вас, каб вы паклалі сваю свабоду ў Яго добрыя рукі.

Святая Тэрэза Бэнэдыкта ад Крыжа прыйшла да ўсведамлення, што любоў Хрыста і свабода чалавека знаходзяцца ў цеснай сувязі, таму што любоў і *праўда* ўнутрана звязаныя. Шукаць праўду і выказваць яе ў любові не здавалася ёй супярэчлівым. Наадварот, яна разумела, што праўда і любоў патрабуюць адна адной.

У нашы дні за праўду часта прымаецца меркаванне большасці. Акрамя таго, распаўсюджанае перакананне, што ў пэўных выпадках праўда і любоў павінны процістаяць адна адной. <...> Сястра Тэрэза Бэнэдыкта ад Крыжа гаворыць усім нам: не прымайце за праўду тое, у чым няма любові. Але таксама не прымайце за любоў тое, у чым няма праўды! Адна без другой становяцца хлуснёю, якая нішчыць.

Нарэшце, новая святая ўказвае нам на тое, што любоў Хрыста павінна прайсці выпрабаванне *цярпеннем*. Таго, хто сапраўды любіць, не спыняе нават перспектыва цярпення. Той, хто



любіць, церпіць разам з тым, каго любіць. <...>

Таямніца Крыжа паступова агортвала ўсё яе жыццё і запатрабавала ад яе найвышэйшай ступені адданнасці. Злучаная ў саюзе любові з Панам на Крыжы, яна не толькі напісала глыбокія старонкі пра «навуку Крыжа», але да канца прайшла школу Крыжа. Многія з нашых сучаснікаў хочуць абысці Крыж маўчаннем. Але няма нічога больш красамоўнага, чым маўчанне Крыжа! Сапраўднае пасланне цярпення — гэта ўрок любові. Любоў робіць плённым цярпенне, а цярпенне паглыбляе любоў.

Дзякуючы вопыту Крыжа Эдыта Штайн адкрыла шлях да новага спаткання з Богам Абрагама, Ісаака і Якуба, Айцом нашага Пана Езуса Хрыста. Для яе вера і Крыж непарыўна звязаныя; яны праліваюць святло адно на другое. Дасягнуўшы сталасці ў школе Крыжа, яна змагла знайсці карані, дзякуючы якім узрастала яе жыццёвае дрэва. Усвядоміла, як многа для яе значыць «быць дачкою выбранага народа, не толькі духоўна, але і паводле крыві належаць Хрысту».

«Бог ёсць Духам, і тыя, хто пакланяецца Яму, павінны пакланяцца ў Духу і праўдзе» (Ян 4, 24).

Дарагія браты і сёстры, гэтыя словы прамовіў боскі Настаўнік да жанчыны самаранкі каля студні Якуба. Тое, чым Ён адарыў сваю суразмоўніцу, якая выпадкова сустрэла Яго, але ўважліва слухала, адлюстравалася ва «ўзыходжанні на гару Кармэль» Эдыты Штайн. Глыбіня боскай таямніцы стала для яе зразумелаю ў цішыні кантэмпляцыі. На працягу свайго жыцця, паступова сталеючы ў пазнанні Бога, яна ўсё больш усведамляла сваё асаблівае пакліканне — прайсці разам з Хрыстом Крыжовы шлях, спакойна і з даверам прыняць крыж на свае плечы і, наследуючы свайго Абранніка, любіць крыж. Святая Тэрэза Бэнэдыкта ад Крыжа даецца нам сёння як узор, на які мы павінны раўняцца, а таксама як заступніца, у якой мы можам шукаць абароны.

Дзякуем Богу за гэты дар. Няхай новая святая будзе для нас прыкладам у служэнні свабодзе і ў пошуках праўды. Няхай яе сведчанне садзейнічае таму, каб усё больш умацоўваліся масты ўзаемаразумення паміж юдэямі і хрысціянамі.

Сястра Тэрэза, благаслаўлёная Крыжам, маліся за нас! Амэн.

*Падрыхтавала Ірына Бурак.*

*Паводле:* http://www.vatican.va/holy_father/john_paul_ii/homilies/1998/documents/hf_jp-ii_hom_11101998_stein_ge.html

Айцец Аркадзь Куляха OCD



# «СТУКНІ Ў КАМЕНЬ...»

У вёсцы Нарач, як і ў іншых месцах у Беларусі, ёсць брацкая магіла яўрэяў — жыхароў Кабыльніка, расстраляных фашыстамі ў 1942 годзе. Восеньскім днём, калі навокал шэра, сумна і ціха, можна асабліва моцна ўявіць жудасны лёс невінаватых людзей. Нібы гук стрэлаў чуецца зводдаль, плач і крык жанчын, перамяшаныя з апошнімі стогнамі ад болю. Уражлівы чалавек можа нават убачыць дзецей, якія туляцца да маці, не разумеючы, што адбываецца. Шмат, нават зашмат для чалавека, аднак гэта — рэальнасць, якая яшчэ доўга будзе трываць у лесе каля Нарачы. Чалавек чалавеку, брат брату падрыхтаваў такі жудасны, нечалавечы лёс. Аднак менавіта чалавек здольны і да любові, і да нянавісці. Усім нам неабходна памятаць пра высакароднасць дзяцей Божых, а таксама пра прыніжэнне і знішчэнне годнасці чалавека. Вопыт мінулых часоў вучыць, што калі нешта жахлівае здарылася ў мінулым, то яно, на жаль, магчымае і ў будучыні. Касцёл, дбаючы пра памяць і выхоўваючы чалавека дзеля шчаслівай будучыні паказвае прыклады прыгожай любові, здольнай у наследаванні Хрыста перамагаць зло дабром, а нянавісць — любоўю.

Сярод шматлікіх сведкаў Бога на шляхах чалавека ў гэтым годзе мы ўзгадваем святую Эдыту Штайн, кармэлітку босую, якая ў кляштары насіла імя Тэрэза Бэнэдыкта ад Крыжа. Сёлета спаўняецца 70 гадоў з часу яе мучаніцкай смерці і 25 гадоў беатыфікацыі. Ужо манаскае імя прадказвала яе будучыню і дарогу да збаўлення. Эдыта была ў захапленні ад св. Тэрэзы ад Езуса, настаўніцы з'яднання з Богам і хрысціянскай малітвы, і сама верна ішла яе шляхам. Крыж жа, які яна ўзлюбіла, моцна з'яднае яе з пакутуючым Хрыстом і перавядзе з часовасці ў вечнасць.

Семдзесят гадоў таму, 2 жніўня 1942 года, у кляштар кармэлітак босых у Эхце (Нідэрланды) пастукалі служкі гестапа. Мэтай іх наведзінаў быў арышт сясцёр яўрэйскага паходжання. У кляштары жылі Тэрэза Бэнэдыкта ад Крыжа і яе сястра Ружа, якая таксама была кармэліткай, аднак не насіла габіт і не жыла ў кляўзуры. Настаяцельніца намагалася не дазволіць арышт, але немцы прыгразілі дэпартацыяй усёй супольнасці. Сястра Тэрэза Бэнэдыкта, пакідаючы кляштар, усведамляючы, што яе чакае, сказала сваёй сястры Ружы: «Хадзі, пойдзем пакутаваць за наш народ!» Так распачаўся апошні перыяд зямнога жыцця святой, якая 9 жніўня стала ахвярай газавай камеры ў лагеры Аўшвіц-Біркенаў. Насамрэч, адтуль, з Асвенціма, падобна святому Максімільяну Марыі Кольбэ і незлічоным мучанікам, Эдыта Штайн будзе моцным голасам абвяшчаць праўду пра веліч Бога, з якім чалавек пакутуе, захоўваючы сваю годнасць, паміраючы і, уваскрасаючы, назаўсёды перамагае.

Падчас беатыфікацыі сястры Тэрэзы Бэнэдыкты ад Крыжа ў 1987 годзе ў Кёльне папа Ян Павел II сказаў, што Эдыта Штайн

---

Айцец **Аркадзь Куляха OCD** нарадзіўся 16 ліпеня 1966 г. у Хмельніку (Польшча). Пасля заканчэння сярэдняй школы ўступіў у ордэн кармэлітаў босых. Семінарыю пры ордэне скончыў у Кракаве, дзе ў 1993 г. атрымаў святарскае пасвячэнне, пасля якога працаваў у Гудагаі і Нарачы. З 2001 года працуе ў Міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі імя св. Тамаша Аквінскага ў Пінску. Абараніў ліцэнцыят па маральнай тэалогіі ў Люблінскім каталіцкім універсітэце.

— вялікая жанчына, незвычайная дачка Ізраэля — характарызавалася перадусім дзвюма цнотамі: мудрасцю і мужнасцю, якія патрэбныя заўсёды. Кожны чалавек хоча быць мудрым, таму здабывае веды, імкнецца ўвайсці ў кола знакамітых мысляроў, якіх называюць мудрымі, і шукае праўды. Для святой Тэрэзы Бэнэдыкты вяршыняй мудрасці была веда крыжа, а пошук праўды — шуканнем Бога. Пражыўшы 51 год на зямлі, Эдыта Штайн здабыла мудрасць, узыходзячы на яе вяршыню праз мужны пошук праўды і жыццю паводле яе. Аднак трэба памятаць, што святая шмат выцерпела, каб здабыць каштоўную евангельскую пярліну.



Сям'я Штайнаў у 1890-я гады. Эдыта (другая справа ў ніжнім радзе) ва ўзросце каля чатырох гадоў (фотамантаж: бацька Эдыты Зігфрыд Штайн загінуў у 1893 г.).

Эдыта Штайн нарадзілася 12 кастрычніка 1891 г. у Вроцлаве, у дзень юдэйскага Свята паяднання Йом Кіпур, і была наймалодшаю з адзінаццаці дзяцей Аўгусты і Зігфрыда Штайнаў — пабожных юдэяў. Маці Эдыты, адчуваючы гонар з прычыны свайго паходжання з выбранага народа, штодзённа культывавала веру і звычаі продкаў, скрупулёзна захоўваючы прадпісанні Талмуда і ўсе святочныя рытуалы. У гэтым духу яна выхоўвала і сваіх дзяцей. Эдыце не было яшчэ двух гадоў, калі памёр яе бацька і жыццё асірацелай сям'і згуртавалася вакол працавітай і гаспадарлівай маці, якая стала для дзяцей узорам маральнасці. Сям'ю не абміналі розныя выпрабаванні: з адзінаццаці дзяцей Штайнаў чацвёра памерла; з-за фінансавага банкроцтва дзядзькі, а потым і траюрадны брат Эдыты скончылі жыццё самагубствам.

Эдыта, улюбёная дачушка маці, была капрызнаю і ўпартаю, але мела чулае сэрца і востра перажывала ўласныя памылкі. Свае характэрныя рысы яна пазней развіла ў імкненне да адзіноты і разважання, унутранай ацэнкі ўражанняў і перажыванняў. Эдыта вызначалася яснасцю розуму, сталасцю, інтэлігентнасцю і дасканалай памяццю. Па сваёй натуры яна была таямнічаю і шмат марыла, таму яе часам называлі «кнігаю, закрытаю на сем пячатак». Гэты перыяд яна пазней успамінала так: «Я марыла аб шчасці і славе. Была перакананая ў сваім прызначэнні да чагосьці вялікага». Яна была стараннаю вучаніцаю, любіла шмат чытаць, мела гуманітарныя здольнасці, багаты ўнутраны свет і развітую фантазію, якую праяўляла ў кантрольных сачыненнях. Ёй асабліва падабаліся гісторыя і нямецкая мова.



Шасцігадовая Эдыта (справа) са сваёю любімаю сястрою Эрнаю. 1898 г.

У 14–15 гадоў Эдыта Штайн перажыла крызіс: не хацела больш вучыцца і мела сумненні адносна веры. Яе разважлівая маці не прымушала дачку да вучобы, але выслала ў Гамбург на дапамогу сястры, у якой нарадзілася дзіця. Менавіта выхаванне праз працу дапамагло Эдыце Штайн пасталець. Праз амаль дзевяць месяцаў яна вяртаецца ў Вроцлаў і вырашае вучыцца далей. Знаходжанне ў Гамбургу не паспрыяла яе рэлігійнаму сталенню: уплыў сястры і швагра, якія лічылі сябе атэістамі, спрычыніліся да таго, што яна свядома перастала маліцца, спрачалася са сваімі роднымі і нават крычала, што Бога няма. Падчас навучання ў ліцэі Эдыта Штайн захаплялася гісторыяй і мовамі, асабліва лацінаю, не ўсведамляючы, што гэта мова Касцёла, на якой праз нейкі час яна сама будзе маліцца. Прагнучы найхутчэй дасягнуць інтэлектуальнай самастойнасці, дзяўчына адначасова становіцца больш пакорнаю, менш самаўпэў-



Эдыта Штайн — супрацоўніца санітарнай службы Чырвонага Крыжа. 1915 г.

ненаю. У 1911 годзе Эдыта Штайн атрымала сярэднюю адукацыю. Падчас развітання з ёю дырэктар школы, маючы на ўвазе яе прозвішча, сказаў: «Стукні ў камень (ням. *Stein*) — і пырсне мудрасць...».

Адразу пасля школы будучая святая распачала навучанне ва ўніверсітэце ў родным Вроцлаве, выбіраючы гісторыю, германістыку і псіхалогію, спадзеючыся, што гэта наблізіць яе да праўды. Эдыта Штайн прымала актыўны ўдзел у феміністычным руху, звяртаючы ўвагу на патрэбу салідарнасці паміж жанчынамі.

Важным момантам у жыцці Эдыты Штайн было чытанне «Лагічных даследаванняў» феназаменолага Эдмунда Гусэрля, якія асвятляў у сваіх працах некаторыя аспекты ведаў пра чалавека, што ўжо даўно турбавалі яе. Феноменалогія са сваім метадам і навуковай базай адчыняла перад Эдытай Штайн новыя магчымасці, таму яна вырашыла працягнуць навучанне ў Гетынгене. У 1913 годзе дзяўчына актыўна ўваходзіць у свет філасофіі, пазнаючы ідэі Эдмунда Гусэрля, Адольфа Рэйнаха, Макса Шэлера, якія становяцца яе духоўнымі настаўнікамі. Яна захапляла сваіх сакурснікаў смеласцю ў складаных пытаннях і фенаменалагічным мысленнем, актыўна ўдзельнічала ў пасяджэннях Філасофскага таварыства для элітных колаў моладзі. Менавіта ў той час нарадзілася сяброўства Эдыты Штайн з Раманам Інгардэнам, з якім яна перапісвалася да пачатку вайны ў 1939 годзе. Дзякуючы лекцыям Макса Шэлера на рэлігійныя тэмы Эдыта сутыкнулася з невядомым ёй дагэтуль светам каштоўнасцяў і каталіцкіх ідэяў. Яна яшчэ не прыйшла да веры, але была ўзрушана гэтым «феноменам».

Навуковую працу перарвала вайна. Эдыта Штайн, як сапраўдная нямецкая патрыётка і асоба з вялікім пачуццём абавязку, у 1915 годзе працавала ў санітарнай службе Чырвонага Крыжа спачатку ва вроцлаўскім шпіталі, а пазней у ваенным шпіталі ў Граніцах, у Маравіі. Там яна спазнае іншае вымярэнне працы і служэння людзям, у якім набыла новую якасць — пакору душы.

У 1916 г., вярнуўшыся ва ўніверсітэт, Эдыта Штайн стала асістэнткаю Эдмунда Гусэрля, вытрымала доктарскі экзамен і разам з прафесарам пераехала ў Фрыбург. Яе першая праца была надрукавана ў 1917 годзе. Эдыта, здавалася, дасягнула поўнага жыццёвага поспеху, бо належала да нешматлікай групы жанчын, якія мелі магчымасць навучацца ў найлепшых установах. Яна пазнаёмілася з вядомымі людзьмі, была акружана сябрамі і любоўю вялікай сям'і, мела забяспечаны матэрыяльны быт. Нягледзячы на гэта, яна часта перажывала хвіліны дрэннага настрою і нават роспачы.

У жыцці Эдыты Штайн было некалькі пераломных момантаў, якія паўплывалі на яе адкрыццё праўды ў Каталіцкім Касцёле. Асаблівае ўражанне зрабіла на яе сустрэча са знаёмай, а потым ужо сяброўкай Ганнай, якая ў 1917 годзе страціла мужа — філосафа Адольфа Райнаха. Яны былі евангелістамі. Эдыта Штайн напіша, што гэта было набліжэнне да крыжа і моцы Божай. Яе ўразіла вера Ганны ва ўваскрашэнне, якая напаўняла яе радасцю. Значнай падзеяй стала выпадковае сузіранне незнаёмай самотнай жанчыны ў катэдры: Эдыта Штайн са сваёй сяброўкай зайшла ў святыню, каб разглядаць архітэктуру, аднак у яе памяці застаўся вобраз жанчыны, якая проста малілася ў самоце. Эдыта Штайн была здзіўленая гэтым, бо ніколі не бачыла, каб юдэі ці пратэстанты, з якімі яна сябравала, маліліся ў святыні па-за набажэнствам. Яна яшчэ не ведала, што ў касцёле ў Найсвяцейшым Сакрамэнце прысутнічае Езус, але час яе сустрэчы з Ім набліжаўся.

Вырашальнае значэнне для Эдыты Штайн мелі адведзіны сяброўкі Ядвігі Конрад-Марціус у 1921 годзе. Так склалася, што Эдыта Штайн не мела ахвоты ісці разам з сябрамі на забавы і засталася адна дома. Ядвіга прапанавала ёй штосьці пачытаць з багатай бібліятэкі. Яна выбрала даволі тоўстую кнігу — аўтабіяграфію святой Тэрэзы ад Езуса. Чытанне з вялікім захапленнем заняло ўсю ноч — так надышла для яе доўгачаканая хвіліна ласкі. Закрыўшы кнігу, яна з перакананнем скажа: гэта праўда! Цікавы той факт, што ў хатняй бібліятэцы пратэстантаў былі і каталіцкія кнігі. Зрэшты, сама Эдыта Штайн пасля прызнае, што ў працэсе яе набліжэння да Каталіцкага Касцёла важную ролю адыгралі знакамітыя філосафы, як Гусэрль, і сябры-пратэстанты.

Пасля прачытання аўтабіяграфіі святой Тэрэзы, на наступны дзень, Эдыта Штайн купляе

Катэхізіс і Імшал, каб па іх спазнаваць праўды веры — такім чынам яна самастойна рыхтуецца да хросту. Тут вельмі прыдатным сталася веданне замежных моваў і, найперш, лаціны, дзякуючы чаму яна магла разумець святую Імшу. Эдыта Штайн вырашае прасіць пробашча аб удзяленні хросту. Ксёндз паглядзеў на яе са здзіўленнем і растлумачыў, што да хросту трэба адпаведна падрыхтавацца праз катэхезу. Яшчэ большае здзіўленне выклікала заява адважнай і настойлівай жанчыны: «Калі ласкі, прыміце ў мяне экзамен!» Нельга было адмовіць, і хрост адбыўся 1 студзеня 1922 года. Хроснай маці была Ядвіга Конрад-Марціус. Эдыта Штайн прыняла на святым хросце імёны Тэрэза-Ядвіга. Яна ўвайшла ў Каталіцкі Касцёл ужо ў сталым узросце, трыццацігадоваю жанчынаю і доктарам філасофіі. У той самы дзень прыняла першую святую Камунію, а 2 лютага 1922 г., у свята Ахвяравання Пана, — сакрамэнт канфірмацыі ў Спіры. Там пазнаёмілася з канонікам Юзафам Швіндам, генеральным вікарыем, якога папрасіла аб духоўным кіраўніцтве і з гэтае пары даручала яму сваё духоўнае жыццё. Яна пачала рэгулярна хадзіць у касцёл на ранішнюю св. Імшу, асабліва палюбіла малітвы Брэвіярыя, якіх няма ў пратэстанцкай супольнасці. Цяпер яна разумела, што «ўсё ёсць ласкай». З моманту хросту Эдыта Штайн хацела больш актыўна ісці ўслед за Хрыстом і думала ўступіць у кляштар, аднак з прычыны супраціву духоўнага кіраўніка вырашыла цярпліва чакаць. На пытанні сяброў адносна навяртання яна адказвала: «Secretum meum mihi» («Гэта мая таямніца»), а некаторым прызнавалася, як некалі святы Аўгустын, што гэты працэс доўжыўся шмат гадоў, пакуль не прывёў да месца, дзе



Эдыта Штайн падчас вучобы ў Гётынгенскім універсітэце. 1913 г.

кожнае неспакойнае сэрца знаходзіць суцяшэнне і спакой. Яна будзе таксама ўзгадваць, што як каталічка больш проста жыве, чым займаецца філасофіяй, а яе працы з'яўляюцца толькі адлюстраваннем яе жыццёвых пошукаў.

Вельмі складанаю пасля навяртання была сустрэча ў Вроцлаве з любімаю маці, для якой прыняцце іншай веры азначала адступніцтва, здраду. Гэтак жа лічылі і яе родныя, якім не дапамагала тлумачэнне Эдыты і прызнанне ў любові да яўрэйскага народа. Яна моцна пакутавала ад незразумення і адкінутасці, але пры гэтым ззяла нейкай звышнатуральнай моцай і шчасцем. Эдыта Штайн прабыла паўгода ў Вроцлаве — наведвала разам з маці сінагогу, малілася псальмамі, захоўвала пост.

У 1923 г. Эдыта распачала ў Спіры працу ў якасці настаўніцы нямецкай мовы, літаратуры і гісторыі. Вызначалася сумленнасцю і працавітасцю, сціплым стылем жыцця. Яна чэрпала сілы са штодзённай св. Імшы, адарацыі Найсвяцейшага Сакрамэнту, малітвы, асабліва Літургіі гадзінаў, была простая, адкрытая і зычлівая для ўсіх, чым мела вялікі ўплыў на вучаніцаў. У радыкальным дары з сябе, дзеля любові да Хрыста, у рукі духоўнага кіраўніка яна склала прыватныя шлюбы чыстасці, убоства і паслухмянасці. Тады ж вярнулася да навуковай дзейнасці. Раней Эдыта лічыла, што дзеля праўдзівага рэлігійнага жыцця неабходна адмовіцца ад усяго зямнога, цяпер жа зразумела, што чалавек, па-сапраўднаму злучаны з Богам, можа перажываць сваю веру ў свеце, сярод іншых людзей, на месцы сваёй працы і ў сваім асяроддзі. Вывучэнне дактрыны св. Тамаша Аквінскага і пераклад з лацінскай мовы *«Questiones disputatae de veritate»* перавярнула ўсё яе ранейшае філасофскае мысленне. Эдыта пазнаёмілася з тэрміналогіяй і паняццямі схаластыкі і зразумела, што навуковая актыўнасць можа стаць служэннем Богу. Нават у кляштары яна не перастане пісаць, зрэшты там паўстануць яе найзнакаміцейшыя творы: *«Скончаны і вечны быт»*, *«Шляхі пазнання Бога»* і *«Навука Крыжа»*, якія яна дапоўніць сваёю смерцю.

Эдыту Штайн запрашаюць у розныя гарады Германіі, Швейцарыі і Аўстрыі з лекцыямі, у якіх яна звяртала ўвагу на неабходнасць добрага выхавання, пабудаванага на хрысціянскіх каштоўнасцях, вучыла каталіцкаму разуменню фемінізму, падкрэсліваючы ў святле прыроды і ласкі дар Бога — пакліканне жанчыны да ролі маці, жонкі, а таксама да прафесіі і кансэкраванага жыцця, у чым яна пазнае сваю вартасць і адкрыецца на любоў, найбольшую праяву жаноцкасці. Эдыта стала сапраўднай настаўніцай для шматлікіх дзяўчат і жанчын не праз тое, што была асабліва мудрай, вучонай і ўмела прыгожа гаварыць,



Аблучыны ў кармэліцкім кляштары ў Кёльне. 15 красавіка 1934 г. Д-р Эдыта Штайн стала сястрою Тэрэзаю Бэнэдыктаю ад Крыжа, «благаслаўлёнаю Крыжам».

але дзякуючы таму, што сама жыла глыбока ўнутры сваёй душы, была пакорнай і шмат малілася, таксама перад Найсвяцейшым Сакрамэнтам, разумеючы, што адданне сябе Богу ў любові ў адказ на адданне Бога душы, поўнае і трывалае з'яднанне з Ім — гэта шлях да таго, каб стаць любоўю ў сэрцы Касцёла. Гэтай праўдзе Эдыта Штайн навучылася ў школе св. Тэрэзы ад Дзіцятка Езуса. Як руплівая каталічка, Эдыта стала хроснай маці шматлікіх канвертытаў з юдаізму, некаторых сама рыхтавала да хросту, аднак безвыніковым было яе апостальства сярод членаў сям'і. Менавіта найбліжэйшыя не змогуць зразумець яе рашэння, і толькі адна з сясцёр пасля смерці маці прыме хрост.

У 1932 годзе Эдыта Штайн распачынае працу дацэнта педагогікі і антрапалогіі ў Мюнстэры і тут вядзе прыкладнае жыццё. Шматлікія заняткі не перашкаджалі ёй у інтэнсіўным духоўным жыцці. Сярод штодзённых справаў яна ўмее знайсці час на малітву, Эўхарыстыю ці служэнне ўбогім, якіх, дарэчы, сама шукала. Сёння, калі чалавек вельмі хутка круціцца ў віры часу, асоба Эдыты Штайн звяртае ўвагу на патрэбу і магчымасць трывання ў Божай прысутнасці. Іншай справай ёсць прыклад каталіцкага вучонага, чыноўніка, служачага або наогул верніка, які сваім жыццём становіцца ўзорам для бліжніх.

Жудасны перыяд распачаўся ў 1933 годзе, калі ўрад забараняе яўрэям публічную дзейнасць. Эдыта страціла працу. Знаёмыя раяць ёй выехаць у Амерыку, каб там працягнуць навуковую дзейнасць, але яна вырашае застацца на радзіме. Парадаксальна, але цяпер адчынілася перад ёю дарога ў Кармэль. Духоўны кіраўнік, які дагэтуль стрымліваў яе ад уступлення ў кляштар, удзяляе ёй благаслаўленне. Аднак было б памылкова думаць, што Эдыта Штайн выбрала кляштар таму, што не мела чаго рабіць у свеце і што зрабіла гэта хутка. Яна разумела, што пакліканне – гэта дар, які нясе вялікі патэнцыял, ведала таксама, што на дарозе паклікання хапае перашкодаў і цяжкасцяў. Эдыта Штайн вучыць тых, хто адчуў у глыбіні душы пакліканне да манаскага ці святарскага жыцця, якім чынам адказаць на Божы голас. Па-першае, яна адкрываецца на Духа Святога, шукае інфармацыі і шмат моліцца. Па-другое, шукае дапамогі ў спаведніка і духоўнага кіраўніка і, патрэцяе: распазнаўшы, ужо не сумняваецца, але прымае дар Бога і ідзе наперад. Для таго, хто адкрыў пакліканне, вельмі важна не думаць, што на іншай дарозе будзе лепш, бо гэта можа быць спакусаю. Пасля доўгага часу роздумаў, у нядзелю Добрага Пастыра ў 1933 годзе, Эдыта Штайн падчас адарацыі прасіла адказу, ці павінна яна ўжо пайсці ў Кармэль. Калі святар удзяляў благаслаўленне, яна пачула «так» ад Пана.

Жыццё кармэліткі босай патрабавала ад нашай святой шмат вырачэнняў і намаганняў. Ёй было ўжо 42 гады, калі яна пераступіла браму кармэліцкага кляштара ў Кёльне. Радыкалізм, з якім яна ставілася да веры, дапамог ёй вытрымаць выпрабаванне і застацца ў Кармэлі. Нехта можа задаць пытанне пра сэнс жыцця ў кляўзуры. Сястра Тэрэза Бэнэдыкта ад Крыжа (гэта манаскае імя Эдыты Штайн) можа адказаць, што кляўзура не закрываецца на справы свету, але яшчэ мацней злучаецца з ім праз еднасць з Богам, якому ўсё належыць. Пакліканне кармэліткі, паводле святой, гэта плённае супрацоўніцтва са справай адкупення свету, лучнасць з Хрыстом, які жыве і пакутуе ў членах свайго Містычнага Цела. Яна сама прагне разам з Кармэлем заступацца за грэшнікаў праз добраахвотнае і радаснае прыняцце пакутаў. Кармэль быў для яе высокай гарой, на якую трэба падняцца ажно на шчыт. Пакліканым, незалежна ад харызмату, Тэрэза Бэнэдыкта хоча сказаць, што кансэкраванае жыццё толькі тады набы-



Сёстры Роза (злева) і Эдыта Штайн у кармэліцкім кляштары ў горадзе Эхт. 1939 г.

вае сэнс, калі прысвечаныя Богу не застаюцца сярэднімі, але імкнуцца да дасканаласці і цалкам жывуць для Бога і людзей. Эдыта Штайн у манаскім жыцці паказвае сэнс місіі кансэкраванай асобы: прывесці людзей да Хрыста. Чалавечая любоў імкнецца затрымаць для сябе прадмет любові, а хто любіць людзей па-хрысціянску, падобна Хрысту, хоча, каб яны належалі Богу, а не яму. Калі хтосьці прывядзе чалавека да Бога, то злучаецца з ім у Богу, у той час як жаданне мець яго для сябе часта вядзе да таго, што раней ці пазней мы яго губляем.



Канцэнтрацыйны лагер Вестэрборк — прамежкавая станцыя на шляху да смерці ў Аўшвіц-Біркенаў.

Сястра Тэрэза Бэнэдыкта прагне святасці, якую разумее як вернасць пазнанай праўдзе, што дапаўняецца ў любові. Яна ішла за прыкладам Найсвяцейшай Маці, якая ведала праўду пра сябе як абраную Богам і была вернай у пакоры: ведаю, хто я, таму імкнуся стаць, кім я ёсць, дзякуючы ласцы. Сучаснага чалавека, які дзякуючы дасягненням навукі і тэхнікі хоча спазнаць усю рэчаіснасць, святая вучыць, што веды эмпірычныя з'яўляюцца акном у свет, але часам моцна прывязваюць чалавека да часовага і матэрыяльнага, абмяжоўваючы поле ягонага бачання, і нават робяць яго нявольнікам, перапаўняюць нутро такім чынам, што там няма месца для Бога. Праўда пра Бога не залежыць ад розуму, волі, уяўленняў ці пачуццяў, але ёсць дарам, які толькі Бог можа ўдзяліць душы. Калі Эдыта Штайн пазнала Бога, Ён стаў для яе ўсім, і яна зразумела тады, што толькі Бог можа ўчыніць яе святой сабе вядомым чынам, таму даверыла сябе Пану і ахвяравала сваё жыццё, каб спыніць дзеянне антыхрыста, і прагнула, каб у ёй споўнілася Божая воля.

Згода з Божай воляй ёсць для кожнага веруючага крыніцай шчасця. Для святой Эдыты Штайн выкананне Божай волі вяло праз крыж, які яна прыняла ў лучнасці з Хрыстом — уваскрослым Пераможцам. Яна дасканала ведала, што Бог заўсёды перамагае ў тых, хто Яго любіць. Сённяшні чалавек часта баіцца Божай волі, думаючы, што яна адбярэ яго незалежнасць і свабоду. Яшчэ больш сучасных людзей палохае перспектыва крыжа і пакутаў, якіх яны стараюцца ўсялякімі спосабамі пазбегнуць. Святая Тэрэза Бэнэдыкта стаіць перад чалавекам са сведчаннем аб моцы крыжа з заклікам: «Avecrux, spesunica!» («Вітай, крыжу, адзіная надзея!»). Гэтыя словы святая Эдыта прамовіла перад абліччам нянавісці, болю вайны, смерці нявінных, непашаны да жыцця і годнасці чалавечай асобы, якія нёс нацызм. Крыж — гэта крыніца міласэрнасці, у якой благаслаўлёны Ян Павел II бачыў надзею і спакой для свету, шчасце для кожнага чалавека.

Для св. Тэрэзы Бэнэдыкты заўсёды найважнейшым пасля Бога быў чалавек. Сведкі яе апошняй зямной дарогі кажуць, што яна захоўвала спакой духу і клапацілася аб церпячых. Адна выява святой паказвае яе ў кармэліцкім габіце з зоркай Давіда ў атачэнні дзяцей, якім яна дапамагала па дарозе ў Аўшвіц-Біркенаў.

...Зямны шлях скончыўся, ахвяра была складзеная — Эдыта далучылася да незлічонага ліку верных аж да смерці, якія няспынна прамаўляюць да наступных пакаленняў. Яна вучыць магчымасці і вартасці дыялогу паміж навукай і верай, цярплівому шуканню праўды і стойкасці перад перашкодамі. Асабліва яна прамаўляе да маладога пакалення, заахвочваючы дзяўчат і юнакоў быць мужнымі, імкнуцца да мудрасці і любові, будаваць жыццё на моцным фундаменце, адкрываючы ў сабе патэнцыял, шчодра дадзены Богам. Яна паказвае вартасць жанчыны, якую Бог надзяліў надзвычай вялікім дарам: сэрцам, здольным да асаблівай паслугі — любові. У эпоху рэлятывізму Эдыта Штайн перасцярагае перад этыкай і біяэтыкай без Бога, якая можа прывесці да знішчэння асобы, а таксама заклікае да праўдзівага хрысціянскага жыцця, пранікнёнага верай. Вернікам Касцёла яна прапануе Эўхарыстычную і Марыйную духоўнасць з яе традыцыйнымі набажэнствамі і малітвамі. Апякунка Еўропы, якая перажыла крызіс веры, моцным голасам гаворыць тым, хто яшчэ шукае праўды, што яна носіць імя Езуса Хрыста.

# Духоўнасць —



Эдыта Штайн — выкладчыца ў школе пры кляштары даміканак у Шпрэеры. 1926 г.

Я ўвесь час дарэмна стараюся зразумець, якую ролю мы, людзі, выконваем у падзеях, што адбываюцца ў свеце. Нядаўна мне трапілася на вочы адно месца ў Евангеллі паводле Лукі: «Сапраўды, Сын Чалавечы ідзе, як вызначана, але гора таму чалавеку, які выдае Яго!». Хіба ж не дзейнічае гэта ўвогуле? Мы прыводзім да таго, што здзяйсняюцца тыя ці іншыя падзеі, і нясём за гэта адказнасць. І ўсё ж, у прынцыпе, не ведаем, што робім, і не можам затрымаць гісторыю свету, нават калі ад яе адмаўляемся. Праўда, усвядоміць гэта немагчыма. Зрэшты, для мяне рэлігія і гісторыя ўсё больш збліжаюцца; і мне здаецца, што сярэднявечныя летапісцы, якія ўціскалі гісторыю свету паміж грэхападзеннем і Страшным Судом, былі больш дасведчаныя, чым сучасныя спецыялісты, у якіх за бясспрэчна ўстаноўленымі навуковымі фактамі згубіўся сэнс гісторыі.

*Ліст да Рамана Інгардэна*
*ад 19.02.1918 г.*

Людзі няўстойлівыя і шукаюць апоры. Ім хочацца канкрэтнай, змястоўнай праўды, якая вытрымлівае выпрабаванне жыццём, ім хочацца «жыццёвай філасофіі». Такую філасофію яны знаходзяць у св. Тамаша.

*«Фенаменалогія Гусэрля*
*і філасофія св. Тамаша Аквінскага»*

Я адчуваю, што мяне нешта падтрымлівае, і знаходжу ў гэтым спакой і бяспеку — не самаўпэўненую бяспеку поўнага сілы мужчыны, які цвёрда стаіць на ўласных нагах, а салодкую і шчаслівую бяспеку дзіцяці, якое нехта дужы нясе на руках, — бяспеку, аб’ектыўна, даволі неразважлівую. Але ж ці было б «разважлівым» дзіця, якое пастаянна жыве ў страху, што маці можа дазволіць яму ўпасці?

*«Канцовае быццё і Быццё вечнае»*

Рэлігія не з’яўляецца нечым для ціхага кутка і для некалькіх урачыстых гадзінаў, яна павінна... быць коранем і асноваю ўсяго жыцця, і гэта не толькі для некалькіх выбраных, але для кожнага сапраўднага хрысціяніна. <...> Непасрэдна перад сваім пераходам у хрысціянскую веру і яшчэ нейкі час пасля яго я думала, што весці рэлігійнае жыццё — азначае адмовіцца ад усяго зямнога і жыць толькі думкамі пра боскія рэчы. Паступова, аднак, я зразумела, што ў гэтым свеце ад нас патрабуецца іншае і што нават у кантэмпляцыйным жыцці сувязь са светам не можа перарывацца; я нават упэўненая: чым глыбей нехта далучаецца да Бога, тым больш ён павінен таксама ў гэтым сэнсе «выходзіць з сябе», гэта значыць у свет, каб рэалізоўваць у ім боскае жыццё.

Толькі вельмі важна наступнае: спачатку, на самай справе, займець ціхі куток, дзе можна было б так падтрымліваць адносіны з Богам, нібыта больш нічога няма, і рабіць гэта штодзённа: самымі адпаведнымі для гэтага мне здаюцца ранішнія гадзіны, пакуль не пачалася дзённая праца; далей — атрымаць там сваю асаблівую місію, найлепш на кожны дзень, а таксама нічога не выбіраць самому; нарэшце, разглядаць сябе цалкам як прыладу; у прыватнасці, [разглядаць] сілы, з выкарыстаннем якіх асабліва трэба будзе працаваць, напрыклад, розум у нашым выпадку, — як тое, што патрэбна не нам, а Богу ў нас.

<...> Маё жыццё пачынаецца нанава кожную раніцу і заканчваецца кожны вечар; планаў і намераў па-за гэтым у мяне няма; зразумела, можна загадзя абдумваць тое, што адносіцца да паўсядзённых заняткаў, — праца ў навучальнай установе, напрыклад, без гэтага немагчымая, — але не павінна быць «клопату» пра надыходзячы дзень.

# корань і аснова ўсяго жыцця

## Фрагменты з лістоў і твораў святой Эдыты Штайн

Цяпер Вы разумееце, чаму я не магу згадзіцца, калі Вы кажаце, што я нечым «стала». Здаецца, нібыта кола маіх паўсядзённых заняткаў становіцца больш шырокім. Але я думаю, што гэта нічога не змяняе ўва мне. Ад мяне патрабуецца тое ці іншае, і я гэта прымаю, хоць мне яшчэ невядома, што яно ўключае і якімі шляхамі павінна рэалізавацца на практыцы.

*Ліст да с. Калісты Копф OP ад 12.02.1928 г.*

Гляджу ў вочы чалавеку, і яго позірк адказвае мне. Ён дазваляе мне пранікнуць у свой унутраны свет або хавае яго ад мяне. Ён — гаспадар сваёй душы і можа адкрыць яе брамы ці закрыць. Ён можа выйсці з самога сябе і ўвайсці ў рэчы. Калі двое людзей глядзяць адзін на аднаго, то адно «я» стаіць насупраць другога «я». Сустрэча можа адбыцца перад брамаю або ў глыбінях душы. Калі сустрэча адбываецца ў глыбіні душы, то другое «я» — гэта «ты». Позірк чалавека прамаўляе. Адтуль «глядзіць» на мяне самаўладнае, пільнае «я».

*«Структура чалавечай асобы».*
*Лекцыі па філасофскай антрапалогіі.*
*1932–1933 гг.*

Словы, якімі карыстаюцца, каб да нечага падвесці, — як звычайна казаў Макс Шэлер, — маюць толькі значэнне ўказкі: паглядзі туды, і ты зразумееш, што я маю на ўвазе. «Я», «жыццё», «радасць» — хто мог бы зразумець, што азначаюць гэтыя словы, калі б сам на сабе не зведаў гэта? Але калі чалавек зведаў гэта на сабе, то ён ведае тады не толькі сваё ўласнае «я», сваё жыццё і сваю радасць, але разумее таксама, што такое ўвогуле «я», «жыццё», «радасць»; і толькі таму, што ён гэта разумее, ён можа ўсведамляць і спасцігаць сваё ўласнае «я», сваё жыццё, сваю радасць як «я», жыццё, радасць.

*«Канцовае быццё і Быццё вечнае»*

Існуе стан спакою ў Богу, поўнага заспакаення ўсялякай духоўнай дзейнасці, у якім чалавек не складае ніякіх планаў, не прымае ніякіх рашэнняў і тым больш не здзяйсняе ўчынкаў, але ўсю будучыню пакідае ў распараджэнне Божай волі, цалкам аддае сябе «на волю лёсу». Можа, такі стан выпаў на маю долю пасля перажывання, якое перавышала мае сілы, поўнасцю вычарпала маю духоўную жыццёвую энергію і пазбавіла мяне ўсялякай актыўнасці. Спакой у Богу ў параўнанні з пазбаўленнем актыўнасці з-за недахопу жыццёвай энергіі з'яўляецца нечым цалкам новым і своеасаблівым. Тое было мёртваю цішынёю. Замест яго з'явілася цяпер пачуццё бяспекі, быцця, свабоднага ад усялякіх турботаў, адказнасці і абавязкаў. І калі я аддалася гэтаму пачуццю, мяне паступова пачало напаўняць новае жыццё, прымушаючы мяне — без наўмыснага напружання — да новай дзейнасці.

*«Да пытання пра філасофскае абгрунтаванне псіхалогіі і гуманітарных навукаў»*



Канвент Кармэлю ў Эхце. Першая злева ў верхнім радзе — сястра Бэнэдыкта (Эдыта Штайн). Вясна 1949 г.



Доктар філасофіі Эдыта Штайн. 1931 г.

Эдыта Штайн

# ХРЫСЦІЯНСКАЕ ЖЫЦЦЁ ЖАНЧЫНЫ

## Паводле лекцый, прачытаных для каталіцкай арганізацыі жанчын у Цюрыху ў студзені 1932 года

<...> Мы не можам абысці пытанне, кім мы з’яўляемся і што павінны рабіць. І не толькі інтэлект ставіць нас перад ім. Само жыццё зрабіла нашае жыццё праблемаю. <...> Паспрабуем зазірнуць у глыбіню нашага быцця; мы ўбачым, што яно не з’яўляецца гатовым, а знаходзіцца ў працэсе станаўлення; кім мы з’яўляемся і кім становімся — адказ на гэтае пытанне не заключаецца ў самым пытанні, ён павінен быць больш глыбокім. Паколькі ўсё нашае быццё, станаўленне і дзейнасць у часе запланаваныя спрадвеку, маюць сэнс для вечнасці, то яны становяцца для нас зразумелымі, калі мы разглядаем іх у святле вечнасці.

### I. Жаночая душа

<...> Калі жанчына імкнецца стаць тым, кім яна павінна быць, то яна дазваляе чалавечнасці, якая дрэмле ў ёй, набліжацца да найбольш дасканалага развіцця ў асаблівым, індывідуальным праяўленні, менавіта ў такім, у якім яна закладзена ў жанчыне. Сталець, з’яднаўшася ў любові, — а такая лучнасць вельмі плённа ўздзейнічае на працэс сталення — і ў той жа час заахвочваць іншых да сталення і патрабаваць ад іх гэтага дзеля дасягнення дасканаласці — гэта найглыбейшая туга жанчыны, якая можа прымаць розныя аблічча, але можа таксама скажацца і выраджацца. Гэтая туга адпавядае, як пазней будзе паказана, вечнаму прызначэнню жанчыны. Тое, што гэта спецыфічна жаночая якасць, а не проста чалавечая туга, можна ўбачыць пры параўнанні яе са спецыфічна мужчынскімі прагненнямі.

Апошнія мацней скіраваныя на знешнюю дзейнасць, на ўчынак і справу, на аб’ектыўнае дасягненне, чым непасрэдна на персанальнае быццё, уласнае і іншых людзей. Аднак таго і другога нельга поўнасцю раздзяляць. Душа чалавека сама па сабе не існуе як нешта гатовае, у стане спакою. Яе быццё — гэта станаўленне, у працэсе якога яе сілы, прынесеныя ёю з сабою ў свет як зародкавыя задаткі, павінны развівацца. Аднак гэтыя сілы развіваюцца толькі дзякуючы актыўнасці. Такім чынам, жанчына можа толькі тады набліжацца да самага дасканалага развіцця сваёй асобы — чаго яна так прагне, — калі задзейнічаныя яе сілы. А мужчына працуе над сваім асабовым быццём — часам нават не ўсведамляючы гэта як мэту, — калі стараецца рэальна нечага дасягнуць. У галоўных рысах структура душы ў іх тая ж самая: душа знаходзіцца ў целе, ад моцы і здароўя якога залежаць яе моц і здароўе — хоць і не выключна і цалкам; з другога боку, цела атрымлівае дзякуючы душы сваё быццё як цела: жыццё, рух, форму і аблічча, а таксама пачуццё духоўнага. З-за пачуццёвасці, якая з’яўляецца і цялесным, і псіхічным быццём, духоўнае быццё раскрываецца як інтэлектульная дзейнасць, скіраваная на пазнанне свету, як воля, што ўмешваецца ў гэты свет, ствараючы і фармуючы яго, і як адкрытасць сэрца, што ўнутрана прымае гэты свет ці канфрантуе з ім. Але мера і суадносіны гэтых сілаў вельмі розныя ў асобных індывідуумаў, а ў мужчын і жанчын гэтае адрозненне мае спецыфічны характар. <...> Мне здаецца, што жаночая душа больш інтэнсіўна жыве і прысутнічае ва ўсіх частках цела, і тое, што ў ім адбываецца, яе глыбока закранае; а ў мужчыны цела больш

мае характар прылады, якая дапамагае яму ў працы, што, у выніку, цягне за сабою пэўнае аддаленне ад яго. Гэта звязана, хутчэй за ўсё, з пакліканнем жанчыны да мацярынства: заданне прыняць у сябе жывую істоту, якая зараджаецца і расце, ахоўваць яе і карміць, само па сабе абумоўлівае пэўнае рашэнне. Таямнічы працэс стварэння новай істоты ў мацярынскім арганізме — гэта настолькі інтымнае адзінства духоўнага і цялеснага, што становіцца зразумелым: такое адзінства пакідае адбітак на ўсёй жаночай прыродзе. Але з гэтым звязана пэўная небяспека. Калі павінна існаваць правільнае, адпаведнае прыродзе ўрэгуляванне паміж душою і целам (г.зн. урэгуляванне, якое адпавядае непашкоджанай прыродзе [што было да грэхападзення]), то целу павінны ўдзяляцца патрэбны пасілак, дагляд і практыкаванне, якія будуць абумоўліваюць бесперабойнае функцыянаванне арганізма. Як толькі целу даецца больш — а патрабаваць больш адпавядае яго пашкоджанай прыродзе, — то гэта адбываецца за кошт душы, яе духоўнага быцця; замест таго, каб панаваць над целам і адухаўляць яго, душа ў ім патанае і яно страчвае ўласцівыя яму рысы чалавечага цела. <...>

Сіла жанчыны ў адкрытасці сэрца. Гэта звязана з яе скіраванасцю на асабовае быццё. Парывы сэрца і настрой дапамагаюць душы зразумець яе ўласнае быццё, тое, чым яна з'яўляецца і якая яна, а таксама зразумець значэнне чужога быцця для яе ўласнага, спецыфічныя якасці і звязаную з імі вартасць рэчаў па-за ёю, іншых асобаў і неасабовых стварэнняў. <...> Дзякуючы гэтаму жанчына па сваёй прыродзе лепш, чым мужчына, абароненая ад аднабаковай дзейнасці і аднабаковага развіцця яе сілаў, а з другога боку, яна менш прыдатная для найвышэйшых дасягненняў у якой-небудзь сферы, што заўсёды набываюцца коштам аднабаковай канцэнтрацыі ўсіх сілаў душы, і ў большай ступені падлягае небяспецы распылення сілаў. Акрамя таго, вельмі небяспечнай з'яўляецца і тая аднабаковасць, да якой яна схільная па сваёй прыродзе, — аднабаковае развіццё сферы пачуццяў. <...>

## III. Дзейнасць жанчыны

<...> Жанчына, якая, паводле словаў Святога Пісання, была дадзена мужчыну, каб ён не быў адзін, але меў памочніцу, якая б яму адпавядала, будзе выконваць сваё пакліканне як жонка праз тое, што зробіць яго справу сваёю. <...> «Яго справа» — гэта звычайна ў першую чаргу прафесійная дзейнасць. Удзел жанчыны ў прафесійнай дзейнасці мужчыны можа быць разнастайным. Перадусім яе заданне — так весці дом і хатняе жыццё, каб яны не перашкаджалі, а садзейнічалі прафесійнай дзейнасці. <...>

Аднак жанчына з'яўляецца «адпаведнаю» памочніцаю мужа не толькі таму, што прымае ўдзел у яго справе, але таксама таму, што яна дапаўняе яго і супрацьдзейнічае небяспецы, якая пагражае з-за яго спецыфічна мужчынскай прыроды (у той альбо іншай індывідуальнай праяве). Гэта яе заданне: па меры сіл клапаціцца аб тым, каб ён не аддаваўся занадта сваёй прафесіі, каб не даў тым самым загінуць сваёй чалавечнасці і не закінуў сваіх абавязкаў бацькі. Гэта ўдасца ёй тым лепш, чым больш яна сама будзе сталаю як асоба; для гэтага трэба, каб у сумесным жыцці з мужам яна сама не страціла сябе, а прывяла да росквіту свае ўласныя дары і сілы.

Заданне маці ў адносінах да дзяцей блізкае да яе задання ў адносінах да мужа. Але тут жанчына павінна ў першую чаргу даглядаць за імі, клапаціцца аб іх развіцці, спадарожнічаць ім у сталенні, паступова адыходзячы на задні план. Ад яе патрабуецца, з аднаго боку, яшчэ больш чулае суперажыванне, паколькі важна заўважыць схільнасці і сілы, якіх самі дзеці яшчэ не ўсведамляюць, важна прадчуваць нешта, чаго яшчэ не існуе, а толькі можа быць. З другога боку, магчымасць уздзеяння большая, таму што дзіцячая душа яшчэ пластычная, яна лягчэй і больш яўна праяўляе сябе і яшчэ не супраціўляецца знешняму ўплыву. Усё гэта павялічвае адказнасць маці.

Заданне прывесці да найбольш чыстага і дасканалага развіцця ў мужу і ў дзецях індывідуальных і спецыфічных чалавечых якасцяў прадугледжвае скіраванасць жанчыны на самаадданае служэнне: яна не можа разглядаць іншых ні як сваю ўласнасць, ні як сродак для дасягнення сваіх мэтаў, але як давéранае ёй дабро. Гэта станецца толькі тады, калі яна будзе бачыць у іх боскія стварэнні, у адносінах да якіх яна павінна выканаць сваё святое заданне. Ужо развіццё дадзенай ім Богам прыроды з'яўляецца святым заданнем. У яшчэ большай ступені такім заданне з'яўляецца фармаванне іх для Нябеснага Валадарства, у гэтым мы бачам звышнатуральнае заданне жанчыны: запаліць у сэрцах мужа і дзяцей іскру любові Божай або зрабіць яе больш яркай. Жанчына здолее зрабіць гэта толькі тады, калі будзе разглядаць сябе самую як Боскую прыладу і рыхтаваць сябе да гэтага. <...>

## IV. Жыццё жанчыны ў святле вечнасці

Прызначэнне жанчыны запланаванае спрадвеку. Яна павінна жыць, абапіраючыся на вечныя асновы, каб у гэтым свеце выканаць сваё прызначэнне.

Калі яна выконвае свае прызначэнне, яна ўрастае ў вечнае жыццё.

«І стварыў Бог чалавека паводле свайго вобразу, паводле Божага вобразу стварыў яго, стварыў мужчыну і жанчыну»[1]. Паколькі Бог увёў чалавека ў свет не як адзінкавы, а як двайны від (*Species*), то павінен быў напоўніць існаванне гэтых *Species* як агульным, так і розным сэнсам. Па вобразе Бога сфармаваныя абое. І як кожнае стварэнне ў сваёй канцовасці можа адлюстроўваць толькі невялікую частку боскай істоты, а ў разнастайнасці стварэнняў адлюстроўваецца бясконцае адзінства і простасць Бога — нібы змяшаная ў вялікай колькасці розных праменяў, — так і мужчынскі і жаночы від будуць парознаму адлюстроўваюць боскі правобраз. Аўгустын і Тамаш, а таксама традыцыя, якая абапіралася на іх думку, бачылі ў чалавечым духу вобраз Тройцы. Гэта разумелася па-рознаму, але галоўным чынам азначала, што ў быцці, пазнанні і любові перададзены [уласцівасці] Айца, Сына і Духа. Калі ў Сыну Асобаю стала боская Мудрасць, а ў Духу — Любоў; калі, з другога боку, у мужчынскай натуры пануючым з'яўляецца розум, а ў жанчыне —сэрца, то гэта разумелася так, што жаночая натура асаблівым чынам звязаная з Духам Святым. Калі Дух Святы, які з'яўляецца Богам, сыходзіць з самога сябе і ўваходзіць у стварэнні, увасабляючы тым самым Божую плоднасць, якая стварае і даводзіць [усё] да дасканаласці, то мы можам зноў жа знайсці гэтую плоднасць у прызначэнні жанчыны як «маці жывых» даваць праз сваё жыццё новае жыццё і — калі яно атрымала самастойнае існаванне — садзейнічаць яму дзеля найбольш дасканалага развіцця. Калі Дух Святы з'яўляецца Суцяшыцелем і Заступнікам, які лечыць параненае, саграває скамянелае, падмацоўвае нямоглае; калі Ён як Айцец убогіх з'яўляецца Даўцам ласкаў, то мы зноў знаходзім Яго ва ўсіх справах жаночай любові і спагадлівасці. Дух, які адмывае дачыста забруджанае, робіць падатлівым цвёрдае, адлюстроўваецца ў жаночай чыстасці і лагоднасці; жанчына не толькі сама чыстая і лагодная, але хоча распаўсюджваць чыстасць і лагоднасць вакол сябе. Нічога гэтаму «наймілейшаму Духу», які не жадае быць нічым іншым як толькі боскім Святлом, што выпраменьваецца з Бога, Любоўю, якая прагне служыць, — нічога Яму не супрацьстаіць больш, чым пыха, што сцвярджае сябе самую, і прагнасць, якая хоча ўварваць для сябе. Таму першы грэх, у якім сустрэліся пыха і прагнасць, з'яўляецца здрадаю Духу Любові і тым самым — здрадаю жаночай сутнасці ў адносінах да сябе самой. <...>



Эдыта Штайн з сынам свайго стрыечнага брата. Каля 1931 г.

Найчысцейшая Дзева — адзіная, якая была захаваная ад усялякай плямы граху. Ніводная жанчына, акрамя Яе, не ўцелаўляе жаночую натуру ў яе першапачатковай чыстасці. Кожная мае ў сабе нешта ад Евінай спадчыны і павінна шукаць шлях ад Евы да Марыі. У кожнай жыве нешта ад упартасці, што не жадае схіляцца ні пад чыё панаванне, у кожнай — нешта ад прагнасці, што хоча схапіць забаронены плод. Адно і другое стрымліваюць у жанчыне тое, што мы распазналі як чыста жаночае дзеянне.

Дзяўчына, якая з маладых гадоў не навучылася праз прынцыповыя адносіны і жыццёвыя абставіны адаптавацца, адмаўляцца, прыносіць ахвяру, выйдзе замуж, чакаючы ад сужэнства бязвоблачнага шчасця, выканання ўсіх сваіх пажаданняў. Калі яна ўбачыць, што муж прыхільна ставіцца да яе пажаданняў, то яна не толькі не будзе вучыцца стрымліваць сябе, але будзе выпрабоўваць, як далёка заходзіць яе панаванне, і, калі дойдзе да мяжы, узнікнуць канфлікты, якія прывядуць ці да разрыву, ці да ўзаемнага знясілення, калі сужэнцы не пастараюцца апамятацца і не будуць імкнуцца да ўнутраных зменаў. Такая жанчына, калі яна з самага пачатку не адмовіцца ўзяць на сябе цяжар мацярынства, не знаходзіць з дзецьмі правільных стасункаў: у залежнасці ад настрою, яна займаецца імі ці не, песціць ці абыходзіцца з імі сурова там, дзе гэта не патрэбна, прад'яўляе да іх эгаістычныя прэтэнзіі — карацей кажучы, робіць усё, што выклікае супраціўленне і затрымлівае прамое развіццё, замест таго, каб пракладаць яму шлях і заахвочваць да яго.

Але і там, дзе ў дастатку шчырае імкненне да добрага сямейнага жыцця, ахвярнасць і самавыхаванне, прыродныя сілы могуць не справіцца з заданнямі [якія стаяць перад жанчынаю]. Калі характар і спосаб жыцця мужчыны робіць немагчымым мірнае сумеснае жыццё, калі ў дзяцей выяўляюцца гібельныя задаткі, якія не падда-

юцца ніякім выхаваўчым намаганням, калі дадаюцца яшчэ фінансавыя цяжкасці, то ў такім выпадку амаль што непазбежна будуць вычарпаныя фізічныя сілы і нервы, — душа, урэшце, не будзе ўжо спраўляцца з цяжарам, калі яе не будуць увесь час жывіць з невычэрпнай крыніцы новыя сілы. Гэтаю невычэрпнаю крыніцаю сілаў з'яўляецца Божая ласка. Пытанне толькі ў тым, каб ведаць шлях да яе і заўсёды ісці па ім.

Адзін *шлях* адкрыты кожнаму веруючаму ў любы момант: шлях малітвы. Таму, хто сур'ёзна і з вераю прымае словы: «Прасіце і будзе дадзена вам»[2], будзе дадзена ў кожным цяжкім становішчы — калі не заўсёды і не адразу менавіта такая дапамога, якую ён сабе ўяўляў і якой жадаў, то ўсё ж — стрыманасць і мужнасць, каб выстаяць. Кожнаму католіку даецца бязмерны скарб прысутнасці Бога ў Найсвяцейшым Сакрамэнце алтара і ў Святой Ахвяры. Хто жыве, пранікнуты вераю ў прысутнасць Хрыста ў табэрнакулюме, той ведае, што тут яго пастаянна чакае Сябра, які заўсёды мае час, аднолькавую цярплівасць і спагадлівасць, каб выслухоўваць скаргі, просьбы і пытанні, Сябра, які ўсім можа даць параду і дапамагчы. Такі чалавек нават падчас самых вялікіх цяжкасцяў ніколі не застанецца без суцяшэння і не будзе пакінуты; ён заўсёды мае прыстанішча, дзе зноў можа знайсці заспакаенне і мір. Хто пранікся сэнсам Ахвяры, якая складаецца падчас святой Імшы, хто перажывае яе як Хрыстовую справу збаўлення, той усё больш і больш будзе ўрастаць у Хрыстовую паставу ахвярнасці. Штодзённыя малыя і вялікія ахвяры, якія патрабуюцца ад яго, больш не будуць здавацца цяжарам, што накладзены ў прымусовым парадку і гняце чалавека, але будуць станавіцца сапраўднаю *ахвяраю*, якая прыносіцца свабодна і радасна, праз якую ён як член Містычнага цела Хрыста, падзяляючы Яго цярпенні, атрымлівае ўдзел у справе збаўлення. І тады заўсёды, калі яго натуральныя сілы будуць няздольныя справіцца з заданнямі, калі фізічныя сілы і нервы больш не спраўляюцца з працаю, калі яго няправільна разумеюць блізкія, калі слова і прыклад бяссільныя адарваць дарагую душу ад шляху нявер'я і граху, — ён заўсёды звяртаецца ў думках да нябачнай і таямнічай дзейснай сілы збаўчай Ахвяры, з якой можна злучыць усялякія боль і пакуты, нават уласныя слабасці і бяссілле.


Эдыта Штайн (першая справа ў другім радзе) — выкладчыца ліцэя для дзяўчатаў, якім апекаваліся дамініканкі ў Шпрэеры. Каля 1930 г.

Акрамя таго, ва ўсіх выпадках, калі падаеш па ўласнай віне, калі існуе небяспека быць адкінутым ад струменяў ласкі, існуе магчымасць унутранага аднаўлення ў сакрамэнце пакаяння: зноў і зноў станавіцца вольным ад гнёту мінулага і, як нованароджанае дзіця, ісці насустрач будучыні. Да гэтага дадаецца яшчэ ўмацаванне ў веры дзякуючы супольнасці з людзьмі, якія самі трымаюць свой позірк скіраваным на вечныя пуцяводныя зоркі, — з тымі, хто жыве адначасова з намі, і з тымі, якія ўжо ўвайшлі ў хвалу і маюць сілу дапамагчы — магчыма, нейкую асаблівую сілу для сённяшняга цяжкага становішча, —таму што ў падобных цяжкасцях яны вытрывалі выпрабаванне.

Усё гэта сродкі, якія ёсць у распараджэнні кожнага католіка. Для жонкі і маці дабаўляецца яшчэ адна крыніца сілы: сакрамэнт сужэнства. Сужэнскі саюз, у які яна ўступіла, асвечаны і святы. Жанчына павінна ўтвараць з мужам, які дадзены ёй, адно, як Касцёл з Хрыстом, яго містычным Галавою. <...> Менавіта праз гэта яна становіцца важным органам плоднасці Касцёла і атрымлівае ўмацаванне патрэбнаю для яе пакліканне ласкаю, пакуль не перастае прыкладаць намаганні, каб заставацца жывым членам [Касцёла] і весці сваё сужэнскае жыццё ў духу Касцёла. Яна можа вытрываць у сужэнскім саюзе нават з нявартым павагі мужам, які робіць яе жыццё мучэннем, калі і ў гэтым страшным скажэнні яшчэ будзе бачыць і ўшаноўваць сімвал Містычнага цела Хрыста. Яна будзе шанаваць душы сваіх дзяцей і аберагаць жыццё ласкі, якое распачалося ў іх дзякуючы сакрамэнту святога хросту.

Для законнай сястры ў якасці сродку асаблівай ласкі для

ўмацавання яе паклікання замест сакрамэнту сужэнства выступае літургічная *кансэкрацыя дзеваў* альбо, па меншай меры, урачыстае прынясенне *абяцанняў*, праз якія яна назаўсёды злучаецца з Панам. У гэтым урачыстым акце яна прымае благаслаўленне на тое, каб жыць як *sponsa Christi* (нявеста Хрыстова): з радасцю адмовіцца ад усяго, у чым свецкія людзі бачаць сваё шчасце, — ад знешніх дабротаў, ад мужа і дзяцей, ад свабоды ўладкоўваць жыццё паводле сваіх меркаванняў; калі замужняя жанчына абавязана падпарадкоўвацца свайму мужу як Богу, то манашка павінна шанаваць законнага кіраўніка ордэну як намесніка Хрыста і прымаць яго словы як абвяшчэнне Божай волі. Пан адорвае яе таксама сваёй любоўю і апекаю ў бачнай постаці і праз зямное пасрэдніцтва: у айцоўскай, мацярынскай, сястрынскай і братняй любові, якую яна знаходзіць у манаскай сям'і і на якую павінна адпаведным чынам адказваць; у магчымасці ўдзелу ва ўсім, што належыць супольнасці, ва ўсіх яе мерапрыемствах і ў яе лёсе. Але ўсё бачнае заўсёды павінна пранікаць у нябачнае. Яна належыць самаму Пану, узвышаная да таго, што знаходзіцца побач з Ім; даброты, у якіх яна мае ўдзел, з'яўляюцца невычэрпнымі скарбамі ласкі, якімі боскі *Sponsus* (Абраннік) шчодра яе адорвае — для яе самой і для ўсіх, за каго яна хадайнічае перад Ім. <...>

Мы пазнаёміліся з асаблівымі сродкамі ласкі, якія Касцёл можа даць у распараджэнне замужняй жанчыне і манашцы для дапамогі ў спаўненні іх паклікання. Цяпер мы стаім перад пытаннем, якое асабліва важнае для нашага часу: як незамужняй жанчыне па-за манаскай супольнасцю выканаць сваё прызначэнне. Безумоўна, яе становішча асабліва складанае. Ёй альбо недобраахвотна, пад прымусам абставінаў, прыйшлося адмовіцца ад сужэнства і мацярынства; і тады ў ёй жыве натуральнае жаданне шчасця ў сямейным жыцці. Прафесійнай дзейнасцю, якую яна выбрала, нават калі гэта прафесія адпавядае прыроднаму таленту і схільнасцям жанчыны, вельмі складана задаволіць гэтае жаданне, тым больш, калі яна была прынятая толькі для таго, каб мець даход і, магчыма, нават з унутраным супраціўленнем. Альбо жанчына з юнацтва мела цягу да жыцця ў дзявоцтве; тады, у большасці выпадкаў, гэта праяўлялася ў прагненні ўступіць у манаскую супольнасць, а знешнія абставіны перашкодзілі выкананню гэтага жадання. У абодвух выпадках існуе небяспека, што жыццё лічыцца няўдалым, што душа марнее і азлабляецца, не знаходзячы сілаў на плённую жаночую дзейнасць. А тут яшчэ, мяркуючы па ўсім, адсутнічае адпаведная дапамога праз сродкі ласкі, прадугледжаныя для шляхоў жаночага жыцця. Неабходнасць ісці жыццёвым шляхам, які супярэчыць уласнай прыродзе, — гэта нешта такое, з чым наўрад ці можна справіцца натуральнымі сіламі так, каб душа не цярпела ад гэтага шкоды. У лепшым выпадку гэта пераносіцца са стомленаю пакораю, звычайна — з горычу і бунтам супраць лёсу альбо ўцёкамі ў ілюзорны свет. Зрабіць тое, што чалавек не сам выбраў, справаю ўласнага выбару і выконваць яе свабодна і радасна, магчыма толькі для таго, хто ў падпарадкаванні абставінам бачыць Божую волю і не нацэльваецца ні на што іншае, а толькі на тое, каб прывесці сваю ўласную волю ў адпаведнасць з Божаю воляю. Аднак той, хто такім чынам аддаў сваю волю Богу, можа быць упэўнены ў асаблівым кіраванні Божай ласкі. І калі чалавек сыходзіць з каляіны, якая, здаецца, зададзеная нараджэннем і выхаваннем, альбо на якую ён спадзяецца для сябе самога і да якой імкнецца, і накіроўваецца ў зусім іншы бок, то гэта можна разглядаць як указанне на асаблівае паклікане — паклікане не да збітага і прадвызначанага шляху, а да індывідуальнага задання, якое не акрэсленае дакладна з самага пачатку, але раскрываецца крок за крокам. І ў гэтай сітуацыі можа быць так, што асаблівае ўмацаванне для выканання заданняў такога жыцця заключаецца не ў агульнай форме літургічна кансэкраванага жыцця, а ў індывідуальным духоўным кіраўніцтве. Таму тут асабліва неабходна рупліва звяртаць увагу на знакі, якія паказваюць шлях.

Для гэтага трэба, па-першае, рабіць усё, што ва ўласных сілах чалавека, каб прабываць блізка да Бога, гэта значыць, каб выкарыстоўваць сродкі ласкі, дадзеныя ў распараджэнне кожнаму хрысціяніну. Самае галоўнае, каб святая Эўхарыстыя заняла цэнтральнае месца ў жыцці, каб эўхарыстычны Збаўца стаў яго цэнтрам, каб прымаць з Яго рук кожны дзень і зноў складаць яго ў гэтыя рукі, каб абмяркоўваць з Ім усе праблемы. Тым самым Богу даецца найлепшая магчымасць, каб прамаўляць у сэрцы, фармаваць душу і зрабіць яе празорліваю і чуйнаю для звышнатуральнага. Тады само па сабе атрымліваецца, што чалавек вучыцца глядзець на праблемы ўласнага жыцця Божымі вачыма і ў Яго духу іх вырашаць. Да гэтага трэба дадаць спакойны і цвярозы ўлік знешніх фактаў і падзеяў. Хто жыве ў моцным перакананні, што нічога не адбываецца без ведама Бога і без Ягонай волі, таго нават надзвычайнымі падзеямі і самымі цяжкімі ўдарамі нялёгка вывесці з раўнавагі. Ён будзе захоўваць спакой, ясна бачыць і ацэньваць факты і зна-

ходзіць патрэбныя ўказанні, якія ў існуючай сітуацыі дадзеныя для выкарыстання ў яго практычных дзеяннях.

Акрамя таго, жыццё з эўхарыстычным Збаўцам прыносіць з сабою тое, што душа ўзнімаецца над вузкасцю індывідуальнага і асабістага жыцця, што для яе справы Пана і Ягонага Валадарства — гэтак, як і для тых, хто даў Яму абяцанні ў манаскім стане, — становяцца яе справамі, што ў той жа ступені губляюць вагу малыя і вялікія няшчасці індывідуальнага жыцця. З'яўляюцца тыя свабода і радасць, якія ведаюць, як чэрпаць з вечных крыніцаў заўсёды новае жыццё. <...> Нават у людскіх вачах не самотны той, хто са святым Касцёлам і яго літургіяй, гэта значыць сапраўды жыве па-каталіцку, хто ўкаранёны ў гэтую самую вялікую чалавечую супольнасць; ён паўсюль сустракае братоў і сясцёр, якія ўнутрана звязаныя з ім. <...> А паколькі ад кожнага чалавека, які крочыць, дзякуючы Божай дапамозе, сыходзяць струмені жывой вады, то ён валодае таямнічаю прыцягальнаю сілаю для прагнучых душаў; не дамагаючыся таго спецыяльна, ён павінен стаць праваднікам для іншых, якія імкнуцца да святла, і ажыццяўляць духоўнае мацярынства, ствараючы і выхоўваючы «сыноў» і «дачок» для Божага Валадарства.

Гісторыя Касцёла паказвае нам даволі шмат людзей, мужчын і жанчын, якія пайшлі гэтым шляхам «у свеце». І відавочна, што нашаму часу яны асабліва патрэбныя. Сучасным язычнікам, якія часта падазрона ставяцца да кожнага духоўнага адзення і не хочуць нічога ведаць ні пра якое веравучэнне, наўрад ці можна інакш наблізіць звышнатуральнае жыццё, як праз людзей, якія знешне выглядаюць падобна да іх, магчыма, займаюцца той самай прафесійнай дзейнасцю ў свеце, маюць моцныя супольныя інтарэсы з людзьмі гэтага свету і ўсё ж адчувальна падтрыманыя нейкаю таямнічаю сілаю, што паходзіць не з гэтага свету.

Аднак у жыцці людзей, якія пайшлі такім надзвычайным шляхам, мы знаходзім часцей за ўсё яшчэ адзін сродак для таго, каб упэўніцца, што ёсць Божаю воляю, — сродак, пра які мы да гэтага часу яшчэ не ўзгадвалі. Гэта паслухмянасць у адносінах да бачнага прадстаўніка Бога — святара, які з'яўляецца духоўным кіраўніком душы. Асабісты вопыт і гісторыя Божага плану Збаўлення дазваляе нам пераканацца, што ў гэтым заключаецца метад Пана — выхоўваць людзей праз людзей. Як для натуральнага развіцця дзіцяці патрэбны дагляд і выхаванне з боку дарослых, так і жыццё ласкі развіваецца дзякуючы чалавечаму пасрэдніцтву; людзі выкарыстоўваюцца як прылады, каб абудзіць і падтрымліваць у іншых боскую іскру. Натуральныя і звышнатуральныя факты ўказваюць на тое, што і ў жыцці ласкі таксама «нядобра, каб чалавек быў адзін»[3]. Па-першае, існуе небяспека самападману: ясны позірк духу затуманьваецца жаданнямі сэрца так, што чалавек часта спрабуе лічыць Божаю воляю тое, што адпавядае толькі яго ўласным схільнасцям. Для таго, каб пазбегнуць гэтай пагрозы, добра, калі чалавек прымае свае рашэнні не толькі паводле ўнутранай інтуіцыі, але аддае іх на спакойны і аб'ектыўны суд. Сюды дабаўляецца другі факт, звязаны з першым: звычайна меркаванне пра ўласныя праблемы менш яснае і надзейнае, чым пра чужыя. Да гэтых натуральных акалічнасцяў дадаюцца абставіны іншага парадку, якія маюць яшчэ большую вагу. Кожны, хто добра знаёмы з законамі ўнутранага жыцця, ведае, што менавіта тыя, хто пакліканы Богам да надзвычайных заданняў, павінны прайсці таксама праз надзвычайныя выпрабаванні, вытрываць не толькі знешнія цяжкасці і нягоды, але таксама яшчэ намнога цяжэйшыя душэўныя цярпенні і спакусы — тое, што містычныя тэолагі называюць цёмнаю Ноччу душы. <...> Як паказвае вопыт, каб у такіх душэўных нягодах не згубіць правільны шлях, няма лепшай абароны, як паслухмянасць мудраму духоўнаму кіраўніку. Тое, што паслухмянасць валодае такою сілаю супраць моцаў цемры, ужо само па сабе *таямнічы* факт — як і тая асаблівая Божая ласка, што Пан ставіць побач з душою, якая выпрабоўваецца, такога кіраўніка, — але гэта *факт.* <...>

Некаторыя тыповыя магчымасці былі ўжо адзначаныя пры апісанні дзейнасці жанчыны. Цяпер абагульнім тое, што было сказана і там, і ў апошнім раздзеле: заданні, да якіх жанчына пакліканая паводле сваёй прыроды і прызначэння, яна можа выканаць толькі тады, калі будзе чэрпаць з вечных крыніцаў сілы. І з другога боку: кожны, хто жыве ў святле вечнасці, можа выканаць сваё прызначэнне — усё роўна, у сужэнстве, у манаскім стане ці ў якой-небудзь свецкай прафесіі.

*Пераклад з нямецкай мовы Алены Шымак.*

*Паводле:*
Stein, E. Christliches Frauenleben // Edith Stein Gesamtausgabe. Band XIII. Freiburg – Basel – Wien, 2000.

[1] Быц 1, 27.
[2] Ян 16, 24.
[3] Быц 2, 18.

# Ліст Эдыты Штайн да папы Пія XI

Ліст Эдыты Штайн да папы Пія XI пра пераслед габрэяў у Германіі доўгі час лічыўся прапаўшым, але быў знойдзены пры адкрыцці сакрэтных ватыканскіх архіваў. Пра тое, як быў напісаны гэты ліст, расказала сама Эдыта Штайн у сваіх успамінах[1]:

«У адзін з вечароў падчас Вялікага посту (1933) я позна прыйшла дадому пасля аднаго з мерапрыемстваў Каталіцкага саюзу студэнтаў. Не ведаю, ці я забылася ключ, ці нейкі ключ тырчаў у замку з таго боку. У любым выпадку, я не змагла папасці дамоў».

У гэтым недарэчным становішчы Эдыту Штайн запрасіла да сябе пераначаваць знаёмая пара сужэнцаў, якія праходзілі міма.

«Мужчына пачаў размову і расказаў, што амерыканскія газеты паведамілі пра зверствы, якія нібыта былі ўчыненыя над габрэямі… Праўда, я і раней ужо чула пра суровыя меры супраць габрэяў. Але цяпер раптам мяне асяніла, што Бог яшчэ раз паклаў сваю цяжкую руку на свой народ, і што лёс гэтага народа быў таксама маім лёсам. Я старалася, каб мужчына, які сядзеў насупраць мяне, не заўважыў, што ўва мне адбывалася. Напэўна, ён нічога не ведаў пра маё паходжанне. Звычайна ў такіх выпадках я часцей за ўсё адразу даю неабходнае тлумачэнне. На гэты раз я так не зрабіла. Мне здавалася, што гэта было б парушэннем законаў гасціннасці, калі б я цяпер такім паведамленнем пазбавіла б чалавека начнога спакою.

У чацвер на Вялікім тыдні (06.04.1933) я паехала ў Бойран[2]. З 1928 года я кожны год праводзіла там Вялікі тыдзень і святкавала Вялікдзень… На гэты раз мяне прывяла туды яшчэ адна асаблівая справа. На працягу апошніх тыдняў я ўвесь час разважала над тым, ці не магла б я што-небудзь зрабіць у сувязі з габрэйскім пытаннем. Нарэшце ў мяне ўзнік план паехаць у Рым і папрасіць Святога Айца аб энцыкліцы. Аднак такі крок я не хацела рабіць самавольна… З таго часу, як Бойран стаў для мяне ў пэўным сэнсе родным кляштарам, я магла бачыць у абаце Рафаілу (Вальцару) свайго настаяцеля і звяртацца да яго з усімі пытаннямі, рашэнне якіх мела важнае значэнне.

Навёўшы неабходныя даведкі наконт Рыма, я высветліла, што з-за вялікага наплыву народу я не мела б шанцаў на прыватную аўдыенцыю. Таму я адмовілася ад падарожжа і выклала сваю справу ў пісьмовай форме. Я ведала, што мой ліст перададзены Святому Айцу; праз нейкі час пасля гэтага я атрымала благаслаўленне для мяне і маіх родных. Больш нічога не адбылося. Але пазней я часта думала, ці не мог ён успа-



Heiliger Vater !

Als ein Kind des jüdischen Volkes, das durch Gottes Gnade seit elf Jahren ein Kind der katholischen Kirche ist, wage ich es, vor dem Vater der Christenheit auszusprechen, was Millionen von Deutschen bedrückt.

Seit Wochen sehen wir in Deutschland Taten geschehen, die jeder Gerechtigkeit und Menschlichkeit – von Nächstenliebe gar nicht zu reden – Hohn sprechen. Jahre hindurch haben die nationalsozialistischen Führer den Judenhass gepredigt. Nachdem sie jetzt die Regierungsgewalt in ihre Hände gebracht und ihre Anhängerschaft – darunter nachweislich verbrecherische Elemente – bewaffnet hatten, ist diese Saat des Hasses aufgegangen. Dass Ausschreitungen vorgekommen sind, wurde noch vor kurzem von der Regierung zugegeben. In welchem Umfang, davon können wir uns kein Bild machen, weil die öffentliche Meinung geknebelt ist. Aber nach dem zu urteilen, was mir durch persönliche Beziehungen bekannt geworden ist, handelt es sich keineswegs um vereinzelte Ausnahmefälle. Unter dem Druck der Auslandsstimmen ist die Regierung zu „milderen" Methoden übergegangen. Sie hat die Parole ausgegeben, es solle „keinem Juden ein Haar gekrümmt werden". Aber sie treibt durch ihre Boykotterklärung – dadurch, dass sie den Menschen wirtschaftliche Existenz, bürgerliche Ehre und ihr Vaterland nimmt – viele zur Verzweiflung: es sind mir in der letzten Woche durch private Nachrichten 5 Fälle von Selbstmord infolge dieser Anfeindungen bekannt geworden. Ich bin überzeugt, dass es sich um eine allgemeine Erscheinung handelt, die noch viele Opfer fordern wird. Man mag bedauern, dass die Unglücklichen nicht mehr inneren Halt haben, um ihr Schicksal zu tragen. Aber die Verantwortung fällt doch zum grossen Teil auf die, die sie so weit brachten. Und sie fällt auch auf die, die dazu schweigen.

16

92/33



Alles, was geschehen ist und noch täglich geschieht, geht von einer Regierung aus, die sich „christlich" nennt. Seit Wochen warten und hoffen nicht nur die Juden, sondern Tausende treuer Katholiken in Deutschland – und ich denke, in der ganzen Welt – darauf, dass die Kirche Christi ihre Stimme erhebe, um diesem Missbrauch des Namens Christi Einhalt zu tun. Ist nicht diese Vergötzung der Rasse und der Staatsgewalt, die täglich durch Rundfunk den Massen eingehämmert wird, eine offene Häresie? Ist nicht der Vernichtungskampf gegen das jüdische Blut eine Schmähung der allerheiligsten Menschheit unseres Erlösers, der allerseligsten Jungfrau und der Apostel? Steht nicht dies alles im äussersten Gegensatz zum Verhalten unseres Herrn und Heilands, der noch am Kreuz für seine Verfolger betete? Und ist es nicht ein schwarzer Flecken in der Chronik dieses Heiligen Jahres, das ein Jahr des Friedens und der Versöhnung werden sollte?

Wir alle, die wir treue Kinder der Kirche sind und die Verhältnisse in Deutschland mit offenen Augen betrachten, fürchten das Schlimmste für das Ansehen der Kirche, wenn das Schweigen noch länger anhält. Wir sind auch der Überzeugung, dass dieses Schweigen nicht imstande sein wird, auf die Dauer den Frieden mit der gegenwärtigen deutschen Regierung zu erkaufen. Der Kampf gegen den Katholizismus wird vorläufig noch in der Stille und in weniger brutalen Formen geführt wie gegen das Judentum, aber nicht weniger systematisch. Es wird nicht mehr lange dauern, dann wird in Deutschland kein Katholik mehr ein Amt haben, wenn er sich nicht dem neuen Kurs bedingungslos verschreibt.

Zu Füssen Eurer Heiligkeit, um den Apostolischen Segen bittend

Dr. Editha Stein.
Dozentin am Deutschen Institut für wissenschaftliche Pädagogik
Münster i/W.
Collegium Marianum

17

Копія ліста Эдыты Штайн да папы Пія XI.

мінаць пра гэты ліст, таму што ў наступныя гады крок за крокам здзяйснялася тое, што я тады прадказвала пра будучыню католікаў у Германіі.

19 красавіка я вярнулася ў Мюнстэр, на наступны дзень пайшла ў інстытут. Дырэктар быў у турыстычнай паездцы па Грэцыі. Адказны сакратар, настаўнік католік... быў ужо цалкам выматаны. „Ведаеце, фраў доктар, тут ужо нехта быў і сказаў: <I ўсё ж фраў доктар Штайн не будзе ўжо далей чытаць лекцыі>“».

Гэтая сітуацыя змусіла Эдыту Штайн адмовіцца ад сваёй пасады ў інстытуце, каб не наклікаць на інстытут непрыемнасцяў.

Магчыма, што Эдыта Штайн напісала ліст да папы Пія XI у Бойране і перадала яго свайму настаяцелю Вальцару, які потым сам адвёз яго ў Рым[3].

*Падрыхтавала Ірына Бурак.*

*Паводле: Neyer, M. A. Der Brief Edith Steins an Pius XI. // Edith Stein Jahrbuch. Band 10. 2004. — S. 11.*

Святы Айцец!

Як дзіця габрэйскага народа, якое дзякуючы Божай ласцы ўжо адзінаццаць гадоў з’яўляецца дзіцём Каталіцкага Касцёла, я асмельваюся выказаць перад Айцом хрысціянскага свету тое, што гняце мільёны немцаў.

Ужо некалькі тыдняў мы бачым, што ў Германіі адбываюцца падзеі, якія супярэчаць усялякай справядлівасці і гуманнасці, не кажучы ўжо пра любоў да бліжняга. Гадамі нацыянал-сацыялістычныя правадыры прапаведавалі нянавісць да габрэяў. Цяпер, пасля таго як яны сталі на чале ўрада, узяўшы ў свае рукі ўсю ўладу, і ўзброілі натоўпы сваіх прыхільнікаў, сярод якіх ёсць безумоўна злачынныя элементы, гэты пасеў нянавісці ўзышоў. Усе бясчынствы з нядаўняга часу сталі здзяйсняцца ўжо са згоды ўраду. У якім аб’ёме, пра гэта мы не можам мець дакладнага ўяўлення, таму што заціснуты рот грамадскай думцы. Але, мяркуючы па тым, што мне стала вядома дзякуючы асабістым сувязям, гаворка ідзе зусім не пра асобныя выключныя выпадкі. Пад націскам галасоў з-за мяжы ўрад перайшоў на «больш мяккія» метады. Ён абвясціў лозунг: «Ніводнага габрэя нельга крануць і пальцам». Але праз аб’яўлены ім байкот — праз тое, што ўрад пазбаўляе людзей эканамічных сродкаў на існаванне, грамадзянскага гонару і айчыны, — ён прывёў многіх людзей у стан роспачы: на працягу апошняга тыдня з прыватных паведамленняў мне стала вядома пра пяць выпадкаў самазабойства ў выніку такіх варожых адносінаў. Я ўпэўненая, што гаворка ідзе пра пагалоўную з’яву, якая запатрабуе яшчэ шмат ахвяраў. Як бы ні было шкада, што няшчасныя ўжо не маюць духоўнай раўнавагі, каб несці цяжар свайго лёсу, але ўсё ж адказнасць у значнай ступені падае на тых, хто іх да гэтага давёў. І яна падае таксама на тых, хто пра гэта маўчыць.

Усё, што здарылася і здараецца ўжо штодзённа, паходзіць ад урада, які называе сябе «хрысціянскім». Ужо некалькі тыдняў чакаюць і спадзяюцца не толькі габрэі, але тысячы верных католікаў у Германіі — і я думаю, ва ўсім свеце, — што Касцёл Хрыстовы ўзніме свой голас, каб пакласці канец гэтаму злоўжыванню іменем Хрыста. Хіба ж гэтае стварэнне куміра з расы і дзяржаўнай улады, якое штодзённа ўбіваецца ў галовы народу праз радыё, не з’яўляецца адкрытай ерассю? Хіба ж знішчальная барацьба супраць габрэйскай крыві не з’яўляецца знявагаю найсвяцейшай чалавечнасці нашага Збаўцы, Найсвяцейшай Дзевы і апосталаў? Хіба ж не супярэчыць гэта таму, як паводзіў сябе наш Пан і Збаўца, які яшчэ на Крыжы маліўся за сваіх праследнікаў? І ці не з’яўляецца гэта чорнаю плямаю ў хроніцы Святога года, які павінен стаць годам міру і паяднання?

Усе мы, якія з’яўляемся вернымі дзецьмі Касцёла і з адкрытымі вачыма назіраем за падзеямі ў Германіі, асцерагаемся самага горшага для аўтарытэту Касцёла, калі маўчанне зацягнецца яшчэ далей. Мы таксама ўпэўненыя, што гэтае маўчанне не ў стане надоўга купіць мір з сучасным нямецкім урадам. Барацьба супраць каталіцызму вядзецца яшчэ пакуль што незаўважна і не ў такой грубай форме, як супраць юдаізму, але не менш сістэматычна. Пройдзе не так шмат часу — і ў Германіі ніводзін католік больш не будзе займаць службовай пасады, калі не аддасца цалкам новаму курсу.

Прыпадаю да ног Вашай Святасці, просячы аб апостальскім благаслаўленні,

*д-р Эдыта Штайн, дацэнт Нямецкага інстытута навуковай педагогікі*
*Мюнстэр, зямля Паўночны Рэйн-Вестфалія*
*Калегіум Марыянум*

[1] Stein, E. Wie ich in den Kölner Karmel kam. Mit Erläuterungen und Ergänzungen von Maria Amata Neyer. — Würzburg, 1994.

[2] Бойран — невялікі населены пункт у даліне Дунаю ў Германіі; у 1863 годзе тут быў заснаваны бэнэдыктынскі кляштар. У гэтай мясцовасці традыцыя кляштарнага жыцця сягае ажно ў IX стагоддзе. — *Заўв. пер.*

[3] Ліст Эдыты Штайн да папы Пія XI захоўваецца ў Ватыканскім сакрэтным архіве з паметкаю: Geschrieben über den Erzabt R. Walzer/Beuron an Papst Pius XI., vom 12. Apr. 1933 (Напісана абатам Р. Вальцарам з Бойрана да папы Пія XI, 12 красавіка 1933 г.). — *Заўв. пер.*

Эдыта Штайн

# НАВУКА КРЫЖА

## Трактат пра св. Яна ад Крыжа

*Фрагменты з кнігі*



Укрыжаванне. Малюнак пяром, зроблены св. Янам ад Крыжа. Каля 1577 г.

**Уводзіны**
Сэнс і паходжанне навукі Крыжа

У верасні ці кастрычніку 1568 года малады кармэліт Хуан дэ Епес, які да гэтага часу насіў у ордэне імя Яна ад св. Мацвея, пасяліўся ва ўбогай хатцы ў Дурвэла, дзе яму належала распачаць тэрэзіянскую рэформу, стаўшы яе фундаментальным, вуглавым каменем. 28 лістапада ён разам з двума паплечнікамі абавязаўся прытрымлівацца першапачатковага кармэліцкага статуту і прыняў новае імя — Ян ад Крыжа. Гэтае імя стала сімвалам таго, чаго ён шукаў, пакінуўшы родны кляштар і тым самым адкрыта адмаўляючыся ад яго змякчаных правілаў; таго, да чаго ён імкнуўся ўжо там, маючы спецыяльны дазвол і жывучы паводле першапачатковага статуту. У той жа час у гэтым выявілася істотная прыкмета рэформы: жыццём кармэлітаў босых павінна стаць наследаванне Хрыста на шляху Крыжа, удзел у Хрыстовым Крыжы.

<...> Калі мы гаворым пра «навуку Крыжа», то гэта нельга разумець у звычайным сэнсе слова «навука»: гаворка тут ідзе не толькі пра сухую тэорыю <...>. Гэта добра пазнаная праўда — тэалогія Крыжа, — але праўда жывая, рэальная і дзейсная: нібы зерне, падае яна на душу, пускае ў ёй карані і расце, накладае на душу пэўны адбітак і абумоўлівае яе паводзіны, так што гэтая праўда праменіцца з іх і дзякуючы ім можа быць пазнаною. <...> Калі таямніца Крыжа становіцца ўнутранай формай душы, то тады яна з'яўляецца навукаю Крыжа. <...>

**I. Вестка Крыжа**
2. Вестка Святога Пісання

<...> Хрыстус узяў на сябе ярмо Закону, дасканала выканаўшы яго і памёршы дзеля Закону і праз Закон. Менавіта гэтым Ён вызваліў ад Закону тых, хто хоча прыняць ад Яго жыццё. Але прыняць гэтае жыццё яны змогуць толькі тады, калі аддадуць сваё ўласнае жыццё, бо тыя, хто ахрышчаныя ў Езуса Хрыста, у смерць Ягоную ахрысціліся[1]. Яны акунаюцца ў Яго жыццё, каб стаць членамі Яго цела і, з'яўляючыся імі, цярпець разам з Ім і з Ім памерці, але таксама ўваскрэснуць з Ім для вечнага, боскага жыцця. Гэтае жыццё ва ўсёй яго паўнаце настане для нас толькі ў дзень хвалы. Але ўжо цяпер — «у целе» — мы маем у ім удзел, калі *верым*: верым, што Хрыстус за нас памёр, каб даць нам жыццё. Гэтая вера і ёсць тым, што дазваляе нам стаць адзінымі з Ім, як адзіныя члены цела з галавою, і адкрывае нас для патокаў Яго жыцця. Такім чынам, вера ва Укрыжаванага — жывая вера, спалучаная з адданнем сябе ў любові, — з'яўляецца для нас брамаю да жыцця і пачаткам будучай хвалы; таму Крыж з'яўляецца нашаю адзінаю заслугаю: «Няхай я не буду хваліцца нічым, акрамя крыжа нашага Пана Езуса Хрыста, праз якога свет укрыжаваны для мяне, а я — для свету»[2]. Той, хто рашуча аддаў сябе Хрысту, памёр для свету, а свет для яго. Ён носіць раны Езуса на сваім целе[3]; ён

слабы, пагарджаны і адрынуты людзьмі, але менавіта таму моцны, бо ў слабасці ўдасканальваецца моц Божая[4]. Усвядоміўшы гэта, вучань Езуса не толькі прымае крыж, які ўскладзены на яго, але і ўкрыжоўвае самога сябе: «Тыя, хто належаць Хрысту, укрыжавалі цела разам з мукамі і жаданнямі»[5]. Яны вялі бязлітасную барацьбу супраць сваёй натуры, каб у іх памерла жыццё грэху і з'явілася прастора для жыцця духу. У гэтым апошнім уся справа. Крыж не з'яўляецца самамэтаю. Ён узвышаецца і паказвае [кірунак] уверх. Але крыж — гэта не толькі знак: гэта магутная зброя Хрыста; пастырскі посах, з якім боскі Давід выходзіць супраць д'ябальскага Галіафа[6]; якім Ён моцна стукае ў нябесныя брамы і адчыняе іх. Тады выліваюцца струмені боскага святла і атуляюць усіх, хто знаходзіцца ў эскорце Укрыжаванага. <...>

**II. Вучэнне Крыжа**

1. Крыж і Ноч
(Ноч пачуццяў)

<...> Ноч — гэта нешта *натуральнае*: працілегласць святла, якая ахутвае нас і ўсе рэчы. Яна не з'яўляецца аб'ектам ва ўласным значэнні слова: яна не стаіць насупраць нас, а таксама не стаіць сама па сабе. Яна таксама не з'яўляецца вобразам, калі пад гэтым разумеецца нейкая бачная форма. Яна нябачная і бясформенная. І ўсё ж мы яе ўспрымаем, яна нават нашмат бліжэй нам, чым усе рэчы і формы, нашмат цясней звязаная з нашым быццём. Як святло дазваляе выявіцца рэчам з іх бачнымі ўласцівасцямі, так ноч паглынае іх і пагражае таксама паглынуць і нас. Тое, што ў ёй патанае, не становіцца проста нічым: яно працягвае існаваць, але няяснае, нябачнае і бясформеннае, як сама ноч, або падобнае да ценю і прывіду і таму пагрозлівае. Прычым нашаму ўласнаму быццю пагражае не толькі ўтоеная ў начы знешняя небяспека, але ноч пранікае ў самае наша нутро. Яна адбірае ў нас магчымасць карыстацца пачуццямі, запавольвае нашы рухі, паралізуе нашы сілы, асуджае нас на самотнасць, робіць нас саміх падобнымі да ценяў і прывідаў. Яна — нібы прадчуванне смерці. І ўсё гэта мае не толькі жыццёвае значэнне, але таксама псіхічнае і духоўнае. Касмічная ноч дзейнічае на нас падобна да таго, што ў пераносным сэнсе названа «Ноччу». Або наадварот: тое, што выклікае ў нас такое ж уздзеянне, як касмічная ноч, называецца «Ноччу» ў пераносным сэнсе. Аднак перш чым паспрабуем спасцігнуць гэтае «нешта», мы павінны ўсвядоміць, што касмічная ноч мае два аблічча. Цёмнай і злавеснай ночы процістаіць залітая месячным ззяннем чароўная ноч, напоўненая прыемным мяккім святлом. Яна не паглынае рэчы, а дазваляе заззяць іх начному абліччу. Усё цвёрдае, вострае і рэзкае тут прыглушана і прыцішана, выяўляюцца характэрныя рысы, якія ніколі не праявяцца пры яркім святле дня. Чутныя таксама галасы, якія заглушаюцца шумам дня. І не толькі поўная святла, але таксама і цёмная ноч мае асаблівую каштоўнасць. Яна кладзе канец спешцы і мітусні дня, яна прыносіць спакой і мір. Усё гэта ўздзейнічае на псіхічную і духоўную сферу [чалавека]. Існуе начная, мяккая яснасць духу, калі ён, вольны ад ярма дзённых заняткаў, расслаблены і адначасова засяроджаны, уцягваецца ў глыбокія ўзаемасувязі ўласнай істоты і жыцця, свету гэтага і свету звышнатуральнага. Ёсць таксама ў мірнай атмасферы ночы глыбокая, удзячная заспакоенасць. Пра ўсё гэта трэба памятаць, калі мы хочам зразумець начную сімволіку святога Яна ад Крыжа. Са сведчанняў пра яго жыццё і з яго паэзіі мы ведаем, што ён быў надзвычай успрымальны да касмічнай ночы з усімі яе адценнямі. Цэлыя ночы ён праводзіў каля акна, з якога адкрываліся далёкія краявіды, або пад адкрытым небам.

<...> *Містычную Ноч* нельга разумець у касмічным сэнсе. Яна не наступае на нас звонку, а мае сваю крыніцу ў глыбінях душы і ахоплівае таксама толькі адну гэтую душу, у якой яна ўзнікае. І ўсё ж уздзеянне, якое яна выклікае ў нас, параўнальнае з уздзеяннем касмічнай ночы: яна з'яўляецца прычынаю таго, што знешні свет [нібы] патанае, хоць бы ён распасціраўся навокал у яркім святле дня. Яна стварае ў душы стан самотнасці, адчуванне пустыні і пустаты, скоўвае дзейнасць яе сілаў, непакоіць душу страхамі, утоенымі ў ёй самой. Але і тут таксама існуе *начное святло*, якое робіць даступным новы свет у глыбінях душы і адначасова святлом, што паходзіць з гэтых глыбіняў, асвятляе знешні свет, так што ён зноў дадзены нам у зусім іншым выглядзе.

<...> Свет, які мы ўспрымаем пачуццямі, — гэта, натуральна, цвёрды грунт, які нас трымае; дом, у якім мы адчуваем сябе ўтульна, які корміць нас і забяспечвае ўсім неабходным; крыніца нашай радасці і задавальнення. Калі яго ў нас забіраюць або калі мы вымушаныя яго пакінуць, то, сапраўды, здаецца, нібы зямля знікае ў нас з-пад ног і нібы вакол нас апусцілася ноч; нібы мы самі патанаем і знікаем. Але гэта не так. На самай справе мы становімся на больш надзейны *шлях*, праўда, шлях *цёмны*, ахутаны ноччу, — шлях веры. Гэта шлях, бо ён вядзе да мэты — да *з'яднання* [з Богам].

Але гэта *начны* шлях, бо ў параўнанні з яснай праніклівасцю натуральнага разумення вера — гэта *спасціжэнне ў цемры*; яна знаёміць нас з нечым, але не дае нам гэтага ўбачыць.

<...> З надыходам *цёмнай Ночы* пачынаецца нешта цалкам новае: уся ўтульнасць прабывання ў свеце як у родным доме, карыстанне шматлікімі [спосабамі] задавальнення, якія ён прапануе, прага задавальнення і само сабой зразумелы адказ «так» на гэтую прагу — усё тое, што для нармальнага чалавека азначае жыццё пры святле дня, у Божых вачах — цемра, несумяшчальная з боскім святлом. Яна мусіць быць выдаленая з усімі каранямі, калі ў душы павінна будзе вызваліцца прастора для Бога. <...>

### 2. Дух і вера, смерць і ўваскрашэнне (Ноч духу)

<...> Дух — а значыць, калі разумець гэта належным чынам і ў шырокім сэнсе, не толькі розум, але і сэрца — доўгі час займаючыся Богам, стаў дзякуючы гэтаму блізкі з Богам; ён ведае Бога і любіць Яго. Гэтыя веды і любоў сталі часткаю яго быцця, падобна да таго, як гэта бывае ў адносінах да нейкага чалавека, з якім доўгі час жывеш разам і якому глыбока давяраеш. Такім людзям больш не трэба здабываць звесткі адзін пра аднаго і разважаць адзін пра аднаго, каб пранікнуць у сутнасць другога і ўпэўніцца ў яго прыязнасці. Ім ужо амаль што не патрэбныя словы. Кожны раз сумеснае прабыванне прыносіць новае абуджэнне і ўзрастанне любові, а магчыма, яшчэ і пазнанне новых асобных рысаў, аднак гэта адбываецца нібы само сабою, пра гэта не трэба клапаціцца. Нешта падобнае бывае ў адносінах душы з Богам пасля доўгага практыкавання ў духоўным жыцці. Ёй больш не трэба паглыбляцца ў разважанне, каб навучыцца пазнаваць і любіць Бога. Шлях застаўся ў мінулым, і яна адпачывае, дасягнуўшы сваёй мэты. Ледзь толькі душа паглыбіцца ў малітву, як яна апынаецца з Богам і прабывае ў Яго прысутнасці, у любові аддаючыся Яму.

<...> Магутная рэчаіснасць натуральнага свету і звышнатуральных дароў ласкі павінна быць перавернутая ўверх нагамі рэчаіснасцю яшчэ магутнейшаю. Гэта адбываецца падчас *бяздзейнай Ночы*. Без яе — і гэта Ян падкрэслівае ўвесь час — актыўная Ноч ніколі не дасягнула б мэты. Моцная рука Бога жывога павінна ўмяшацца, каб вызваліць душу з пастак усяго створанага і прыцягнуць да сябе. Гэтым умяшаннем з’яўляецца *цёмная містычная кантэмпляцыя*, звязаная з пазбаўленнем усяго, што дагэтуль давала святло, падтрымлівала і суцяшала.

<...> Вера ставіць перад вачыма душы Хрыста: убогага, прыніжанага, укрыжаванага, пакінутага на Крыжы самім боскім Айцом. У Яго ўбогасці і пакінутасці душа знаходзіць і сваю пакінутасць і ўбогасць. Абыякавасць, агідлівасць і смутак — гэта «чыста духоўны крыж»[7], які ёй падаецца. Калі яна прыме яго, то спазнае, што гэтае ярмо прыемнае і цяжар лёгкі. Крыж стане для яе посахам, з якім яна лёгка ўзыдзе на гару. Калі яна ўсвядоміць, што Хрыстус у канчатковым прыніжэнні і знішчэнні на Крыжы здзейсніў самую вялікую справу — паяднанне і злучэнне чалавецтва з Богам, — у ёй абудзіцца разуменне таго, што таксама для яе знішчэнне, прыняцце «крыжовай смерці пры жывым целе, у тым, што пачуццёвае, як і ў тым, што духоўнае», вядзе да злучэння з Богам. Як Езус у сваёй пакінутасці перад смерцю аддаў сябе ў рукі нябачнага і неспасцігальнага Бога, так і яна вырушвае ў начную цемень веры, якая ёсць адзіным шляхам да неспасцігальнага Бога.

<...> Бог — гэта чысты дух і правобраз усялякага духоўнага быцця. Таму, па сутнасці, толькі ў Богу можна правільна зразумець, што такое дух; але гэта азначае, што дух з’яўляецца таямніцаю, якая нас пастаянна прыцягвае, таму што гэта таямніца нашага ўласнага быцця. Мы маем туды пэўны доступ, паколькі наша ўласнае быццё з’яўляецца духоўным быццём. Мы маем доступ туды таксама ва ўсякім быцці, паколькі ўсякае быццё, якое можна спасцігнуць як пачуццёвае і духоўнае, мае нешта ад духоўнага быцця. Але гэтая таямніца адкрываецца ўсё глыбей па меры нашага пазнання Бога, ніколі не адкрываючыся цалкам, гэта значыць, не перастаючы быць таямніцаю. <...>

### 3. Веліч уваскрашэння

<...> Увесь шлях ужо ў мінулым, падрыхтоўка закончаная... І вось Бог кліча душу для заключэння шлюбу ў квітнеючым садзе; гэта Ён сам, той, каго яна горача прагнула і ў каго яна цяпер цалкам пераменіцца. «Дзякуючы гэтаму ажыццяўляецца такое глыбокае ўнутранае злучэнне абедзвюх прыродаў і такое ўдзяленне боскай прыроды прыродзе чалавечай, што кожная з іх, без якога-небудзь змянення сваёй сутнасці, з’яўляецца Богам...». Тут, дасягнуўшы мэты, душа валодае цудоўнаю, боскаю паўнатою ласкі. <...> Яна адчувае сябе злучанай з Богам у сапраўдных, глыбокіх духоўных абдымках і дзякуючы ім жыве жыццём Бога. Яе гала-

ва ляжыць на плячы Абранніка; Ён дае ёй сваю сілу, каб замяніць яе слабасці ў боскую сілу. Гэта новы рай, у які яна ўвайшла.

<...>У гэтым жыцці, аднак, перамяненне ніколі не свабоднае ад цярпення, нават на самых высокіх ступенях любові, і прырода ўсё яшчэ непакоіцца. «Цярпенне ўзнікае ад моцнага прагнення перамянення, якое робіць душу шчаслівай... а неспакой прыроды звязаны з тым, што слабае і недаўгавечнае пачуццё захопліваецца і паглынаецца сілаю і веліччу такой узвышанай любові; таму што ўсё, што ўзвышанае, гняце слабую прыроду і прычыняе ёй боль».

<...> Гэта цёмная Ноч кантэмпляцыі, крыжовая смерць «старога чалавека». Ноч тым цямнейшая, смерць тым больш пакутлівая, чым мацней гэтыя старанні Бога заваяваць любоў ахопліваюць душу і чым больш безумоўна душа аддаецца ім. Усё мацней паддаючыся, [чалавечая] прырода дае звышнатуральнаму святлу і Божаму жыццю ўсё больш і больш прасторы. Яно авалодвае натуральнымі сіламі і перамяняе іх, абагаўляючы і адухаўляючы. Так здзяйсняецца новае ўчалавечанне Хрыста ў хрысціянах, раўназначнае ўваскрасенню пасля крыжовай смерці. «Новы чалавек» нясе на сваім целе раны Хрыста — успамін пра грахоўную нікчэмнасць, ад якой ён абуджаны да благаслаўлёнага жыцця, і пра цану, якую давялося за гэта заплаціць. І яму застаецца цярпенне — гарачае прагненне паўнаты жыцця — ажно пакуль ён не зможа ўвайсці ў браму сапраўднай цялеснай смерці да вечнага святла.

Такім чынам, злучэнне душы з Богам як нявесты з'яўляецца мэтаю, дзеля якой яна створаная, адкупленая на Крыжы, дасягнула на Крыжы свайго спаўнення і на вякі вечныя носіць на сабе адбітак Крыжа.




Медаль з нагоды беатыфікацыі Тэрэзы Бэнэдыкты ад Крыжа.
Аверс: бюст Тэрэзы Бэнэдыкты ад Крыжа паводле фотаздымка 1938 года. Надпіс: «Благаслаўлёная Тэрэза Бэнэдыкта ад Крыжа OCD, Эдыта Штайн, 1891–1942 гг.»
Рэверс: эмблема тэрэзіянскага Кармэлю, упісаная ў Зорку Давіда.
Дрот нагадвае пра канцэнтрацыйны лагер Аўшвіц-Біркенаў — месца мучаніцкай смерці сястры Тэрэзы Бэнэдыкты. «*Scientia Crucis*» («Навука Крыжа») — назва яе апошняга твора. Кнігі сімвалізуюць пісьменніцкую дзейнасць, а крыж — наследаванне мучаніцкай смерці Хрыста. У раскрытай кнізе словы: «Беатыфікаваная Янам Паўлам II, Кёльн, 1 мая 1987 г.».

### III.

<...> Калі запал душы разумеецца тут як плод яе з'яднання з Богам, то, з другога боку, любоў да бліжняга з'яўляецца важным сродкам на шляху да з'яднання: «Дзве рэчы... служаць душы як крылы, каб падняцца да з'яднання з Богам: шчырае спачуванне смерці Езуса і спачуванне бліжняму. І калі душа ахопленая спачуваннем у адносінах да пакутаў і Крыжа Пана, то яна таксама прымае блізка да сэрца тое, што Ён прыняў усё гэта на сябе дзеля нашага збаўлення». Гэта значыць, што той, хто ў любячым паглыбленні ўваходзіць у думкі і настрой Збаўцы на Крыжы, у любоў ажно да бязмежнай самаадданасці, той становіцца дзякуючы гэтаму адзіным з боскаю воляю, таму што гэта збаўчая воля Айца, якая спаўняецца ў збаўчай любові і самаадданасці Езуса; і чалавек становіцца адным з боскім Быццём, якое ёсць Любоўю, што самаахвярна аддае самую сябе і ва ўзаемнай самаадданасці Боскіх Асобаў ва ўнутраным жыцці Тройцы, і ў дзеянні звонку. Такім чынам, дасканаласць уласнага быцця, з'яднанне з Богам і дзейнасць дзеля з'яднання іншых з Богам і дасканаленне іх быцця непарыўна звязаныя адно з адным. А доступ да ўсяго гэтага — Крыж. І прапаведаванне Крыжа было б дарэмным, калі б не было праяўленнем жыцця ў з'яднанні з Укрыжаваным. <...>

*Пераклад з нямецкай мовы Ірыны Бурак.*

*Паводле:* Stein, E. Kreuzeswissenschaft. Studie über Johannes a Cruce // Gesamtausgabe der Edith-Stein-Werke. Band I. Freiburg – Basel – Wien, 1983.

---

[1] Пар. Рым 6, 3.
[2] Гал 6, 14.
[3] Пар. Гал 6, 17.
[4] Пар. 2 Кар 12, 9.
[5] Гал 5, 24.
[6] Алюзія на біблійную аповесць пра Давіда і Галіяфа; гл. 1 Сам 17.
[7] Тут і далей у двукоссе ўзятыя словы з твораў св. Яна ад Крыжа.

# Эдыта Штайн

## Надзея ў цемры і святло любові

Хто Ты, святло,
што ува мне жывеш
і цемру майго сэрца
асвятляеш?
Вядзеш мяне Ты,
нібы рукі маці,
а калі адпусціш,
я нават кроку не змагу
сама ступіць.
Ты — уся прастора
вакол майго быцця,
якая атуляе
і ў сабе яго ўкрывае.
Пакінуўшы Цябе,
я падаю у бездань
нікчэмнасці,
а Ты адтуль
ўздымаеш да быцця.
Ты, што бліжэйшы мне,
чым я сама сабе,
глыбей ўва мне Ты,
чым мая душа, —
і ўсё ж такі незаўважальны
і неспасцігальны,
і не ўмяшчаешся ў ніводнае імя:
Духу Святы — Вечная Любоў.

Ці ж Ты не тая манна,
што з сэрца Сына
пераходзіць у маё,
спажытак
і анёлаў, і святых?
Той, хто ад смерці
да жыцця паўстаў,
Ён і мяне таксама
абудзіў
ад сну смяротнага
да новага жыцця,
і дзень за днём
дае мне
новае жыццё.
Напэўна, некалі
напоўніць мяне цалкам
Яго багаццяў поўня,
жыццё Твайго жыцця —
Ты сам:
Духу Святы — Вечнае Жыццё.

Ці, можа, ззянне Ты,
што льецца
ад трону
Найвышэйшага Суддзі,
пранізваючы ноч душы, якая
сама сябе ніколі не пазнае?
Няўмольна-міласэрна
пранікае яно у тайнікі душы.
Спалохаўшыся выгляду
сябе самой,
яна прастору вызваляе —
святому страху,
пачатку мудрасці,
якая з неба да нас прыходзіць
і да нябёсаў
прыцягвае нас моцна, —
дзеянню Твайму, якое нанава
стварае нас:
Духу Святы — пранізлівае Ззянне.

А можа, поўня духу Ты
і сіла,
якой Ягня знімае
пячаткі
з кнігі Божага прысуду?
Табою скіраваныя,
паскачуць па зямлі на конях
пасланцы Божага Суда
і мячом вялікім
аддзеляць валадарства
святла
ад валадарства ночы.
І будзе тады неба новае
і новая зямля,
і ўсё на сваім месцы будзе —
дзякуючы подыху Твайму:
Духу Святы — Пераможная Сіла.

Ці, можа, Ты —
песня любові
і пашаны найглыбейшай,
што гучыць няспынна
перад Божым тронам,
злучаючы ў сабе ў адзіны чысты гук
спеў усяго стварэння?
Тая гармонія,
якая дапасоўвае да Галавы
часткі цела
і ў якой
знаходзіць кожны з захапленнем
таемны сэнс свайго быцця
і радасна ўсклікае
ў Тваім патоку:
Духу Святы — Вечная Радасць.

* * *

Пане, без сілы, што Ты мне даеш,
не змагу я ніводнага кроку зрабіць.
Чаму я не веру?
Чаму не давяраю Табе?
Чаму не прымаю таго,
хто бліжэй да мяне,
чым я сама да сябе?
Адступаю ў страху перад цемраю,
палохаюся шляху,
што губляецца ўначы.
Чаму я не дзякую за малы ліхтарык,
ззянне надзеі?
Чаму не іду да Цябе?
Дай мне мудрасці, Пане,
якая ўсё прымае,
а тое, што добрае, захоўвае.

* * *

*Juxta crucem tecum stare.*

З Табой пад крыжам сёння я стаяла
і ясна так адчула, як яшчэ ніколі,
што Ты пад крыжам нашай Маці стала.
Нават зямная маці сэрцам ўсім імкнецца
апошняе жаданне сына споўніць.
А Ты была слугою Панскаю,
ў Тваё жыццё дарэшты ўпісана Яго жыццё —
таго, хто Богам быў і стаўся чалавекам.
Таму ўсім сэрцам прыняла Ты ўсіх Тваіх дзяцей,
крывёй, што ў горкім болю з яго выцякала,
купіла нашым душам новае жыццё.
Ты ведаеш пра нас усё: пра нашы раны, нашы страты,
і ведаеш пра ззянне той хвалы, якую хоча выліць
на нас у вечнасці Сына Твайго любоў.
Таму скіроўваеш Ты клапатліва нашы крокі.
Няма такой цаны, якую б не магла Ты заплаціць,
каб весці нас да мэты.
А тыя, каго выбрала сабе ў эскорт,
хто будзе акружаць Цябе перад нябесным тронам,
тут, на зямлі, павінны стаць з Табой пад крыжам,
сваёй крывёю, што з іх сэрцаў у горкім болю выцякае,
купіць для верных душаў ззянне той хвалы,
якую Божы Сын даверыць ім як спадчыну.

*Пераклад з нямецкай мовы*
*Ірыны Бурак.*

Стэфан Свяжаўскі

# СВЯТЫ ТАМАШ, ПРАЧЫТАНЫ НАНАВА

### V. ШТО ТАКОЕ МЕТАФІЗІКА — ФІЛАСОФІЯ БЫТУ?

Гэты этап нашых разважанняў падаецца асабліва цяжкім; гэта парог, праз які мы мусім перайсці, каб лепей зразумець усё, што будзе сказана далей. Ён будзе цяжкім яшчэ і таму, што цяпер мы павінны ўвайсці ў самае сэрца філасофіі. Але не трэба губляць імпэту перад абліччам пэўных моўных цяжкасцяў ці нейкай нечаканай навізны падыходаў.

Калі ішла гаворка пра адносіны філасофіі, і ўвогуле навукі, да веры, нам неаднаразова даводзілася звяртацца да таго, што называецца метафізікай. Цяпер давайце задумаемся над тым, што складае сутнасць філасофіі, сутнасць таго, што мы называем філасофскім сузіраннем, і што, з увагі на гэта, складае таксама сутнасць метафізікі, якая з'яўляецца ядром, самым сэрцам і нібы найістотнейшым «будынкам» філасофскага мыслення. Вельмі па-рознаму глядзелі на гэта цягам стагоддзяў, давалі розныя адказы на гэтае пытанне, і ўжо шмат стагоддзяў у нашай еўрапейскай культуры акалічнасці складваюцца так, што няма яснага меркавання пра тое, што грэкі назвалі філасофіяй і што як філасофія перайшло ва ўсю нашую культурную спадчыну. Больш за тое — у апошнія стагоддзі, і пра гэта трэба памятаць, у гісторыі філасофіі акрэслілася мэтанакіраваная і сістэматычная тэндэнцыя, якая сёння ў пэўных асяродках вельмі выразная, тэндэнцыя да скажэння і прыніжэння вартасці філасофіі ўвогуле, і асабліва метафізікі. Важна, каб мы ўсведамлялі гэта. Калі гаворка ідзе пра маладое пакаленне, то напэўна яно сутыкнулася з цэлым шэрагам меркаванняў, згодна з якімі метафізіка ёсць сінонімам ірацыянальнасці, нейкага неразумнага, далёкага ад усялякай навуковасці, займання рэчамі, якія нельга спраўдзіць. Кажуць, што заняткі метафізікай падобныя да выклікання духаў, ці да спірытычнага «вярчэння столікаў». Ужо Кант абвяшчаў, што метафізік — гэта чалавек, які сузірае духаў, *ein Geisterseher*. Гэтае зласлівае і небяспечнае перакручванне сэнсу азначэння «метафізіка», пераіначанне таго, чым сапраўды з'яўляецца філасофія ў найлепшым і найбольш глыбокім значэнні гэтага слова, на вялікі жаль, укаранілася.

Калі гэтак сфармавалася меркаванне ў колах адукаваных людзей, калі гэтак падаецца тое, што акрэсліваюць як метафізіку, то філасофія, якая называецца навуковай, у выніку была абмежаваная да веды, зразуметай мінімалістычна. Пры такім падыходзе філасофія зводзілася б да даследаванняў над функцыянаваннем, дзейнасцю нашага розуму, нашай мовы, да парадкавання паняццяў, якімі мы аперуем, і перадусім — да крытыкі нашых пазнавальных магчымасцяў. Працэс развіцця еўрапейскай філасофіі ў апошнія стагоддзі складваўся так, што філасофія перастала засяроджвацца на тым, што мы называем метафізічнай праблематыкай у класічным разуменні гэтага слова; з цягам часу метафізіка робіцца ўсё больш пагарджанаю, яе ўсё часцей высмейваюць, а на яе месца ў цэнтр філасофіі змяшчаецца філасофская дысцыпліна, якая называецца тэорыяй пазнання. У такім разуменні філасофія павінна была б займацца не рэчаіснасцю, а нашым пазнаваннем рэчаіснасці. Гэтая перастаноўка надзвычай важная, яна прывяла да таго, што філасофія ў еўрапейскай культуры нашых стагоддзяў стала нашмат менш культуратворчай, у меншай ступені вызначальнай для аблічча духовай культуры нашага свету белых людзей, чым гэта было раней, калі метафізіка была яе цэнтрам.

Такім чынам, метафізіка ўсё яшчэ мае кепскую славу, займацца ёю не рэкамендуецца, згодна з сённяшнім разуменнем гэтага слова. Калі сёння

---

*Працяг. Пачатак у 3 за 2011 г.*

яе не ўспрымаюць ужо як штосьці накшталт спірытычных сеансаў, ці выклікання духаў, то вельмі часта можна пачуць меркаванне, што людзі, якія займаюцца філасофіяй, а менавіта тыя, хто займаецца метафізікай, аддаляюцца ад рэальнага, уцякаюць ад рэчаіснасці. Не раз чуваць закід, што ўсё ж у філасофіі існавання св. Тамаша паняцце існавання — гэта нешта надта далёкае ад рэчаіснасці, што калі мы займаемся метафізікай, то замест таго, каб лепей пазнаць рэчаіснасць, насамрэч ад яе адрываемся і ўцякаем ад яе. Таму чалавек, які займаецца метафізічнай філасофіяй быў бы супрацьлегласцю рэаліста, быў бы чалавекам, які замест таго, каб мець кантакт з рэальнымі рэчамі, з той рэчаіснасцю, што атачае нас, займаецца абстракцыямі, гэта значыць, творамі нашага ўяўлення, нашай думкі. Такімі часта з'яўляюцца погляды на тэму філасофіі, і прызнаймася самі сабе, што часта і мы гэтаксама думаем пра філасофію. Калі сцвярджаем, што метафізіка, самае сэрца філасофіі, ёсць філасофіяй існавання, без больш разгорнутага каментара гэта няшмат нам кажа. На пытанне, што такое існаванне, часта чуецца адказ: існаванне — гэта чыстая абстракцыя, бо ані гэта, ані тое, на што пазіраем, яшчэ не ёсць існаванне, якое мы шукаем. Задумваючыся над гэтым пытаннем і над адказамі на яго, мы паступова даходзім да сутнасці, да спробы адказу на тое, што такое ўрэшце існаванне, што такое тая рэчаіснасць, якой мы займаемся ў метафізічнай філасофіі. Задавальняючы адказ на пытанне, якое нас цікавіць, даў бадай толькі св. Тамаш. Аднак, каб зразумець ягоны адказ, трэба правесці штосьці накшталт філасофскай медытацыі.

Звернем увагу на нейкі прадмет, усё роўна, ці будзе гэта расліна, жывёла, нейкі твор: стол, крэсла ці штосьці іншае. Дык вось, калі глядзім на гэты прадмет, мы можам думаць пра яго, пытаючыся: што гэта? Калі ж мы даем адказ на такое пытанне, мы ўказваем тое, што адрознівае дадзены прадмет ад усіх іншых і што яго найбольш поўна характарызуе, — мы звяртаем увагу на сутнасць *(essentia)* гэтага прадмету. Мы дабраліся тут да вельмі важнага філасофскага тэрміна: сутнасць. На сутнасць рэчы мы ўказваем заўсёды, калі пытаем, чым яна з'яўляецца, што гэта такое.

Зусім іншая справа, калі, сузіраючы нейкі прадмет ці разважаючы пра яго, мы пытаемся: ці гэты прадмет існуе? ці існуе? а не: чым ён з'яўляецца? што гэта такое? Толькі: ці ёсць? ці існуе? Нас тады цікавіць зусім іншы аспект, іншы бок гэтага прадмету: існаванне.

Гэткім чынам мы прыходзім да фундаментальнага ў філасофіі разрознення сутнасці і існавання. Маем тут як бы два бакі, два аспекты, два аблічча той жа самай рэчы: яе сутнасць, якую называем таксама прыродай ці натурай гэтай рэчы, а таксама факт яе існавання. Акцэнт робіцца тут на факт, што штосьці існуе, што гэта не толькі прадмет сноў, уяўлення ці жаданняў, але што гэта нешта рэальна існуючае. Адметна тое, што св. Тамаш, уласна кажучы, адзіны філосаф, які выразна і ясна паставіў пытанне пра першынство існавання. Існаванне ва ўсіх рэчах непараўнальна больш важнае, чым іх сутнасць.

Калі ў філасофіі мы абмяжоўваемся разважаннем над сутнасным бокам рэчы, калі займаемся сутнасцю з розных бакоў, нібы абмінаючы праблему існавання, тады мы дапускаем памылку, якая ў філасофіі называецца эсэнцыялізмам (ад лацінскага *essentia — сутнасць*). Мы бачым, як лёгка ў гэтым эсэнцыялізме можна адысці ад рэчаіснасці, сцерці межы паміж рэальным светам існуючых незалежна ад нас бытаў і бытаў толькі памысленных, альбо ўяўленых, ці г.зв. бытаў мысленных, што насяляюць наш унутраны разумовы свет. Для св. Тамаша сама сутнасць нават найдасканалейшых рэчаў, сутнасць, пазбаўленая існавання, проста нішто ў параўнанні з існаваннем нават самых нікчэмных рэчаў. Гара золата ці гара брыльянтаў — не існуючая — куды менш вартая як быт за існаванне найдрабнейшай пылінкі ці нейкай часткі атама, калі яна сапраўды ёсць. Гэта падаецца наіўным і настолькі відавочным, што не варта пра тое і казаць, аднак жа для філасофіі гэта рэч фундаментальная. З цэлага натоўпу філосафаў на працягу стагоддзяў бадай ніхто, і ніхто гэтак моцна, як Тамаш, не звярнуў на гэтую справу ўвагі і не падкрэсліў яе значэння. Пра гэтую нібы дробязь, пра гэтую фундаментальную ролю існавання філосафы найчасцей забываюць, а гаворка ідзе пра вельмі прынцыповы ў філасофіі аспект рэчаіснасці быту. Св. Тамаш не толькі разрознівае сутнасць *(essentia)* і існаванне *(esse)* у кожным быце, але прымае таксама, што гэта разрозненне рэальнае, гэта значыць, што яно сапраўды і незалежна ад нашых пазнавальных намаганняў уласцівае рэчам.

Паглядзім цяпер на тое, як св. Тамаш разумее схаваную ад пачуццёвага досведу ўнутраную будову ўсіх рэчаў. Паводле Тамаша, кожная рэч, матэрыяльная яна ці духовая (бо існуюць быты чыста духовыя, анёлы, пра існаванне якіх мы ве-

даем на падставе веры), канстытуяваная з двух чыннікаў. Адзін з гэтых чыннікаў — магчымасць *(potentia)*. У маленькага, толькі што народжанага немаўляці, ёсць магчымасць стаць дарослым, развітым, сталым, мудрым, святым, вялікім альбо вельмі кепскім чалавекам. Гэта — магчымасць. Кожнае насенне ў магчымасці мае ўсё, што калісьці разаўецца з гэтага насення. Гэтая магчымасць — кажа св. Тамаш — не нейкае паняцце, гэта штосьці вельмі рэальнае, гэта моц, схаваная ў рэчах. Гэта не толькі лагічная мажлівасць. Не блытайма ніколі магчымасці з мажлівасцю; мажлівасць — гэта тое самае, што і несупярэчнасць, а магчымасць — гэта рэальная здольнасць стаць чымсьці, чым яшчэ не ёсць. Ва ўсім, у кожным з нас — будзе гэта малое дзіця, ці стары чалавек, ці гэта будзе маленькае насенне, ці расліна, ці якаянебудзь рэч на нейкім этапе яе часава-прасторавага развіцця — у кожнай з гэтых цялесных і духовых рэчаў ёсць паяднанне магчымасці з яе здзяйсненнем. Гэтая магчымасць здзяйсняецца этапамі. Здзяйсненне *(actus)* — гэта другі элемент, які ўзаемадзейнічае і суіснуе з першым. *Potentia* і *actus* — названыя на лаціне — гэта два чыннікі, якія канстытуююць кожны быт і якія мы акрэсліваем як магчымасць і здзяйсненне.

Але ці павінен быў св. Тамаш, працягваючы, зрэшты, думку Платона і Арыстоцеля, прыняць гэткі склад кожнага быту? Ён мусіў прыняць яго таму, што інакш (гэта можа здацца на першы погляд дзіўным) не мог бы пераканаўча абгрунтаваць, што сапраўды існуе мноства розных рэчаў, і паказаць істотную розніцу паміж рэчамі рэальнымі і творамі нашага розуму. Быў такі погляд, які называўся манізмам ці пантэізмам (ад гр. *pan — усё*, *theos — бог*), паводле якога існуе толькі адзін быт, а ўся разнастайнасць існасцяў — гэта толькі розныя праявы аднаго па сутнасці быту. Гэта погляд пантэістычны, у якім увесь свет атаясамляецца з Богам, а ўсё, уся разнастайнасць гэтага свету, — гэта толькі мноства рысаў адзінага Божага быту. Пра гэты погляд яшчэ будзе гаворка. Таму, калі мы хочам заняць пазіцыю, да якой прыводзіць нас досвед, а менавіта, што існуе мноства рэальных, розных рэчаў, — мы мусім, паводле св. Тамаша, прыняць у кожным быце спалучэнне магчымасці і здзяйснення. Гэта таксама неабходна, калі мы хочам бачыць і зразумець розніцу, якая існуе паміж рэальнымі рэчамі і творамі нашай псіхікі.

Самым агульным для ўсіх рэчаў спалучэннем магчымасці і здзяйснення з'яўляецца спалучэнне сутнасці і існавання, бо гэтае спалучэнне выступае як у цялесных бытах, гэтак і ў духовых існасцях. Сутнасць выконвае ролю магчымасці, а існаванне ёсць яе здзяйсненнем. Для Тамаша гэта — не гіпотэза і не мысленная канструкцыя, але штосьці рэальнае, чаго, праўда, мы не можам пабачыць, бо мы бачым і пацвярджаем пачуццёва толькі канкрэтныя рэчы, але ўбачыць, успрыняць, дакрануцца да іх глыбіннай структуры не можам; не можам рассячы рэч і аддзяліць магчымасць ад здзяйснення, як не можам рассячы чалавека і сказаць, што тут — цела, а тут — душа. Мы будзем яшчэ звяртацца да гэтай апошняй праблемы, бо разрозненне магчымасці і здзяйснення будзе для нас істотным пазней пры разглядзе філасофіі чалавека. Гэтае спалучэнне ўнутранае, якое мы мусім прыняць, калі разважаем над рэчаіснасцю, бо інакш упадаем у абсурд. Такой ёсць структура філасофскага мыслення. Вось жа, тэорыя магчымасці і здзяйснення не з'яўляецца гіпотэзай у сціслым значэнні гэтага слова, не з'яўляецца адвольнай інтэлектуальнай структурай, якую хтосьці выдумаў «каля зялёнага століка», але яна ёсць спробаю глыбокага зразумення і высвятлення таго, што сапраўды хаваецца ў рэчах.

Пяройдзем да некалькіх тэкстаў св. Тамаша. Гэтыя тэксты прыгожа гучаць на лаціне. Пастараймася перакласці іх на нашу звычайную і зразумелую мову. Тамаш — насуперак агульнапрынятаму ў яго часы філасофскаму погляду — кажа, што не нейкая самая складаная структура існасці ці яе багата і разнастайна сфармаваная прырода ёсць самым каштоўным, але найдасканалейшым чыннікам у кожнай рэчы ёсць існаванне. *Esse est actualitas omnium actuium et propter hoc est perfectio omnium perfectionum* — гэтую формулу нельга перакласці ў яе сціслым выглядзе *(Questio disputata De Potentia* VII, a. 2, ad 9). Значыць: існаванне, — бо *esse* ў св. Тамаша амаль заўсёды належыць перакладаць як «існаванне» — ёсць (можна так сказаць) здзяйсненнем усіх здзяйсненняў — *actualitas omnium actuum,* спаўненнем усіх дасканаласцяў. Бо мы казалі, што існаванне ёсць здзяйсненнем магчымасці, а значыць: магчымасці здзяйсняюцца дзякуючы існаванню, дзякуючы гэтаму *esse ...est perfectio omnium perfectionum* — яно ёсць удасканаленнем усіх дасканаласцяў, усё, што дасканалае, г.зн. усе дасканаласці, усё, што ёсць дасканалым ці здзейсненым, выкананым у кожнай рэчы, ёсць гэткім дзякуючы існаванню.

Паказальна, што ўвогуле ўсе вялікія хрысці-

янскія мысляры, тэолагі і філосафы цалкам абмінулі гэты бок рэчаіснасці. У другога вялікага сярэднявечнага філосафа і тэолага, у пэўным сэнсе «канкурэнта» св. Тамаша, пазнейшага за яго, а менавіта ў францішканца Дунса Скота, існаванне трактуецца як адна з апошніх, найменш важных рысаў у кожным быце. А ў «Суме тэалогіі» (I q.8 a.l c.) св. Тамаш кажа: *Esse autem est illud quod est magis intimum cuilibet et quod profundius omnibus inest cum sit formale respectu omnium quae in re sunt* — другую частку сказа цяжка перакласці, але першая — вельмі важная: *Esse autem est illud...* — існаванне ж ёсць тое, што найглыбейшае, найбольш інтымнае, найбольш сягаючае да глыбіняў: *...intimum cuilibet ...magis intimum...* Для Тамаша кожная рэч праз існаванне лучыцца з Богам; існаванне — гэта тое, што звязвае і найменшую пылінку, і найвялікшы, найдасканалейшы быт з Богам. Таму існаванне — гэта тое, што ў кожнай рэчы, як кажа св. Тамаш: *...est magis intimum et profundius omnibus...* найглыбейшае, глыбейшае за ўсё, што аздабляе, напаўняе, узбагачае яе прыроду, усе рысы рэчы — знешнія ў адносінах да таго найглыбейшага кораня, якім ёсць існаванне.

Другая частка сказа цяжкая, бо вымагае, уласна кажучы, поўнага зразумення таго, што значыла ў тагачаснай філасофска-тэалагічнай мове азначэнне «forma» —*formale: ...cum esse sit formale respectu omnium quae in re sunt. Formale* ў тагачаснай схаластычнай мове азначала «тое, што ўяўляе найглыбей», найістотней дадзеную рэч, што ёсць нібы выразам яе наістотнейшага зместу. Вось жа, існаванне ёсць тым, што ёсць найпаўнейшым выразнікам дадзенай рэчы. Памятайма, што тое, што існуе, заўсёды канкрэтнае; гэта канкрэтны прадмет, канкрэтная рэч. Не існуе «чалавек» увогуле, не існуе «конь» увогуле, існуе вось гэты чалавек, існуе вось гэты конь і вось тая кветка. Таму, калі мы робім акцэнт у філасофіі і ў быце на існаванні, то з неабходнасці, нягледзячы на тое, якія ёсць меркаванні пра метафізіку, яна робіцца філасофіяй канкрэтнага, філасофіяй найбольш канкрэтных рэчаў, яе прадметам ёсць канкрэтнае, тое, што існуе рэальна, а не абстрактна.

Абстракцыя неабходная, каб зразумець шмат якія рэчы, бо без абстрагавання мы ўвогуле не можам філасафаваць, але тое, чым мы займаемся ў філасофіі, гэта, уласна кажучы, канкрэтныя рэчы, а абстракцыя — толькі метад. У сучаснай філасофскай плыні, якая вельмі модная і называецца экзістэнцыялізмам, часта блытаюць гэтыя паняцці, бо «існаванне» неаднаразова называецца на лаціне, не гэтак, як у св. Тамаша, — *esse*, але як у пазнейшай лаціне — *existentia.* І хаця гэтае слова «экзістэнцыя» значыць тое ж самае, што існаванне, у экзістэнцыялістаў *existentia* — нешта цалкам іншае, чым у св. Тамаша. Калі Тамаш ужывае *esse,* то гаворка ідзе пра існаванне, якое ёсць найстотнейшым канстытутыўным элементам быту, у той час як у экзістэнцыялістаў пад азначэннем *existentia* разумеецца лёс чалавека, а гэта ўжо цалкам іншая справа. Экзістэнцыялізм ёсць філасофіяй чалавека, філасофскай антрапалогіяй, і займаецца праблемай трагічнасці, цяжкасці, велічы чалавечага лёсу, г.зн. цалкам іншымі аспектамі рэчаіснасці, чым тыя, якія цікавяць метафізіку. Таму Жак Марытэн меў рацыю, калі ў 1947 г. у Рыме сказаў: «У найдакладнейшым значэнні экзістэнцыялістам ёсць св. Тамаш, хаця ён экзістэнцыяліст у зусім іншым сэнсе, чым сучасныя экзістэнцыялісты». Калі мы будзем разглядаць праблему чалавека, тады зразумеем лепей, што існаванне не ўдаецца ўвасобіць у паняццях; паняццева мы можам перадаць толькі прыроду рэчы, у паняццях мы выказваем, чым ёсць штосьці, што гэта такое. Калі ж мы канстатуем існаванне, то сцвярджаем яго альбо шляхам пачуццёвага досведу (проста бачу, чую, што штосьці існуе, дакранаюся да яго), альбо ў экзістэнцыйным суджэнні: «А ёсць» — ці існуе. Гэта важна, бо часта справа падаецца так, што філасофія цікавіцца толькі тым, што можа быць укладзена ў паняцці, а існаванне выбіваецца з паняццевых укладаў і таму не можа быць прадметам філасофскай рэфлексіі. Інакш выглядае гэта ў св. Тамаша, для якога існаванне выконвае цалкам прынцыповую ролю ва ўсёй філасофіі, і асабліва ў метафізіцы. Тое, што мы ўжо ведаем пра Тамашаву філасофію існавання, дазваляе нам перайсці да праблемы, якая ёсць асноўнаю для св. Тамаша і вынікае з ужо пазнаных прынцыповых яго тэзаў. Яна з'яўляецца нібы асноваю ўсёй яго філасофіі і тэалогіі — і гэта праблема Бога як самаіснага Існавання.

*Пераклад з польскай мовы*
*Алеся Жлуткі.*

# Франсіско Гоя. Святы Геранім



Англійскі знаўца творчасці Гоі Эрык Янг напісаў пра карціну вялікага іспанскага мастака «Святы Геранім»: «Праца Гоі для сабора ў Таледа напэўна ўразіла езуітаў у гэтай правінцыі, бо пазней ён выканаў для іх серыю палотнаў ”Айцы Касцёла“, часткай якой ёсць гэты твор. Нідзе ў творчасці Гоі напружанасць рэлігійнага натхнення не перададзена больш пераканаўча»[1].

Можна ўпэўнена сцвярджаць, што беларускаму грамадству (ды і свету ў цэлым) Франсіско Гоя (1746–1828) вядомы перш за ўсё сваімі партрэтамі, драматычнымі кампазіцыямі ў жывапісе і гравюры, махамі і кавалерамі, сімвалічным увасабленнем вобразаў сваёй сучаснасці. Гэтай трактоўцы ягонай асобы і ягонай спадчыны не ў малой ступені паспрыяла папулярызатарская плынь у літаратуры (раман Леона Фейхтвангера «Гоя») і кінематографе (фільм Конрада Вольфа з Данатасам Баніёнісам у галоўнай ролі), з якой мы даведваемся, што Гоя — чалавек, які меў візіі, бясстрашны крытык найвышэйшых аўтарытэтаў, надзвычай тэмпераментная, жыццялюбівая асоба, вялікі патрыёт роднай Іспаніі. Характарыстыка мастака як хрысціянскага творцы і глыбокага верніка губляецца недзе на фоне ягонага хрыстаматыйнага партрэта, а гэта несправядліва. Мастак жыў у эпоху рэлятывізму і каласальных сацыяльных пераўтварэнняў, ён шмат і плённа працаваў для Касцёла, у адрозненне ад многіх сваіх еўрапейскіх сучаснікаў, якія «аддзялілі мастацтва ад Касцёла», бачачы ў гэтым патрэбы новай эпохі, дзе, на іх думку, над усім панаваў чалавечы розум.

Франсіско Хасэ дэ Гоя-і-Лусьентэс нарадзіўся ў горадзе Сарагосе, у сям'і майстра залатых справаў. Сям'я адразу ж пераехала ў вёску Фуэнтэтодас, але ў 1760 годзе вярнулася ў Сарагосу, дзе юнак атрымаў першыя ўрокі мастацтва ў майстэрні Лусана і Марцінэса. Праз некалькі гадоў ён быў вымушаны ўцякаць з горада ў сувязі з удзелам у бойцы. З 1766 г. ён актыўна вывучае жывапіс і малюнак у Мадрыдзе, але пасля няўдачы на акадэмічным конкурсе накіроўваецца ў Італію, дзе працягвае навучанне. Аднак з Рыма ён вымушаны таксама ўцячы пасля таго, як яго схапілі ў жаночым кляштары, адкуль ён спрабаваў выкрасці сваю каханую. У 1771 годзе Гоя вяртаецца ў Іспанію, працуе ў Сарагосе, а потым у Мадрыдзе. Ён працуе над партрэтамі арыстакратаў і каралеўскай сям'і і робіць бліскучую кар'еру — у 1799 годзе атрымлівае тытул першага прыдворнага жывапісца. Гоя стварае карціны і цыклы афортаў, прысвечаныя трагічным падзеям крызісу іспанскай манархіі і народнай вайны супраць нашэсця напалеонаўскай Францыі. Праўда ягонага мастацтва выклікае нянавісць у манархічных рэакцыянераў, і ў 1824 годзе пажылы мастак мусіць эміграваць у Францыю. Гоя памёр на выгнанні ў Бардо.

Алтарная карціна «Святы Геранім» створана ў перыяд асаблівага поспеху мастака. Яна належыць да серыі з чатырох карцінаў, прысвечаных айцам Касцёла. Шкада, што яны цяпер знаходзяцца ў розных мастацкіх калекцыях — з'яднаны цыкл шмат што расказаў бы і пра душу самога мастака. Гоя ўжо быў сталым чалавекам, асабліва па тых часах. Грахі маладосці змушаюць яго да раскаяння і шчырага рэлігійнага служэння. І тут талент жывапісца раскрываецца на поўную сілу.

Многія мастакі ўжо звярталіся да вобраза святога Геранімa, але іспанскі мастак праз свае перажыванні стварыў непаўторную трактоўку класічнай тэмы. Святы паказаны ў момант гарачай малітвы і пакаяння, у стане рэлігійнага экстазу. Ён звяртаецца да круцыфікса, які

трымае ў левай руцэ перад сабою, а правай рукой сціскае камень, адзін з сімвалаў пакаяння і аскезы. Схуднелае цела святога і ягоныя рукі, моцныя, але вытанчаныя пастом, — сведчанне ягонага пакутлівага змагання з плоццю дзеля дасягнення духоўнай гармоніі з Хрыстом. Гэтае змаганне працягваецца, і мастак перадае яго драматызм выразнымі кампазіцыйнымі сродкамі. Уся кампазіцыя пабудавана на дынамічнай дыяганалі. Глухая цемра цяжкой масай навальваецца на фізічна знясіленае цела падзвіжніка, але святы Геранім вытрымлівае гэты ўдар цёмнай стыхіі. Святло ягонага скіта сімвалізуе перамогу Боскага духоўнага святла. Як пісала пра майстэрства Гоі каталонская даследчыца Мануэла Мэна Маркес: «Святло, жывапіснымі магчымасцямі якога Гоя віртуозна валодаў і ўмеў свядома выкарыстоўваць як сродак стварэння выявы, было для яго "целам і сімвалам". Бліскучае валоданне перадачай святла вызначае ягоную мастацкую творчасць»[2]. Святло залівае цела святога, ярка высвечвае ягоную галаву з ускудлачанай барадой, рэзка ўспыхвае ў масе чырвані ў выяве тканіны на ягоных сцёгнах — найбольш каларыстычна актыўнай частцы карціны, якая ў цэлым пазначана самаабмежаванасцю колеравай гармоніі. Святло яшчэ раз успыхвае на старонках разгорнутай Кнігі (святы Геранім перакладае на лаціну Пісанне), сплывае па гладкіх паверхнях магутных валуноў і рассыпаецца рэдкімі блікамі на паверхні чэрапа (сімвала тленнасці ўсяго зямнога) і сасудзе з інкаўстам. Але перамога святла не абсалютная. Друзлыя цені абцяжарваюць горла, грудзі і ўпалы жывот святога, падаюць няроўным адбіткам ягонай фігуры на валуны.

Аўтары згаданага зборніка артыкулаў пра іспанскага генія далі выданню агульную назву — «Гоя. Прарок сучаснага». Франсіско Гоя сапраўды вырваўся наперад свайго часу і пацягнуў за сабой усё еўрапейскае мастацтва. Вобразная насычанасць каларыту ягоных карцінаў стала для многіх мастакоў прыкладам творчага развіцця і абнаўлення. Гою нават называюць адным з заснавальнікаў абстракцыянізму, знаходзячы вытокі беспрадметнага мастацтва ў ягоным познім цыкле «Pinturas negras» («Чорныя карціны»), у якім колер з'яўляецца галоўным героям палотнаў. Але гэты маналог апантанага каларыста пачынаецца ўжо ў карціне «Святы Геранім».

Мысленне мастака бясконца індывідуальнае, але працягвае вялікую іспанскую традыцыю (Гоя называў Веласкеса сваім галоўным настаўнікам). Італьянскі мастацтвазнаўца Маргэрыта Абруцэзэ так вызначыла яго мастацкі светапогляд: «Усведамленне рэчаіснасці, не рэчаіснасць як натуралістычнае дадзенае, ёсць фундаментам рэалізму Гоі»[3]. Вялікі мастак быў ворагам «ідэалізаванага рэалізму» акадэмічнага мастацтва, і таму парваў сувязь з афіцыёзнай традыцыяй, якая магла б забяспечыць яму прыжыццёвы камфорт. Ён пераўтвараў вобразы бачнага свету, прапускаючы іх праз прызму сваёй неспакойнай душы. У «Святым Гераніме» гэты працэс пераўвасаблення дае такую спірытуальную напружанасць, якую зведала толькі гатычнае і барочнае мастацтва. Але гэта не стылістычны паўтор мінулага — мастак стаіць ужо на парозе XIX стагоддзя. Ён не можа, падобна сваім папярэднікам, дазволіць сабе дэфармацыю мастацкай выявы дзеля таго, каб узмацніць эфекты дынамікі формы і вобразнай вастрыні. Усё ў карціне заснавана на натуральных ўзаемаадносінах рэальных рэчаў. Абстрагуючыся ад тэмы, можна адчуць, як мастак працаваў з пажылым натуршчыкам, арганізоўваў нацюрмортную пастаноўку і крыніцы асвятлення сцэны. У дзверы іспанскага мастацтва ўжо стукаўся рэалізм, але ў трактоўцы Гоі гэтае мастацкае светаадчуванне набыло моцнае містычнае гучанне — абстрагавацца мы можам толькі на хвіліну, а потым каталіцкі мастак ўладарна вяртае нас у сферу рэлігійнай драмы. Тое ж самае перажывалі сучаснікі мастака і наступныя пакаленні, якія па-новаму прачытвалі ягоныя творы. Яго назвалі таксама прадвеснікам рамантызму і сюррэалізму. Магутны талент Гоі сапраўды неадназначны і не ўпісваецца ў стылістычныя рамкі. На розных этапах творчасці Гоя рабіў свае адкрыцці і закладаў асновы для будучых генеральных кірункаў еўрапейскага мастацтва. У выніку паўстала не эклектыка ад вечнага шукальніка, а арганічнае (і ў той жа час поўнае ўнутраных супярэчнасцяў) індывідуальнае мастацтва, сустракаючыся з якім, мы з захапленнем кажам — гэта Гоя!

*Валеры Буйвал*

[1] Young E. Francisco Goya. — London, 1978. — С. 17.
[2] Goya. Prophet der Moderne. Herausgegeben von P.-K. Schuster und W. Seipel, gemeinsam mit M.B. Mena Marques. — Köln, 2005. — С. 19.
[3] Abbruzzese M. Goya. — Firenze, 1967. — С. 25.

**Валеры Буйвал** — мастацтвазнаўца, перакладчык. Нарадзіўся ў 1955 г. Закончыў Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна ў Санкт-Пецярбурзе (1977). Даследуе беларускае і заходнееўрапейскае мастацтва. Пераклаў на беларускую мову асобныя творы М. дэ Сервантэса, Г. Г. Маркеса, Ж. Амаду, Б. Б'ёрнсана, А. Стрындбэрга, Дж. Вэргі, К. Чапэка і інш.



Ева Лявонава

# АНЁЛЫ Ў БІБЛЕЙСКАЙ ПРАСТОРЫ

Агульнавядома, што слова «анёл» (грэч. *angelos*) перакладаецца як «пасланец», «вястун». Уяўленні пра анёлаў маюцца ў розных культурах: вікінгі называлі іх валькірыямі, персы — фравашамі, індзійцы — апсарамі... Ёсць яны ў даасізме і будызме, зараастрызме і ісламе; асабліва і надзвычай важнае месца займаюць анёлы ў хрысціянстве, невыпадкова цягам доўгага часу (да XVIII стагоддзя) у Еўропе існавала і развівалася такая самастойная дысцыпліна, як хрысціянская анёлалогія, якая мясціла ў сабе багаслоўскія, містычныя, філасофскія, антрапалагічныя характарыстыкі анёлаў, адпаведныя ўяўленні пра іх паходжанне, іерархію, прызначэнне і функцыі, узаемаадносіны з Богам і чалавекам.

Анёлы належаць да тых біблейскіх персанажаў, да якіх наша свядомасць звяртаецца найчасцей. «Анёлы старэй-

**Ева Лявонава** — кандыдат філалагічных навук, прафесар кафедры замежнай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Крытык і навуковец. Працуе ў такіх галінах літаратуразнаўства, як германістыка, беларусістыка, кампаратывістыка, вывучае беларуска-замежныя літаратурна-культурныя сувязі. Апублікавала ў айчынным і замежным друку больш за 400 артыкулаў, навуковых і навукова-метадычных працаў, у тым ліку кнігі «Плыні і постаці: З гісторыі сусветнай літаратуры другой паловы XIX–XX стагоддзяў» (1998), «Беларуская літаратура XX ст. і еўрапейскі літаратурны вопыт» (2002), «Агульнае і адметнае: Творы беларускіх пісьменнікаў XX стагоддзя ў кантэксце сусветнай літаратуры» (2003), «Немецкая литература XX века: Германия. Австрия» (Москва: Флинта; Наука, 2010) і інш. Аўтар і сааўтар многіх вучэбных праграм, вучэбных дапаможнікаў і падручнікаў для выкладчыкаў-славеснікаў, студэнтаў і школьнікаў.

шыя за нас на два дні і дзве ночы, — скажа слынны аргенцінскі пісьменнік Хорхе Луіс Борхес у сваёй «Гісторыі анёлаў», — Бог стварыў іх у дзень чацвёрты, і яны, паміж толькі што створаным сонцам і першым месяцам, пазіралі на нашу зямлю...» І звернецца, у прыватнасці, да таго месца з Кнігі Ёва, дзе Бог нагадвае аб пачатку свету, калі Ім былі закладзены і ўмацаваны «асновы зямлі» *«пры ўсеагульнай радасці ранішніх зорак, калі сыны Божыя ўсклікалі ад захаплення»* (пар. Ёў 38, 4–7) (1); «няцяжка здагадацца, — піша Х. Л. Борхес, — што гэтыя сыны Божыя і зоры, якія спяваюць, — анёлы».

Між тым у Кнізе Быцця гаворкі наўпрост аб стварэнні анёлаў няма. Аднак шматлікія каментатары Бібліі мяркуюць, што ў першым радку Святога Пісання (*«На пачатку стварыў Бог неба і зямлю»,* Быц 1, 1) пад «небам» маецца на ўвазе якраз нябачны горні анёльскі свет. Менавіта ў значэнні месцазнаходжання анёлаў слова «неба» шматкроць сустракаецца ў Кнізе кніг (Першай кнізе Валадарстваў 22, 19; святым Евангеллі паводле Мацвея 18, 10 і інш.).

Знаўцы Бібліі заўважаюць пры гэтым, што хоць акт стварэння анёлаў і быў духоўным, яны ўсё ж не з'яўляюцца адвечнымі, бо такім ёсць толькі сам Бог. Анёльскі ж свет, паводле Аўгустына, «зладжаны так, што ў сузіранні неаслабным, у нязменнасці пастаяннай, хоць зменлівы, але нязменны, атрымлівае ён насалоду» ад «вечнасці і нязменлівасці» Бога.

Паказальна, што анёлы, якія атачаюць прастол Божы, у Бібліі нярэдка вызначаюцца як «нябеснае воінства», «войска Божае», напрыклад: *«...я бачыў Бога на троне Яго, і ўсё войска нябеснае стаяла пры Ім, праваруч і леваруч ад Яго»* (пар. 1 Вал 22, 19); *«...я правадыр войска Божага, цяпер прыйшоў»* (пар. Нав 5, 14). Іначай кажучы, локус «неба» мае тут духоўную сутнасць, у адрозненне ад зямлі — свету дольняга: *«Неба — неба Богу, а зямлю Ён даў сынам чалавечым»* (пар. Пс 113, 24). Неба ж, якое мы бачым, — не духоўнае, не «неба нябёсаў», а матэрыяльнае, і яно ёсць той жа цвердзю, па сутнасці — той жа зямлёю, што і ўласна зямля: *«І назваў Бог скляпенне нябёсамі», а «сушу зямлёю»* (Быц 1, 8; 10). Але паміж двума небамі няма непраходнай бездані, бо неба — «Трон Божы», а зямля — *«падножжа ног Ягоных»* (Мц 5, 34–35).

Анёлы, такім чынам, — істоты духоўныя; разумныя, справядлівыя, здольныя да эмоцый, надзеленыя мудрасцю і вялікім веданнем, несмяротныя, аднак не вечныя ў тым сэнсе, у якім вечны Бог — бясконцы і бязмежны. Асобную ўвагу біблеісты звяртаюць на такую ўласцівасць анёлаў, як бесцялеснасць, лічачы неабходным падкрэсліць: бесцялеснымі, нябачнымі, духоўнымі анёлы з'яўляюцца «толькі ў параўнанні з насельнікамі матэрыяльнага свету, а ў параўнанні з Богам — адзіным, хто можа быць прызнаны абсалютна і сапраўды духоўным, — іх быццё можа ацэньвацца як матэрыяльнае, рэчыўнае і абмежаванае» (2, 15). Найперш таму, што анёлы — істоты створаныя, а значыць — маюць форму, межы, цела. Іншая справа, што цела гэтае найчасцей бачыцца знаўцам Бібліі як эфірнае, ветрападобнае, або як светлавое, або як вогнепадобнае. Бліскучы расійскі мысляр М. А. Лоскі (1870–1965; дарэчы, наш зямляк — нарадзіўся ў Віцебскай губерні) пісаў, што анёлы, не маючы цела матэрыяльнага, маюць «прасторавае цела» — са святла, цяпла, гукаў і пахаў.

Паводле Дыянісія Арэапагіта (3), нябесная іерархія выглядае наступным чынам: вышэйшыя анёльскія хоры — гэта серафімы, херубімы і троны; сярэднія — улады, панаванні і моцы; ніжэйшыя — княствы, арханёлы і анёлы (гл.: 2, 117–150). Найбліжэй да чалавека анёлы апошняй, трэцяй трыяды; найбліжэй да Бога і, адпаведна, наймудрэй — анёлы першай трыяды.

Хаця анёлаў вакол трона Божага *«мірыяды мірыяд і тысячы тысяч»* (Ап 5, 11), усё ж непасрэдна *«перад Ягоным тронам »* (Ап 1, 4) іх сямёра; менавіта яны маюць імёны, і сутнасць іх асаблівая: *«Што да таямніцы сямі зорак, якія ты бачыў у Маёй правіцы, і сямі залатых свечнікаў, то сем залатых зорак — гэта анёлы сямі Касцёлаў, а сем свечнікаў — гэта сем Касцёлаў»* (Ап 1, 20).

Анёлы маюць шэраг характарыстык — як базавых, скразных, універсальных, так і менш устойлівых, лакальных. Сярод найбольш істотных, дамінантных, адпачаткавых палягаюць характарыстыкі і вонкавага аблічча анёлаў, і пэўных іх дзеянняў і ўчынкаў, і пэўных локусаў, з'яваў і прадметаў, якія суправаджаюць існаванне анёлаў у біблейскай прасторы і ва ўяўленнях чалавека пра іх. З усіх анёльскіх атрыбутаў найчасцей сустракаюцца тры — крылы, труба, меч.

Паводле Бібліі, шасцю крыламі надзелены анёлы з першай трыяды — серафімы: *«Серафімы*

*стаялі над Ім. Кожны з іх меў па шэсць крылаў: двума закрываў кожны свой твар, і двума закрываў ногі свае, і двума лятаў»* (Іс 6, 2). У кожнага ж з херубімаў *«па чатыры крылы»* (Эзх 10, 21) і *«чатыры твары: першы твар — твар херубімавы, другі твар — твар чалавечы, трэці твар — ільвіны і чацвёрты — твар арліны»* (пар. Эзх 10, 14). Крылы маюць таксама анёлы і арханёлы.

Яшчэ адзін характэрны атрыбут анёла — труба; трубнымі гукамі анёлы, пасланцы і вестуны Бога, абвяшчаюць Яго волю, нагадваюць аб Яго ўсеўладнай прысутнасці ў светабудове, аб Яго ўсёвырашальным удзеле ў падзеях і лёсах асобнага чалавека і чалавецтва. Асабліва ў гэтым сэнсе яскрава, трагічна-магутна засведчаны праявы сілы Божай на зямлі Янам Багасловам: *«Тады сем анёлаў, якія мелі сем трубаў, падрыхтаваліся, каб затрубіць»* (Ап 8, 6), і кожны з іх абвясціў пра чарговае нечуванае бедства: град і агонь змяшаліся з крывёю, і траціна ўсіх дрэваў згарэла, траціна мора напоўнілася крывёю, і траціна ўсяго жывога, з караблямі ўключна, загінула, траціна водаў зрабілася палыном, і траціны сонца, месяца і зорак пагаслі, саранча выйшла з бездані, каб мучыць яшчэ жывых, каб шукалі яны смерці як ратавання, ды нават смерць уцякала ад іх... (пар. Ап 8–9). Трубнымі гукамі абвяшчаюць анёлы Судны дзень, і анёлы ж выліваюць *«сем чашаў гневу Божага на зямлю»* (Ап 16, 1).

Нарэшце, паколькі анёлы ёсць «нябесным воінствам», яны могуць быць узброеныя мячом, бо з яго дапамогаю анёл здзяйсняе Божае пакаранне, з ім ахоўвае сад Эдэмскі і *«дарогу да дрэва жыцця»* (пар. Быц 3, 24). Нярэдка з'яўленне анёлаў суправаджаецца агнём; агонь нясе ў сабе ачышчальную сілу; і сам анёл можа прыпадабняцца да агню. Так, *«у пустыні ля гары Сінай яму [Майсею] з'явіўся анёл Пана ў палаючым кусце»* (Дз 7, 30).

Функцыі анёлаў надзвычай розныя. Анёлы актыўна ўдзельнічаюць і ў старазапаветных гісторыях (напрыклад, выводзяць з Садомы Лота і дзвюх яго дачок (пар. Быц 19, 16); анёл спыняе Абрагама, гатовага закалоць свайго сына на ахвярніку (пар. Быц 22, 12 і інш.), і ў новазапаветных (анёл з'яўляецца Дзеве Марыі, паведамляючы, што ад Духу Святога народзіць Яна Сына, Езуса Хрыста (пар. Лк 1, 28–38); бэтлеемскім пастухам анёл прыносіць радасную вестку аб нараджэнні Збаўцы (пар. Лк 2, 9–12); ад анёлаў жанчыны дазнаюцца аб уваскрасенні Хрыста (пар. Лк 24, 23). Хрыстус гаворыць пра анёлаў, апекуноў малых дзяцей: менавіта гэтыя анёлы *«ў нябёсах заўсёды бачаць аблічча Айца Майго, які ў нябёсах»* (Мц 18, 10); Ён жа папярэджвае вучняў, што «пры сканчэнні веку: выйдуць анёлы і аддзеляць благіх ад праведнікаў» (Мц 13, 49)... Прыклады біблейскіх сюжэтаў з удзелам анёлаў можна доўжыць...

Адпачатку чыстыя і паслухмяныя, анёлы шчыра і аддана служаць Богу, часткай Провіду якога яны з'яўляюцца; яны паведамляюць чалавеку аб волі Бога, апякуюць людзей, клапоцяцца пра іх і ўмацоўваюць іх дух і цела, папярэджваюць аб небяспецы, абараняюць і ратуюць, дапамагаюць годна прайсці праз маральныя і фізічныя выпрабаванні, накіроўваюць і падказваюць шлях. *«Анёл Пана сказаў Філіпу: Устань і ідзі на поўдзень...»* (Дз 8, 26). У такім ракурсе анёл — своеасаблівы ідэал, ахоўнік і выратавальнік; як кажуць немцы, *ein guter Engel* (добры анёл), *der rettende Engel* (выратавальны анёл). З'яўленне анёла можа збянтэжыць, выклікаць замяшанне і жах, бо, апроч іншага, анёл можа паведаміць чалавеку аб хуткай смерці або прыйсці па яго душу (анёл смерці можа мець пры сабе меч з атрутай), а можа выклікаць ціхую радасць і заспакаенне, — усё залежыць ад памкненняў і ўчынкаў канкрэтнага чалавека і ад волі Бога ў дачыненні да яго. Анёл можа з'яўляцца чалавеку ў снабачаннях, крозах, відзежах, у выглядзе пэўных знакаў (знаменняў).

Ёсць, аднак, і іншыя анёлы, тыя, каго бязмежная ганарлівасць і амбіцыйнасць, эгаізм і прага ўлады падштурхнулі да ўдзелу ў паўстанні, узнятым сатаною. Яны страцілі святасць, сталі часткай свету цемры, увасабленнем грахоўнасці, ворагамі Бога; адпаўшы ад Стварца, яны былі прагнаныя ад твару Яго, зрынутыя з нябёсаў. Гэтыя злыя духі валодаюць немалой спакушальнай сілай і маюць вялікую небяспеку для чалавека, перадусім слабага і хісткага ў сваёй веры. Традыцыйна канфлікт паміж анёламі святла і анёламі цемры ўспрымаецца як адвечнае супрацьстаянне дабра і зла.

Важна помніць, што часам д'ябал у сваіх падступных мэтах можа прымаць анёльскае аблічча; хрысціянскае багаслоўе сцвярджае: толькі поўная перакананасць, цвёрдая ўпэўненасць чалавека ў тым, што ён

бачыць перад сабой менавіта анёла, павінна скіраваць яго да падпарадкавання вышэйшай сіле, да ўспрыняцця тых або іншых пададзеных ёю знакаў і ўказанняў. Усякае ж сумненне павінна насцярожыць, спыніць, перасцерагчы чалавека ад паспешлівых рашэнняў. Асабліва часта сустрэчы з выгнанцамі, адвержанцамі, анёламі зла (ням. *ein bцser Engel*) адбываюцца ўначы — час, калі актывізуюцца дэманічныя сілы. Апошнія могуць узняць чалавека ў паветра, заманіць у пастку, аднесці далёка ад дому, і спатрэбяцца немалая мужнасць і вера, каб адужаць гэтую д'ябальскую напасць. Аднак з нявіннай, чыстай істотай злы дух не ў стане саўладаць; больш за тое, для яго самога такая сустрэча мае рэальную небяспеку.

Тут ёсць сэнс зноў звярнуцца да разважанняў ужо згаданага філосафа М.А. Лоскага. Паводле яго, чалавек у сваім заўсёдным імкненні дасягнуць «абсалютнай паўнаты быцця» мусіць выбіраць адзін з супрацьлеглых шляхоў — або шлях да Бога як да «адпачаткавага Абсалютнага Дабра», або шлях да сатаны, на які ступае той, хто сябе самога ўяўляе ўладаром усіх іншых істотаў. Магчымае, аднак, і менш рашучае адпадзенне ад Бога; прайшоўшы праз выпрабаванні адзінотай і адчаем, праз абыякавасць да лёсу іншых і засяроджанасць на асабістых перажываннях, сумленны чалавек усё ж знойдзе ў сабе сілы адпрэчыць зло, справіцца са спакусамі і перашкодамі, вырашыць уласныя духоўна-душэўныя супярэчнасці на карысць «жыцця ў Хрысце». «У нашым царстве быцця Бог з д'яблам змагаюцца і поле іх бітвы — сэрцы людзей...», — пісаў М.А. Лоскі.

У самых цяжкіх варунках мы якраз і спадзяемся на свайго добрага анёла, анёла-ахоўніка, ахоўніка-абаронцу, на дабратворнае і міласцівае садзейнічанне таго, каго протаіерэй С. Булгакаў (1871–1944; знакаміты расійскі філосаф і багаслоў) называў «невядомым і блізкім Другам». Мае сэнс прывесці разгорнутую цытату з працы С. Булгакава «Лесвіца Іакаўля (Пра Анёлаў)»: «Гэты *іншы* (тут і далей курсіў аўтара. — Е.Л.) для кожнага чалавека, гэты друг, Богам дадзены і створаны для яго, ёсць яго анёл-ахоўнік, які заўсёды яго пільнуе, жыве з ім *адным жыццём*. Ён — самы блізкі, хаця і далёкі, бо нябачны, нячутны, недаступны ніякаму цялеснаму ці нават душэўнаму ўспрыманню. Гэткае ціхае і лагоднае яго духоўнае дакрананне, што незаўважная і сама ягоная прысутнасць для чалавека... Анёл-ахоўнік, жыхар горняга бясплотнага свету, не мае прамога доступу да нашага рэчаўнага свету, да нашай цялеснай існасці. Вядома, ён мог бы ўскалануць яе або нават разбурыць гэтую нашую тленную прыроду страшным з'яўленнем сваім (адкуль і вынікае яшчэ старазапаветны жах перад з'яўленнем анёла: нельга ўбачыць яго тварам у твар і не памерці). Але на гэтае з'яўленне неабходна непасрэдная воля Боская... У бітве духоўнай без гэтага заступніка разбурана і атручана, разбэшчана і знішчана была б наша існасць. Нас заўсёды ахоўвае ад падобнага гэты стратэг, воін духоўны. У гэтым ён актыўна дзейны, безупынна напружаны, ён дзейнічае ўсёю моцаю сваёю. Але зямнога друга, апекаванага ім чалавека, ён не гвалтуе... Ён песціць і мілуе яго душу, яго шэпт у чутным маўчанні навявае ёй добрыя мыслі, якія ў ёй самой нараджаюцца, аднак у такой ціхасці і лагоднасці, што душа не заўважае ўнушэння... Ён *глядзіць* у душу нашу і бачыць нас, і гэтага дастаткова для таемнай маўклівай размовы душы з найвышэйшым сваім "я"... Гэты "ўплыў" не паддаецца ніякаму ўліку, але не ад слабасці, а ад глыбіні і пяшчотнай інтымнасці сваёй. Ён падобны да натхнення, праз якое чалавеку адкрываецца яго ўласная глыбіня» (цыт. па: 4, 374).

Нядзіўна, што анёлы надзвычай часта прыцягвалі і прыцягваюць да сябе ўвагу пісьменнікаў, выконваючы вельмі істотную (а часам — вызначальную) ролю ў стварэнні іх мастацкіх парадыгмаў. Аднак гэта ўжо тэма для іншага матэрыялу.

---


1. Біблія: Кнігі Сьвятога Пісаньня Старога і Новага Запавету кананічныя ў беларускім перакладзе / Пер. В. Сёмухі. — Duncanville, USA: Word Wide Printing, 2002.
2. Книга ангелов: Антология христианской ангелологии / Сост., вступ. ст., примеч. Д. Ю. Дорофеева. — Санкт-Петербург: Амфора, 2005.
3. Дыянісій Арэапагіт жыў у І ст. у Афінах, быў чалавекам надзвычай адукаваным, членам старажытнай судовай калегіі (інačай — Арэапагу). Быў пасвечаны ў хрысціянства самім апосталам Паўлам, стаў яго адданым вучнем і паслядоўнікам, першым епіскапам Афінаў. З'явіліся, аднак, сцверджанні, паводле якіх аўтарства «Corpus Areopagiticum» належыць іншаму чалавеку, які жыў не раней за другую палову V ст.; на карысць гэткіх высноваў сведчаць, як мяркуюць даследчыкі, і асаблівасці мовы сачыненняў, і некаторыя прыведзеныя ў іх рэаліі і факты, якія не маглі мець месца пры жыцці Дыянісія Арэапагіта.
4. Лосский Н. О. Бог и мировое зло. — Москва.: ТЕРРА — Книжный клуб; Республика, 1999.



**Васіль Зуёнак** — паэт, кандыдат філалагічных навук. Нарадзіўся ў 1935 г. у в. Мачулішча Крупскага раёна. Скончыў Белдзяржуніверсітэт. Працаваў у газеце «Піянер Беларусі», часопісе «Маладосць», сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў. Друкуецца з 1954 года. Напісаў зборнікі паэзіі «Крэсіва» (1966), «Крутаяр» (1969), «Сяліба» (1973), «Нача» (1975), «Маўчанне травы» (1980) і інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Піша таксама для дзяцей. Жыве ў Мінску.

Васіль Зуёнак

# Настане дзень такі…

* * *

Паэт — прыроды вечнае дзіця,
Паэт — народа вешчае маўленне...
А можа, гэта хлопчык для біцця?
За ўсе правіны вашыя — маленне?..

І слухаюць — хаціна і палац —
Яго: хто з утрапеннем, хто з насмешкай.
Адным — загадка, а другім — паяц,
А сам сабе — як у дзяцінства сцежка...

І можа, ён шчаслівы самы быў,
Калі не знаў, што людзі пішуць вершы,
І плёну не чакаў, як ад сяўбы,
І па-дзіцячы быў за ўсіх мудрэйшы...

* * *

Настане год, настане дзень такі,
Калі, нарэшце, у нябыт адыдуць
Бяздарныя бяздарных двайнікі,
Рэжыму пустазвонныя флюіды.

Ачысціцца ад пошасці зямля,
Ад сейбітаў, што сеюць языкамі,
Ад множання: круцель на круцяля,
І замест хлеба — у здабытку — камень.

Расплодзяцца разумнікі адны —
Элітныя, у першым экзэмпляры:
Ні жалю, ні камп'ютарнай віны,
Ва ўсім — халодны досвед капіляраў.

І не ў даўгу ніхто ні перад кім,
Пароўніцы эмоцый і нейронаў.
Ва ўсім — і сваякі, і чужакі:
Сам нападзенне, сам і абарона.

А Бог? А Бог на геніяльных раць
Падзівіцца: «Калі ж яны без Бога
Зноў двайнікоў пачнуць сабе ствараць,
Каб хтосьці збочыў з правільнай дарогі?..»

* * *

Над крынічкай з заімшэлым зрубам
Вечар ахінаецца зарой.
Сумна — як перад вялікай згубай...
Ці то час такі, ці то настрой?..

Больш пра смерць — і думак, і гаворкі:
Колькі дзён тых засталося мне?..
Прамаўчаць заманлівыя зоркі,
Ціха жытні колас уздыхне...

Абяцанняў не было ад Бога,
А тым больш — іх людзі не далі.
Не пытаўся і ў сябе самога:
Чым усцешу дзень свой на зямлі?..

Ды суцехі не было й не будзе, —
Штосьці мог, здаецца, а ці змог?..
Кажа Бог: «На тое ж вы і людзі...»,
Кажуць людзі: «Ты ж яшчэ не бог!..»

* * *

Як мне хочацца зноў узабрацца
На сумёт, што вышэй за плот.
Ды нямашака ў студзеня працы —
Час такі: на снягі не ўмалот.

І не скоцяцца санкі з-пад неба
У бязмежжа завейнай смугі...
Час такі: не дапросішся хлеба
І з дзяцінства не вернеш снягі...

## БУДЗЕ ЛЕТА...

А канікулы не за гарамі:
Клічуць нас ужо з Лысай гары.
Едзем! Едзем!.. І Ніка з намі —
Хопіць з Васем урокі зубрыць!..

Будзе полем і па лугавіне
Ў лес дарога — адна на траіх:
Нам з унукам — па каляіне,
Ну а Ніка — паперадзе ўсіх!..

На ражончык сала наніжам:
Кропля з лустачкі — і з языка! —
Будзем з Нікай — сяброўкаю рыжай —
Той скрылёчак з агню чакаць.

На траіх, без падману, падзелім,
На закуску абліжам далонь.
Потым скончыцца раптам нядзеля,
Дагарыць і патухне агонь...

Ды не скончыцца лета на гэтым, —
Гэтак мы яго толькі пачнём...
Потым Ніка кавалачак лета
Прывязе без білета ў наш дом.

Будзе торгацца носік звярыны,
Дух кастрышча лавіць па начах,
І дарога ў дзве каляіны
Будзе бегчы ў сабачых снах...

* * *

У самым зеніце лета,
А мне ўжо крылом
Махае вырай — сусвету
Майго крыгалом.

Цвітуць успамінаў кветкі
На лузе маім.
Быў водгалас госцем рэдкім,
Ды знік назусім, —

Як вырак: « Былых не збярэш ты
Дарог і слядоў...»
Зязюля адлічвае рэшту
З пражытых гадоў...

## ДОЛЯ

Бяроза ў лесе, васілёк у полі
Хрышчоныя аднолькаваю доляй:
Завуць то пустазеллем іх, то смеццем,
А любяць, як любіць магчыма ў свеце.

* * *

Вось цяпер і канчаецца...
Сапраўды... Назаўжды...
Лета... Лета звычайнае —
І такое бяды...
Але ж — не... Але ж падае
Першы снег на зямлю,
А сябе — хоць і радую —
Ды на думцы лаўлю:
Хай зусім не пра гэта я, —
Што з таго, што з таго...—
А ўжо лета адлетаваў —
Больш не будзе яго...

* * *

Зоркі новыя і нават звышновыя,
Як новы запавет, астрафізікі
Адкрываюць. І ўжо розум наіўна высноўвае,
Што да Бога — як рукою падаць: блізенька.

І блытаем зорныя меркі з уласнымі,
Бо тыя новыя — забытае светам відовішча.
І нам з мінулага свецяць зоркі даўно пагаслыя,
А святло ад новых — да нас не дайшло яшчэ...



**Алесь Разанаў —** паэт.
Нарадзіўся 5 снежня 1947 года ў в. Сялец Бярозаўскага раёна на Берасцейшчыне. У 1970 г. скончыў Брэсцкі педінстытут. Напісаў кнігі паэзіі «Адраджэнне» (1970), «Назаўжды» (1974), «Каардынаты быцця» (1976), «Шлях-360» (1981) і інш.
У апошнія гады ў выдавецтве І. П. Логвінава выйшлі «Кніга ўзнаўленняў» (паэтычныя ўзнаўленні старабеларускіх тэкстаў), «Лясная дарога» (версэты), «Каб мелі шчасце ўваскрасаць і лётаць» (паэмы), «Дождж: возера ў акупунктуры» (пункціры), «Пчала пачала паломнічаць» (вершаказы), «Сума немагчымасцяў» (зномы).
Напісаў дзве кнігі на нямецкай мове: «Wortdichte», «Der Zweig zeigt dem Baum wohin er wachsen soll».
Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы, прэміі імя Гердэра. Жыве ў Мінску.

Алесь Разанаў

# Хай зелянее гай

## Пункціры

*

Цёмная вулка:
ў акне
чытае дзяўчына кнігу:
вякі — айчына.

*

Уражваецца абшар:
з-пад хмар
жар выпадае.
Ранак.

*

Кумкаюць жабы:
цвітуць
гарлачыкі ў сажалцы —
разумеюць.

*

Гняздо для маланкі —
дуб
аздобіўся ў аблачыну.

*

Услед за залевай:
ліе
спеўную кроплю
жаўрук над жытам.

*

Датуль і дасюль:
абселі
сюітаю ластаўкі
правады.

*

Вокны — іконы:
коны
згушчаюцца ў глыбіні.

*

Адчэпяцца некалі? Не?! —
Пчалу
сцярушвае з сотаў пчаляр
далікатна.

*

Дрэвы загаварылі:
пространь
у крыллі — ростань.

*

З хваіны ў хвіліну:
шышка
шукае для лішку
схоў.

*

У досвітку:
спакваля
смакуе шпак калівы
наваколля.

*

Звоніць камар у званы:
нязваны —
збіраю ў бары лісічкі
і баравікі.

*

Кронаю над,
каранямі пад —
ліпа
ўмалёўваецца ў мяжу.

*

Птах ночы —
з-за гор
вынырвае месяц:
хаваю вочы.

*

Колькі мяне? —
На ветры
гайдаецца дзьмухавец —
гадае.

*

Певень спявае —
пень паспявае
упэўніцца,
што ён тут.

*

Зязюля кукуе:
хай
зелянее гай!

*

Бярэ, што даецца:
рукі
падставіў жабрак
дажджу.

*

Сонца ніжэе:
промні
скошваюць цвыркуны.

*

За небакраем пажар!..
Брыдуць
дрэвы абпаленыя
ў адвячорак.

*

Дзівосы:
гасподу
ў стадоле майструюць
восы.

*

Вітрыны ў люстэрках:
міма
ідзе з трысцінаю
дождж.

*

Заўжды маладая —
вада злятае
на крылах з гары.

*

Свавольніца:
берагі
рэчку вядуць
за рукі.

*

Грукае гром:
з узгорка
ўздымаецца ў бездань
дуб.

*

Лічаць штыкеціны,
сочыць плот,
колькі мяне:
мінаю.

*

Параспускаліся кветкі —
ў гняздзе
раты паадтульвалі
ластаўчаняты.

*

Штось засталося?
Сокал
лунае над валуном.

*

Аблямаваная ў полымя —
зацвіла
яблыня ў полі.

*

Што маю?..
Выходжу
з бажніцы — голуб
сядае на галаву.

*

Мыкае —
адмыкае
прыцемкі: малако
з пашы нясе карова.

*

Хілюся:
ляцяць
вуліцай гусі.

*

Хопіць на потым
клопатаў:
спіць
у лопуху хлопец.

*

У завязі:
сад
вымае з улоння
з’явы.

# ГАЛАСЫ З МІНУЛАГА

*«Найгорай гэтае прытворства, калі халтура і ўзурпатарства падаюцца як авангард і рэвалюцыйныя дасягненні, калі ўзнімаюцца пасрэднасці, якіх называюць творцамі...»*

З Антоніем Лібэрам размаўляе Ганна Сасноўская



*Антоні Лібэра* — перакладчык, пісьменнік, тэатральны рэжысёр, знаўца і папулярызатар творчасці Сэмюэла Бекета, аўтар твораў «Мадам», «Благаслаўленне Бекета і іншыя літаратурныя прызнанні», «Гадо і яго цень». Нарадзіўся ў 1949 годзе. Жыве ў Варшаве.

*Ганна Сасноўская* — журналістка. Скончыла ўніверсітэт імя кардынала Стэфана Вышынскага ў Варшаве. Працуе на канале «Religia.TV». Нарадзілася ў 1979 годзе. Жыве ў Варшаве.

— *Кніга — гэта для Вас што?..*

— Кніга — гэта літаратура, а літаратура — гэта слова...Слова — гэта чалавечае вынаходніцтва, якое дапамагае не толькі сумоўю, але і разуменню свету. Кніга — гэта запісаныя людскія думкі і ўяўленні, ці, калі абагульнена: рэакцыя чалавека на тое, што ёсць. Бо ў асноўным праз слова адбываецца акт самапазнання і аўтатлумачэння... Бібліятэка для мяне — гэта сабраны чалавекам збор сведчанняў разумення свету і самога сябе...

— *Чытанне — гэта ўцёк ад свету ці спроба знайсці ў літаратуры адказы на пытанні, якія можна прымяніць у гэтым свеце? А можа, Вы чытаеце таму, што літаратурны мінісвет кантраляваць лягчэй, чым той, які нас акружае?*

—Чытанне для мяне — гэта не спосаб разумовай забавы. Я не пажыральнік кніжак... Чытаю ўважліва, часта з алоўкам у руцэ... Назваў бы гэта слуханнем галасоў з далёкага і блізкага мінулага. Таму раблю даволі ўважлівую „селекцыю" таго, што чытаю... Найважнейшая для мяне — класіка. Так, шукаю ў ёй адказы на пытанні, якія мяне хвалююць, але не ў практычным сэнсе, быццам адказы маглі б мне так ці інакш дапамагчы ці хоць бы неяк спатрэбіцца... Адначасна літаратура — гэта пэўнага роду прытулак у хаатычным свеце, гэта заўсёды пэўная сістэма правілаў і завершаны збор элементаў, якімі можна да пэўнай ступені карыстацца... У жыцці такое немагчыма...

— *У адным з інтэрв'ю, у дачыненні да аповесці «Мадам», Вы сказалі, што верыце ў творчую моц слова... Гэта праўда — Вы лічыце, што літаратура можа змяніць унутраны свет і свет вакол нас?*

— Мне здаецца, гэта так відавочна, але гэты працэс цяжкі для зразумення. На маю думку, уся цывілізацыя ёсць функцыянаваннем таго, пра што чалавек аднойчы падумаў або што прыдумаў. І тое было запісана. Скажам так: выток зменаў у людскім свеце знаходзіцца ў галаве чалавека — у думках, працэджаных праз слова. Літаратура — гэта сфера мовы. *Ergo*: яна істотна ўплывае на рэчаіснасць чалавека. Гэта інструмент яго аўтаперастварэння... Я маю на ўвазе літаратуру ў яе найвышэйшым выданні ці такую, што выяўляе, падае з'явы, у якіх чалавек паказвае сябе такім, якім ён ёсць у гэтае імгненне... Падводзячы вынік думкі: веру ў першаснае тлумачэнне «Гімна аб Слове» святога Яна — асабліва ў перакладзе Рамана Брандштэтара, які знайшоў філалагічнае вырашэнне, каб яно гучала ў цяперашнім часе: «На пачатку **ЁСЦЬ** Слова»!

— *З Вашага разважання вынікае, што класічны твор нясе ў сабе пэўную праўду. А што яшчэ павінен мець літаратурны твор, каб заслужыць назву класічнага?*

— Удакладняю: гаворачы аб

праўдзе, я маю на ўвазе, ці адпавядае твор сучаснаму ўяўленню чалавека пра свет і пра самога сябе...

Напрыклад, антычная трагедыя даносіць да нас праўду ў тым сэнсе, што гаворыць нам, як тады ДУМАЛІ, што ёсць — не як бы ёсць, але што так БЫЛО або так ЁСЦЬ у безумоўным сэнсе...

Класічны твор — гэта такі твор, які трапляе ў самую сутнасць канкрэтнай эпохі, які найдакладнейшым спосабам яе паказвае...

Другім кампанентам, які дае твору класіфікацыю класічнага, ёсць форма... Форма часам бывае ў самой задуме або ў ідэі, часам у незвычайным майстэрстве або бліскучым спосабе апрацоўкі моўнага тэксту. З такім майстэрствам напісана «Боская камедыя» Дантэ... Яе канструкцыя проста матэматычная: усё ў гэтай паэме падпарадкавана двум лікам — тройцы, як сімвалу Святой Тройцы, і дзясятцы, як сімвалу дасканаласці ў Сярэднявеччы... Умовы гэтай архітэктуры я разглядаю падрабязна ў маёй кніжцы «Гадо і яго цень». Прыкладам сучаснага майстэрскага твора з'яўляецца хоць бы «Уліс» Джойса. Кожны раздзел гэтага твора напісаны іншым стылем, разнастайныя падрабязнасці звязваюцца паміж сабою неверагоднаю сеткаю адносінаў і сувязяў, раздзел пра нараджэнне дзіцяці вылучаецца не толькі зместам, але і формаю мовы — ад лаціны да звыш дзесяці стыляў ангельшчыны, аж да яе найсвяжэйшай версіі, якая з'яўляецца аўтапародыяй на стыль самога Джойса.

Нарэшце, апошняя заўвага: канон не ёсць нечым, дадзеным раз і назаўсёды. Справа не ў тым, што з часам да яго прыстасоўваюцца новыя творы. Канон змяняецца ў залежнасці ад таго, што ў пэўную эпоху выступае на першае месца... Дастаткова прасачыць, як ставіліся ўсе наступныя эпохі да старажытнай літаратуры.

*— Ці Вас гэта не непакоіць? У часе дыскусіі пра канон у «Газеце выборчай» паўставалі пытанні пра тое, ці мы часам сябе не «кастрыруем», выключаючы нейкую пазіцыю з канона?*

— Калі я добра памятаю, то размова ішла, галоўным чынам, у той ці іншай ступені, ці нават выключна, пра польскую літаратуру. А гэта зусім іншая справа, таму што польская літаратура — гэта, у значнай меры, лекцыя па гісторыі, звязанай з пагрозай тоеснасці народу і, у кожным разе, са слабасцю дзяржаўнага ладу.

Іначай кажучы, польская літаратура выконвае ролю служэння народу і з'яўляецца адным з найважнейшых сродкаў яго яднання. У гэтым выпадку трэба захаваць асцярожнасць і не разлічваць на «вольную гульню сілаў», асабліва стыхіі моды. Пазіцыя «Газеты выборчай» у гэтым сэнсе выключна дэструктыўная.

*— Але чаму так?*

— Таму што сама газета рэкламуе антывартасці, хоць нястомна крычыць, што пад пагрозаю аўтарытэты... Ёсць у гэтым відавочная двулікасць, непаслядоўнасць, безадказнасць. Бо як зразумець і як пагадзіцца з тым, што з аднаго боку «моляцца» на такія імёны, як Мілаш, Шымборская, Калакоўскі, Мрожак, Бараньчак і інш., а з другога боку з нястомнаю ўпартасцю падтрымліваюць грубасць, прымітывізм, хаос, танную сентыментальнасць, абыякавасць і анархічныя пратэсты? Падумайце, калі ласка, як выглядае творчасць такіх аўтараў, як Маслоўская, Стасюк, Кучак або Люпа як празаік (не кажучы пра дзясяткі іх паслядоўнікаў), тых творцаў, якіх там прапануюць як быццам за ўзор.

*— Некаторыя кажуць, што сучасная літаратура не мае шанцаў трапіць у класічныя каноны. Ці згаджаецеся Вы з такою думкаю?*

— Мы каля стагоддзя жывем у перыяд не вядомага дагэтуль тэхнічнага прагрэсу, які выклікае вялізныя перамены і ў духоўнай сферы. Гэтая сітуацыя не спрыяе з'яўленню «магутных» твораў з векапомнай значнасцю. Такія творы з'яўляюцца хутчэй за ўсё ў перыяд пэўнай стабільнасці, калі пасля тых ці іншых узрушэнняў або пераменаў цывілізацыя ў меру спакойна жывіцца тым, чаго дасягнула ў ходзе пераменаў.

Тым не менш, і ў такой нестабільнай эпосе, як наша, можна знайсці пісьменніка, адоранага геніяльнай інтуіцыяй або ўяўленнем, якому ўдалося паказаць хоць бы жудасць гэтых пераменаў або шкадаванне, што вынікае з развітання з далёкім *status quo*.

Такім пісьменнікам быў, напрыклад, Сэмюэл Бекет, творчасцю якога я доўга займаўся, перакладаючы яго на польскую мову, робячы каментары. Такім сімвалічным творам з'яўляецца яго п'еса «У чаканні Гадо», у якую ўціснута як бы цэлая новая эра і юдахрысціянская традыцыя... Або «Канцоўка», дзе паказваюцца перажыванні людзей на схіле гэтай эпохі...

*— Ці прычынаю, якая тармозіць росквіт вялікай літаратуры, з'яўляецца толькі тэхнічна-цывілізацыйны прагрэс, пра які Вы гаварылі?*

— Не, гэта толькі шырокі фон, на якім адбываецца з'ява....Тэхнічны прагрэс выклікае лавіну праблемаў грамадска-побытавага характару, якія ў сваю чаргу ўплываюць на змены ў галіне культуры. Назваў бы тут перадусім дзве з'явы.

Першая з іх — гэта перанясенне на грунт мастацтва ідэі дэмакратызацыі і фетышызаванне паняцця роўнасці. Тое, што мае сэнс ці нават пажадана ў галіне чыста грамадскай, а дак-

ладней, роўнае права на старт, роўнасць у законе і ў багацці, — ўсё гэта ў галіне мастацтва не толькі не мае сэнсу, але прыносіць абсалютную шкоду.

Думаючы ў святле асветніцкіх ідэалаў *a la Rousseau,* нельга адмовіць, што існуе натуральная НЯРОЎНАСЦЬ паміж адзінкамі, асабліва той факт, што час ад часу на зямлі з'яўляецца геній, якому ўдаецца прыдумаць нешта незвычайнае.

Між тым сучасная масавая культура дайшла да такога ігнаравання. Трыумфуе фетышызаваны лозунг «кожны — паэт» і «ўсё — паэзія». Зруйнавалі іерархію. Каб адпавядаць прынцыпам палітычнай карэктнасці, нельга гаварыць, што пачынаючыя X ці Y, альбо дамарошчаны ці тыднёвы аўтар горшы, чым Шэкспір або Гётэ. Ён проста «іншы».

Такое мысленне забойчае для культуры. На жаль, тэрор такой дактрыны трымаецца і нават узрастае. У Польшчы гэта відаць найлепш па намінацыях на ўзнагароду «Нікі», якая стала своеасаблівай пародыяй на літаратурную ўзнагароду.

Наступнай з'явай, на якую хачу звярнуць увагу, ёсць нешта, што я называю «другою здрадаю клеркаў». Першая мела месца на пачатку XX стагоддзя. <...> Рэч была ў тым, што частка артыстаў і інтэлектуалаў здрадзіла свайму прызначэнню незалежнага мыслення дзеля той або іншай ідэалогіі і нават уключылася ў палітычны рух...

*— Ці сёння таксама ёсць такія здраднікі?*

— Так, але сёння гаворка ідзе пра здраду на карысць залатога цяльца і ўлады над душамі. Паколькі культура паддалася камерцыі, зрабілася крыніцаю прыбытку, то частка інтэлігенцыі трапіла пад уладу мамоны, арганізуе вялікія псеўдакультурныя гульбішчы для масаў, завяраючы, што ўдзел у іх павышае ўзровень і вартасць. Калі пры першай здрадзе клеркаў існавала, прынамсі, утапічная вера ў тое, што мысляр можа і нават павінен уплываць на палітыку, то пры другой, цяперашняй, існуе адзін цынізм. Сітуацыя, да якой дайшло, прыводзіць да зламання чарговых табу, таму што ў свеце без іерархій і правілаў галоўным лічыцца іх ламанне («дэканструкцыя»). Выйгрывае той, хто першы пераскочыць чарговую мяжу, галоўнае спаборніцтва — гэта спаборніцтва ў сферы разбурэння, а не стварэння новых, тым больш дасканалых, твораў. Каб тварыць, трэба мець талент і трэба ўмець нешта яшчэ. Калі гэтыя два галоўныя складнікі адмаўляюцца па сутнасці, то творчасць не мае ніякай магчымасці для існавання.

*— Як у такім свеце можна пераканаць людзей, каб яны імкнуліся да нечага іншага, чым «Дом над поймаю»?**

— На маю думку, хоць я і не належу да аптымістаў, так быць не можа, каб не чыталі нічога іншага. Падкрэсліваю яшчэ раз: праблема не ў масавым чытальніку-спажыўцу, але ў асяродках, групоўках спецыялістаў, якія кіруюць усім гэтым светам.

Чытанне для забавы і для танных эмоцый было заўсёды, і няма ў гэтым нічога дрэннага... Справа ў тым, каб рэчы называліся сваімі імёнамі і каб захавалася іерархія, а гэтым якраз займаюцца клеркі, заканадаўцы. Грэх на іх сумленні. Гэта яны ствараюць спрэчкі вакол культуры і выпалосквають мазгі людзей. Калі б, як казаў Гамбровіч, «гара была здароваю», калі б «на гары» вызначаўся курс на вартасць, на павагу, на майстэрства, то панавала б такая-сякая раўнавага.. Чціва і розныя наступствы ад „пладоў" усё роўна б чыталі, з той розніцай, каб было зразумела, што гэта менавіта «кухня». Найгорай гэтае прытворства: калі халтура і ўзурпатарства падаюцца як авангард і рэвалюцыйнае дасягненне, калі ўзнімаюцца пасрэднасці, якіх называюць творцамі, калі змешваецца ўсё з усім паводле крытэрыю, «як гэта прадаецца»...

Тэакрыт, грэцкі паэт з па-над 2000 гадоў, як герой славутага верша Кавафіса «Першая ступень», так гаворыць аднаму пісьменніку-пачаткоўцу:

«Заканадаўцаў з агоры не падмане ніякі жулік... Каб устаць на той прыступцы, трэба вельмі пастарацца».

Сёння сітуацыя выглядае наадварот: на агоры засядаюць жулікі і дакладна ведаюць, каго туды не пусціць, каб іх не здэмаскавалі...

*— Вы лічыце, што гэта сусветная з'ява?*

— Так, толькі на Захадзе, дзе створана значна мацнейшая імунная сістэма, гэта не выглядае так пагрозліва і карыкатурна, як у Польшчы. На Захадзе, апрача радыкальнай і экстрэмальнай плыні, існуе вельмі моцная, назавем яе традыцыйная, ці нават кансерватыўная, плынь. У нас яе няма, у сувязі з чым вельмі хутка і лёгка прыжываюцца шкодныя рэчы: дармаўшчына, мода на сезон, неразумныя крайнасці. Бракуе трывалага рамяства і формы. Асабліва яскрава гэта відаць у сферы тэатра. Вялікі парадокс у тым, што найбольшымі заступнікамі гэтай псеўдасучаснасці і яе праваднікамі выступаюць крыклівыя крытыкі польскай «неаўтэнтычнасці» ў культуры, якія ўсё яшчэ кіруюцца такім лозунгам, як «Польшча — гэта папугай народаў» альбо «чужаземшчына». Бо менавіта яны, гэтыя ідэолагі і вернікі постмадэрнізму, самі прыбіраюцца ў пер'е папугаяў...

*— Давайце вернемся яшчэ раз да класічнай літаратуры. Магчыма, невуцтва людзей у гэтай сферы вынікае з нечага іншага? Калі мы ходзім у школу, тая*

*літаратура звычайна яшчэ зацяжкая, а пасля, у дарослым жыцці, на яе не хапае ні часу, ні сілы...*

— У гэтым ёсць свая праўда, але з другога боку, калі ў маладосці людзі нават не даведаюцца пра тое, што было напісана ў мінулым, то тым больш не вернуцца да гэтага пазней. Прывяду тут славутую думку аднога з найвядомейшых ангельскіх актораў Лаўрэнца Алівера. Дык вось, ён паўтараў, што калі артыст не сыграе «студыйна», «трэніровачна» вялікую ролю ў маладосці, хоць бы як студэнт, то і ніколі пасля не сыграе яе дасканала. У маладосці чалавек больш успрымальны, тады і трэба вывучаць буквар. Таму я належу да прыхільнікаў інтэлігентных разборкаў і прэзентацый, у якіх найлепшымі майстрамі з'яўляюцца французы. Як рэфарматар літаратурнай адукацыі я не змушаў бы сёння вывучаць творы цалкам, а толькі наймацнейшыя фрагменты, падмацаваныя зразумелым і лапідарным каментарам... Прапанаваў бы, калі гаварыць тэхнічнай мовай, «кампактызацыю» найважнейшых літаратурных твораў.

*— Відаць, мы аднолькава думаем, што Біблія належыць да канону. Але якое месца ў гэтым каноне яна займае?*

— Галоўнае! «Біблія» — гэта ж значыць «кніга», то з яе і трэба пачынаць. Таму патрабаваў бы ўвесці ў школах асобны прадмет, прысвечаны ёй. Але тут адразу пачаліся б спрэчкі, ці можна вывучаць Біблію і нават яе фрагменты як асобны ТЭКСТ, бо для значнай часткі людзей гэта ёсць Святое Пісанне. Пасля раздаваліся б галасы, што калі Біблія, то чаму не Каран і г. д. Адказваю: таму Біблія, што мы знаходзімся ў такой цывілізацыі, а гэтая цывілізацыя, ці падабаецца некаму ці не, узрастае на грунце юдахрысціянскай традыцыі. Што датычыць вывучэння Біблii як збору «пэўных аповесцяў», гэта не павінна супярэчыць веры, бо гэта *Слова аб'яўленае*. Наадварот, гэта была б цікавая інтэлектуальная практыка — пазнаваць Біблію двума шляхамі: інача́й — на занятках літаратуры, інача́й — на лекцыях рэлігіі. У кожным выпадку гэтае развіццё ў двух кірунках напэўна паглыбіла б само веданне зместу, што было б толькі карысным. У пратэстанцкіх супольнасцях Пісанне ведаюць непараўнальна лепей, чым у каталіцкіх.

*— Як Вы ставіцеся да думкі ўвесці ў школьную праграму «Гары Потэра»?*

— Мне б гэта не перашкаджала, па-першае, калі б адбывалася не за кошт іншых твораў, а падругое, калі б выкарысталі «Гары Потэра» для вывучэння пэўных літаратурных правілаў, бо іх можна вывучаць на кожным тэксце... Калі маладыя людзі ахвотна чытаюць гэтую кнігу, то яе варта выкарыстаць, каб пры нагодзе навучыць іх элементам рыторыкі і майстэрству апавядання.

*— Калі мы размаўляем пра «навінкі», то як Вам падабаюцца тэхналагічныя навінкі ў кніжным свеце?*

— Яны мяне не хвалююць. Яны для мяне — натуральныя наступствы тэхнічнай цывілізацыі. Вядома, з прычыны таго, што я выхаваны ў свеце кніжак з паперы, у цвёрдых і мяккіх вокладках, якія стаяць у пакоі на паліцы, па звычцы маю сентымент да такой формы друку. Ды разумею, натуральна, што да Гутэнберга людзі былі прызвычаеныя да іншых формаў — да пергаментаў і скруткаў. Важны змест, а не яго ўпакоўка. У сувязі з гэтай праблемай звяртаю ўвагу на пэўны парадокс: у гэты час, калі вялікая бібліятэка свету дзякуючы інтэрнэту стала практычна даступнаю для кожнага, яна адначасна зрабілася значна менш жаданаю, чым раней.

*— Адною з нагодаў урачыстага адкрыцця ў кастрычніку 2011 года «Школы чытання» з'яўляецца тое, што чытач гэтай літаратуры робіць у ёй нататкі, падкрэсленні і перадае гэты экзэмпляр наступнаму чытачу. Успамінаецца мне тая заўвага Ганны Фадзіман, якая пісала пра тых палкіх аматараў кнігаў, якія не саромеюцца крэмзаць на кніжках, вырываюць з іх старонкі і загінаюць іх. Ці Вы прымаеце такія адносіны да кніжкі?*

— Рабіць заўвагі на палях кнігі, неадкладнае натаванне сваіх думак — дапускаю і нават падтрымліваю. Пры ўмове, аднак, што нататкі робяцца алоўкам і што яны чытэльныя. Ці могуць яны служыць камунікацыяй з іншымі чытачамі таго самага экзэмпляра? На гэтае пытанне ў мяне няма адказу. Мне здаецца, што значна лепш для такой мэты служыць звычайная размова — непасрэдная або праз ліставанне. Нататкі на палях кнігі ў асноўным павінны служыць таму самаму чытачу, каб ён мог супаставіць праз гады самога сябе, калі зноў возьмецца чытаць тую самую кнігу. З такога супастаўлення вынікаюць часам вельмі цікавыя даследаванні. Напрыклад, тое, што чалавек змяніўся да такой ступені, што ўжо сам сябе не разумее. Творца фенаменалогіі Эдмунд Гусэрль меў звычку запісваць на палях сваіх працаў, якія перачытваў праз гады, напрыклад, такое: «Не ведаю, што тут маецца на ўвазе». І зноў жа ў іншым месцы выкрыкваў у экстазе: «Бачу гэта, бачу!»

*Пераклад з польскай мовы Дануты Бічэль.*
*Паводле: «W drodze», 11(459), 2011.*

* Аповесць Малгажаты Каліцінскай.



# Спакою душы не будзе…

«Спакою душы не будзе», «Сэрцу горкая далячынь» — гэтыя дзве фразы з архіўных запісаў бацькі, датаваныя 1992 годам, незадоўга да яго смерці, востра і моцна ўрэзаліся ў маю памяць. Можа, яны былі задуманыя ў якасці загалоўкаў для будучай псіхалагічнай драмы або трагедыі, якой так і не суджана было матэрыялізавацца ў слове. А магчыма, у іх закладзены больш тонкі падтэкст, сакральны сэнс якога патрабуе асаблівага разумення. А магчыма...

Па меры больш карпатлівага паглыблення ў архіўныя матэрыялы (разбор папераў, накідаў, кароткіх запісак, філасофскіх сентэнцый і высноваў, маргіналій, дадумак) мае даследаванні прывялі мяне да святая святых — дзённікавых запісаў Яна Скрыгана.

Мяне некалькі разоў наведвала думка пра тое, каб пачаць перадрук бацькавых дзённікаў, але кожны раз нейкая невядомая сіла, нібы не пускаючы мяне ў гэты пантэон думак і думаў, спыняла мае памкненні. Справа зноў і зноў адкладвалася...

Але вось аднойчы настаў той дзень і час. Я расклала перад сабою дзесяць агульных сшыткаў, спісаных акуратным сціслым почыркам. Здавалася, цяпер я размяшчу вакол сябе ўсё самае неабходнае і на рарытэтнай у наш час бацькавай друкарскай машынцы радасна і аптымістычна распачну сваю працу. Не паглыбляючыся ў падрабязнасці вытворчага працэсу, падкрэслю толькі тое, што акуратнасць бацькавага почырку зусім не гарантавала лёгкасці яго разумення. Калі чытанне некаторых словаў не паддавалася ніякай логіцы, я адкладала іх расшыфроўку да «спрыяльнага» моманту, працягваючы рухацца далей.

І так, ад старонкі да старонкі, па меры паступовага паглыблення ў атмасферу часу, перажываючы разам з бацькам самыя розныя жыццёвыя перэпетыі, грамадскія і асабістыя сітуацыі і падзеі, я выразна прасачыла нябачнае дзяленне тэкставага матэрыялу па тэматычных лініях. Прычым кожная з гэтых ліній была цалкам самастойная, насычаная філасофскімі развагамі і ацэнкамі, напоўненая роздумамі, шчырымі перажываннямі, а часам і непадробным душэўным болем. І ў першую чаргу гэта датычыць тых радкоў, у якіх размова ідзе пра родную Беларусь, якую ён любіў да трапятання сэрца, да болю душы, да спынення дыхання.

«Белая Русь мая! Самае страшнае, што магло прыключыцца, дык гэта згіненне нашай гісторыі. Чаму і як здарылася, што наймацнейшае дзяржаўнае ўтварэнне — Вялікае княства Літоўскае — магло ўтварыцца, быць папраўдзе Вялікім і маляўнічым, мець сусветна значныя законы, як Статут Вялікага княства Літоўскага, мець за дзяржаўную мову — беларускую мову — і не пакінуць мінулага ратнага і грамадзянскага следу?» (1990).

Незвычайным душэўным цяплом прасякнуты радкі, дзе бацька згадвае сваіх сяброў юнацтва: Платона Галавача, Уладзіміра Хадыку, Васіля Каваля, Рыгора Мурашку, Юлія Таўбіна, Сымона Баранавых, Барыса Мікуліча. Рэдкую ў нашыя дні здольнасць цаніць сяброўскія адносіны бацька не страціў да канца свайго жыцця: «Сябры не

набіраюцца гадамі. Іх ніколі не бывае так многа, каб сказаць, што сяброў ужо досыць. Людзі сустракаюцца, дружбуюць і часта разыходзяцца, каб не звацца сябрамі.

І ў гадах — пасля дзёняшняе сумяціцы — у мяне збіраюцца сябры. У зімовы адвячорак — разам з інеем, з холадам у каўнярах — яны прыносяць з сабою добрую таварыскую цяплынь» (Ян Скрыган. Выбраныя творы, 1985).

Чалавек з мастацкім мысленнем мае незвычайную ўласцівасць — нестандартнае бачанне свету. У зусім трывіяльнай руціннай штодзённасці для звычайнага чалавека нічога неардынарнага не адбываецца, а ва ўяўленні творчай асобы выпадкова ўбачаны жэст ці пачутае слова міжволі нараджаюць мноства гульнёвых інтэрпрэтацый, якія ператвараюцца ў драматычны эпізод ці яркую гумарыстычную жанравую сцэнку.

Часам па ледзьве ўлоўнай змене выразу твару або яскрава бліснуўшай іскры ў бацькавым позірку можна было беспамылкова вызначыць, што ён убачыў тое, на што мы, знаходзячыся побач з ім, не звярнулі ніякай ўвагі. Ён цаніў у чалавеку здольнасць пасмяяцца з самога сябе: «Чалавек мае найвялікшую здольнасць — смяяцца з самога сябе. Можа, гэта і не надта справядлівы занятак — здзек з самога сябе, — але затое патрэбны» (Ян Скрыган. Выбраныя творы, 1985).

Шматпакутнаю чырвонаю стужкаю праходзіць праз усе яго дзённікі трывога і боль за чысціню, прыгажосць роднай беларускай мовы. Трывога за лёс роднай мовы літаральна расколінай праходзіла праз яго сэрца.

«З беларускай жа мовай было многа метамарфозаў. Я памятаю часы, калі толькі што наладжваўся друк і кожная беларуская кніжка з'яўлялася святам. Калі Уладзіслаў Галубок са сваёй трупай вандраваў з сяла ў сяло па Беларусі і людзі з вуснаў не мужыка, а гарадскога, інтэлігентнага чалавека першы раз чулі сваё роднае слова і дзівіліся, што з ім, з гэтым словам, можна паказацца ў людзі. Я сам у Слуцку бачыў тых галубкоўскіх артыстак. Маладыя, прыгожыя, адзетыя ў вышываныя строі, яны ішлі па Пралетарскай вуліцы і весела гамanілі. Не ведаю, колькі часу я хадзіў следам за імі, слухаючы і баючыся прапусціць хоць адно слова» (Ян Скрыган. Выбраныя творы, 2005).

«Знарок прыехаў адзін і вельмі скора адчуў сябе вінаватым перад жонкаю, што не ўзяў яе з сабою. Аказалася, што на ўвесь Дом творчасці я быў адзіны і працавальшчык і адпачывальшчык. І ўчора даў тэлеграму дадому, каб яна прыехала.

Дзеля гэтага схадзіў у краму і купіў самага лепшага, як параілі там, віна.

Чакаючы, вядомая рэч, міжволі ўспаміналася, як мы пазнаёміліся і як пажаніліся. Яе звалі Галяй. Яна была адзіная дачка ў вельмі незвычайнай сям'і...» (Ян Скрыган. Выбраныя творы, 2005).

Гэты эпізод апісаны бацькам у мініяцюры «Трэба хоць трошкі ўспомніць», датаванай 1992 годам, за 3 месяцы да смерці. Падзеі адбываюцца ў праклятым 1936 годзе, які пакінуў у нашай гісторыі злавесны след.

Тэма ўспамінаў з мінулага жыцця, з жыцця да таго страшнага разлому, які падзяліў яго на да і пасля, тужлівым лейтматывам праходзіць па старонках бацькавага дзённіка.

Гэты вярэдзячы душу рэфрэн з'яўляецца нечакана, з настойлівай перыядычнасцю, не даючы сэрцу спакою да канца зямнога жыцця.

«Сэрцу горкая далячынь», «Спакою душы не будзе» — фразы, застылыя ў часе, так і застаюцца ўсяго толькі загалоўкамі. Па сутнасці ў іх закладзена квінтэсэнцыя ўсяго жыццёвага шляху — стромкіх віражоў і паваротаў, душэўных катастрофаў і ўзрушэнняў, незаменных стратаў, калі ў адно імгненне абрываецца сувязь часоў і крушэнне ўсіх надзеяў практычна становіцца незваротнаю кропкаю. Пра гэта праз гады Ян Скрыган скажа: «Цяпер я гляджу на сваю дарогу, як на далёкі сон. Мая біяграфія здаецца мне вельмі доўгаю, і я дзіўлюся, як многа ў ёй месціцца. Я зазнаў і трагізм, і роспач, зведаў цану радасці і надзей: быў на грані таго горкага адчування, калі чалавек астаецца без радзімы — не мае на яе права, і зразумеў, якое гэта вялікае і дарагое пачуццё — бацькаўшчына.

Лёс кожнага — гэта свой лёс, але без лёсу народа няма і свайго лёсу» («Кругі»).

Працуючы над упарадкаваннем бацькавых запісаў, я перш за ўсё бачу сваю місію ў тым, каб пакінуць гэты бясцэнны летапіс часу ў чытэльным выглядзе, «натарыяльна» завераным для нашчадкаў, а можа быць, і для будучых даследчыкаў-лінгвістаў, філолагаў, літаратуразнаўцаў.

Прапаную чытачам «Нашай веры» ўрыўкі з бацькавых дзённікаў.

*Галіна Скрыган,*
*15.05.2012 г.*

Ян Скрыган

# З дзённікавых запісаў



9.10.1979.

Усю ноч снілася, што я ў лагеры. Некуды адпраўляюць, некуды адбіраюць, перасылаюць, баракі, людзі, стары, многа разоў ношаны адзёвак, і над усім адна атмасфера: чаканне, што павінны разабрацца і адпусціць. Што тут, як бы часова, і разам з тым бясконца цягнецца гэтая беззаконнасць: трымаюць тут без права, і — усё такі трымаюць. Усю ноч — гэтая трывога, перажыванні, чаканне: калі ж, калі адпусцяць, недзе ж ёсць ужо гэтае рашэнне.

І вось увесь дзень нявыспаны, хворы, у галаве шум.

——————————

І толькі пад вечар больш-менш настае супакаенне. З трох гадзін — на Камітэце па прыёму ў СП. Камітэт прайшоў вельмі ўдала, спакойна, разумна.

І прынялі ўвесь спісак: Гардзея, Дзятлава, Дуда́рова (невядома чаму ён увесь час піша сябе Ду́дараў), Папову (дачка Георгія Папова), Ракава, Янчанку, Дзмітрыева — 7 чалавек. А звыш таго, добра настроіўшыся, вярнуліся да колішніх, непрапушчаных — Карласа Шэрмана і Кастуся Шавеля, што сялянствуе ў калгасе недзе, цяпер пенсіянера ўжо. Усіх раілі да прыёму 9 чалавек.

І гэтым падняўся мой настрой.

Але, як не дзіва: адчуванне ўсё тае ж непаўнацэннасці, што псіхічна ўвесь час ідзе з табою поруч, бо скрозь адчуваецца нейкая мяжа ў адносінах да нашага брата, колішняга закрэсленага ў грамадстве, гэтае адчуванне скрозь перарастае цябе, і ты міжволі прывык лічыць, што ты ізгой, і баішся сваёй прысутнасцю сапсаваць кампанію. Ой, як гэта цяжка, як гэта стамляе: гэтае адчуванне другасортнасці.

11.10.1979.

Усё часцей думаю, што працэсы нейкія, нядобрыя, у мяне ідуць няўхільна. Што тая мая хвароба непапраўная. І ад яе ўжо не вылечышся. Невядома чаго раптам падымаецца ціск, баліць галава, вяласць, абыякавасць, думаць цяжка, працаваць без думання не будзеш. Магу ляжаць цэлыя дні ў пасцелі. Такі стан у мяне цяпер або звычайны, або часта варочаецца. Усё больш і больш прыходжу да невясёлай упэўненасці, што да свайго 75-годдзя не дажыву. Усяго год часу асталося да яго, а дарога гэтая цяпер мне здаецца як бясконцасць.

Вельмі баюся, што трохтомнік свой, на які падаў заяўку на 81 год, не падрыхтую. Нічога ж не робіцца. «Шуфляда» майго стала не пішацца, артыкулы — не пераглядаюцца і не даводзяцца да ладу, пераклады Буніна не папнаўляюцца.

І, здаецца, што апошняя кампаноўка «Кругоў» не вельмі ўдалая. Яны абцяжаны. Іх трэба сціснуць. Пакінуць у іх толькі тое, што неабходна Кругам. Як выйдзе рускі варыянт у Маскве — зраблю генеральную чыстку іх. У іх трэба пакінуць не больш, як 18–20 аркушаў. Каб яны былі зручныя і простыя да чытання.

Найлепшы варыянт яны мелі, здаецца, у выбраным 1969 года. Першая іх кампаноўка. Прыдзецца вярнуцца ў аснове да іх.

——————————

Нават гэтыя дзённікі пісаць стала цяжка. Але цяпер, пад старасць, трэба міжволі гэта рабіць. Прападае памяць. А запіс памагае запамінанню, гэта ўжо карысць. І, усё-такі, калі нешта запісана, то потым можна будзе ўспомніць і гэта, і што-небудзь і папутнае гэтаму (штучныя словы — гэта ўсё-такі штучныя, ім жыць цяжка. Вось нават такому, як «спадарожнік», не благому па ідэі, а ўсё роўна ім карыстацца

можаш толькі ў кніжнай мове, і то не надта хочацца).

15.10.1979.

Прачытаў апошні запіс пра словы і захацелася запісаць яшчэ думку і пра тое, як чытаў учора Азгураў артыкул у ЛіМе «Водсвет дабрыні і розуму».

Дзіўлюся я на гэтага чалавека! Колькі ў яго неўтаймаванасці! І ў рабоце, і ў роздуме. Разумны ж, насычаны думкамі ўспамін. І арыгінальна пастаўлены план: сага пра трох Гарэцкіх.

Дык вось жа зноў пра слова. Няйначай, як яму нехта перакладаў, бо сам ён цяпер наўрад ці гэтак звалодаў бы з беларускай. І вось няйначай як перакладчык упіхнуў яму слова «дабрыня». Харошае слова. Як і многа іншых добрых слоў мы пускаем выпадкова ў бытаванне, і пасля пачынаецца іхняя няўмелая эксплуатацыя.

З гэтым словам нават тлумачальны слоўнік, мне здаецца, блудзіць. Вось гняздо: дабрата, добрасць, даброцце, дабрыня. Друк аднолькава кладзе на іх сэнс — дабрата. Але ж гэта няпраўда. У кожнага з іх свая акраса: дабрата і добрасць — гэта правільна: дабрата. А дабрыня — успомнім народную практыку! — гэта прыволле, і слова гэтае гаворыцца не пра чалавека, а пра з’яву: Эх, якая дабрыня наўкола! Якая дабрыня тут жыць! А даброцце — гэта дастатак, набытак: Чаго яму не жыць пры такім даброцці.

А з моваю ў нас цяпер робіцца бог ведае што. Кожны можа і выдумляць, і выкручваць з яе самыя нечаканыя непісьменнасці. Вунь жа ў ЛіМе напісана ў допісе пра Ал. Блока, калі ён служыў на Палессі.

Піша Блоку саслужывец Огнеў: «Напэўна, Вы доўга будзеце нагадваць таго, хто піша Вам». Замест «старацца ўспомніць» таго, хто піша Вам, сказана: будзеце «напамінаць» таго, хто піша Вам. Вось дажыліся.

15.10.1979.

Здаецца, дзён дзевяць, як у нас стаіць такая цудоўная пагода. Сонца, на небе ні аблачынкі, на балконе ў цяні 20°. І любуешся золатам бярозак, ліп ды каштанаў, і разам з тым думаеш: а можа гэта таксама дае знаць сябе на маім здароўі?

Маўчу, Ганне пра гэта не гавару, але ў самога спакойнае адчуванне, што не дажыву да лістапада 1980 года.

19.10.1979.

Паколькі пісаць свайго не магу, — галава не дае, падумаў паспрабаваць перакласці з Буніна «У начным моры». Калі ўсё будзе шчасліва, у свой трохтомнік я ўключу і пераклады з Буніна, бо гэта не менш паэтычная работа, як пераклады вершаў. Божа, які ён мастак, які паэт у прозе сваёй! Якая сіла руху ўсяго таго, пра што ён піша! Мабыць, уся тайна яго творчасці, што ў творы ягоным на аднолькавай ролі выступае як чалавек, так і ўсё яго наваколле, і гэтае наваколле рушыцца разам з чалавекам.

20.10.1979.

З выд-ва «СП» паступілі грошы. Падумаць толькі: больш за 20 аркушаў кнігі, а 60% пералічэння складае ўсяго 1.288 рублёў. Проста смешна.

Вінаваты ў гэтым, вядома, я сам. Усё там ужо па многу разоў друкавалася.

__________

Патрэбны «Пісьмы на волю» Веры Харунжай. І вось у сябе не знайшоў. Наогул, кнігі ў мяне даўно прападаюць. Нават за гэтым цяпер не сачу.

А ў пісьменніцкую бібліятэку ісці лянуюся. Няма сілы. Але ў панядзелак трэба схадзіць.

21.10.1979.

Прачнуўся ў 12. Ні падымацца, ні есці не хочацца. Сілком паснедаў. Цяпер палова на другую дня, а мне ўжо хочацца зноў спаць. У галаве — шум. Прыняў пігулку раўнаціну. Мабыць, схаджу на вуліцу. Прайдуся. Можа, трэба кісларод.

Нярадасныя думкі ў галаве.

27.10.1979.

Напісаў у ЦК пісьмо наконт гасцініцы «Планета». На жаль, позна. Пайшоў на праходку і ўбачыў, што на гасцініцы ўжо красуецца высока падняты надпіс «Планета».

31.10.1979.

Атрымаў віншавальную паштоўку ад Міхаіла Сямёнавіча Удавічэнкі. «Паважаны...» і г. д. Міжволі ўспаміналася Сухабузіма, выканком... Разумны і смелы чалавек ён быў. Герой майго апавядання «Мой дэпутат». І вось да колішняга ссыльнага колішні старшыня выканкома піша прывітальна-віншавальныя, самыя сардэчныя пісьмы.

2.11.1979.

Пазваніў Петрашкевіч. Пісьмо наконт «Планеты» атрымана. Тое, што над гасцініцаю ўжо вісіць шыльда «Планета», можна было б папpавіць. Справа куды горш. Ужо каторы год як гэтая назва ўнесена ва ўсе міжнародныя даведнікі, бо гасцініца ж будуецца як аб’ект алімпійскі.

Наогул жа мая думка аб назвах вельмі слушная, яны часта даюцца кім папала і як папала, ім дадзена каманда, каб з гэтага часу ні адна назва не рабілася без іхняга ведама. Хлопцам, што ў яго працуюць — Жуку і Закон-



На сустрэчы са славутым беларускім спеваком Міхасём Забэйдам-Суміцкім. Іван Цішчанка, Ян Скрыган, Тамара Дубкова, Пімен Панчанка, Міхась Забэйда-Суміцкі, Язэп Семяжон, Ларыса Александроўская, Янка Брыль, Максім Танк. Мінск, 1965 г.

нікаву, даручана распрацаваць усякіх назваў у запас, звязацца аб гэтым з пісьменнікамі. Трэба практыкаваць такія назвы як Няміга, Пярэспа, з імёнамі герояў мастацкіх твораў. Нейкія важныя аб'екты трэба называць імем урочышчаў, на якіх яны будуюцца — Будзілака, Тры Карчмы, дапусцім, і інш. Шмат якія назвы прыйдзецца мяняць, звязваючы іх з мясцовасцю і народным бытам.

Словам, вось такая, прыемная мне гаворка. Іменна тое, пра што я колісь пісаў у «Вяч. Мінску». Пасля гэтай размовы я ўжо не мог ад узрушанасці працаваць, павёз Галачцы сякія-такія гасцінцы. Юрачка тут жа, адразу ж, сам, раскупарыў бляшанку з апельсін. сокам...

__________

«Пісьмы на волю» Харунжай мне ні ў чым не спатрэбяцца ў эсэ пра яе. Не магу прымусіць сябе пачаць пісаць. Усё нешта яшчэ не гатова ўнутры, яшчэ мала болю ў душы.

Ганначка 30-га паехала ў «Нарач». Няхай трохі адпачне ад гэтага пекла ў Галачкі. Яна сябе там даводзіць да апошняй стомы. А мне гэтыя дні без яе, — у адзінак, — таксама добра. Часамі вельмі патрэбна пабыць аднаму. Толькі дзіва: хатні клопат займае гэтулькі часу, што нават не згледзіш, як прабягае час. Прыбраць пасцель, навесці нейкі хоць павярхоўны парадак у доме, схадзіць у магазіны — то хлеба, то сыра ці масла, — зрабіць праходку, арганізаваць перакуску, харчы, — не дай божачка, якая мітрэнга.

20.11.1979.

Сон — гэта штодзённае практыкаванне ў смерці.

__________

Найбліжэйшыя тэмы:

1. Трэцяя хвароба
2. Шкураное паліто
3. Памяць — 1
4. Памяць — 2
5. Песня пра Капыль

А пісаць не магу. З-за баязні, што нічога не выйдзе. Няма сілы. Вось з 8-га бадай што не выходжу з дому. Дазволіў сабе толькі 15-га выйсці на пленум і зрабіў горш: прастуда? Галава? Усё разам.

Усё не пакідае і не пакідае асцярога: што да сваіх 75 не дажыву.

22.11.1979.

Прачнуўся ў 3 гадзіны ночы і пасля ўжо да самай раніцы не мог заснуць. Усю ноч пісалася ў галаве «Шкураное паліто». Усё як бы гатова, астаецца толькі сесці за стол.

Але так са мною бывае часта. І сёння не сяду, трэба ехаць у Камітэт: на 15 гадзін скліканы прэзідыум. А там усё патрошку пачне затухаць. Галава не вытрывае.

9.12.1979.

Запісваўся з Лужаніным на тэлебачанні. «Роднае слова». Прагон, — каб памераць, ці добра ўсё ідзе, колькі займае часу. Вельмі добра прайшоў гэты прагон: і нам самім падабалася, і рэдакцыі перадачы.

На запіс жа пайшлі мо больш як праз гадзіну. І на запісе нешта ў іх не ладзілася. Некалькі разоў пачыналі, перапынялі, усё зноў спачатку. Нават дзяўчынка, што дае ўваход у запіс, пачынала блытацца ў лічбах, калі ёй трэба было адлічваць ад дзесяці і ўніз — да нуля.

Здаецца, нарэшце, ужо ўсё пайшло яе след, як прыбегла рэжысёрка, перапыніла зноў: Лужанін, аказваецца, пачынаючы, паглядзеў не ў манітор, а ў другі апарат, збоку.

Лужанін аж збялеў: колькі ж можна тузаць! — Я зараз пайду! — крыкнуў ён, падняўся і выйшаў са студыі.

І вось нарэшце запісалі. Ужо прыйшоўшы дадому, я не мог знайсці сабе месца. Я чуў, бачыў, адчуваў: запіс прайшоў блага, вяла, па-казённаму, не тое што першы раз, на прагоне, дзе была і свежасць, і свабода руху і слова, і жывая гутарка, і ўсмешка, і сама ўся гаворка была зычлівая,

чалавечная.

А запісана — колка. Без душы. Чыноўніцка.

Увесь вечар я шнураваў па пакоі, не мог супакоіцца. Хоць гвалт крычы, хоць падымі пратэст, каб такі запіс не пускалі.

І ўсё сапсавала гэта апошняе: не туды Лужанін зірнуў. Як у благой фатаграфіі: калі фатограф дае каменную позу.

10.12.1979.

У пасцелі доўга на сон чытаў Ганну Ахматаву. Кожны раз дзіўлюся сіле ўплыву яе паэзіі. Чары. Не ведаеш нават, у чым яны, чаму неспакойная душа, чытаючы яе. Гэтак жа кранае душу ў прозе Бунін.

17.12.1979.

Паля даволі моцных маразоў два дні як зноў стала цяпло. З 18$^0$ сышло на нуль. І вось пераконваюся ўсё больш, што гнілое надвор'е, адліга, туман, вецер вялікі — мае цяпер злыя ворагі. Зноў абыякавасць да ўсяго, нават да таго — трэба ці не трэба жыць, — вяласць, шум у галаве, санлівасць. Самыя страшныя мне такія дні.

Да «Шкуранога паліта» з 27-га лістапада не дакрануўся. І толькі прымусіў сябе прысесці да стала, як вось гэтая адліга зноў усё перапыніла.

——————————

Трохі сумеўся. «Сяргей Фамін і яшчэ нехта» ці так названы? Можа лепш «... і яшчэ хтосьці»? Можа, бліжэй да сэнсу, але цяжэй вымаўляць. І — як бы бляднеі гучыць.

Шмат слоў у нас цяпер або забываюцца, або абмінаюцца. Інтэлігенцыя (бадай што ўся, нават маладая) даўно парвала з народнаю моваю, з сялом, НТР дыктуе свае тэлеграфна-кодавыя патрабаванні. Нават пісьменнікі не ўжываюць такога слова, як нештачка, ужо ў іх чалавека, жыўнасць не гадуюць, а росцяць. А гадавалі ў народзе не толькі чалавека і жыўнасць, а гадавалі пчол, сады, кветкі.



Рабочая нарада ў БелСЭ. Пётр Пузікаў, Алесь Петрашэвіч, Іосіф Хаўратовіч, Пятрусь Броўка, Янка Казека, Сяргей Русак, Ян Скрыган. Мінск, 1971 г.

У народзе не казалі жадаю табе шчасця, зычу табе шчасця, бо жадаць можна толькі сабе, а каму другому — зычыць. Нават да гэтага цудоўнага слова зычыць таксама дадалі ад калькі: «добразычлівы», як бы можа быць благазычлівы, ліхазычлівы, дрэнназычлівы.

А да тонкасці мовы цяпер рэдка хто даходзіць. Калі ж падумаць, то, мабыць, можна заўважыць, што памятаць і помніць — таксама не тое самае. Натуральна сказаць: «я памятаю яго з малых гадоў», і натуральна: «я помню, што трэба з ім пабачыцца». А паспрабуйце памяняць гэтя словы між сабою, як адразу пачуеце нязручнасць.

——————————

Чытаю «Личность Достоевского» Б. Бурсава. Надзвычай цікавая работа. Уяўляю, як цяжка было яе пісаць. Колькі прапушчана праз сябе матэрыялаў.

——————————

Неспакойны, што няма карэктуры з «Сов. писателя». Хоць бы ўсё было шчасліва!

24.12.1979.

На прэзідыуме абмеркаваны планы выдання літаратуры выд-ва «Мастацкая літаратура» на 1981–1982 гады. Ні там, ні там мая заяўка на трохтомнік не ўлічана. Растлумачана:

1) Зборы твораў уключаюцца ў план высокамастацкай, грамадзянска-значнай літаратуры. (Я зразумеў, што мае творы пад гэту рубрыку не падыходзяць, вядома.)

2) Зборы твораў уключаюцца, калі пасля «Выбранага» пройдзе 10 гадоў, значыцца, я буду мець права на свой 3-томнік толькі ў 1985 годзе. Ясна: да таго часу я не дажыву, а мёртваму ў план ужо не ўлезці.

Шкада. А думалася, што хоць на астатак гадоў можна будзе адчуць [сябе] хоць трошкі заможным ды памагчы дзецям. Я ж іх ніколі не балаваў хоць якім мізэрным дастаткам.

Увогуле абмеркаванне выдавецкіх планаў было дзелавое, сумленнае, зычлівае.

Прыйшоў у сёмай гадзіне вечара. Дома пуста. Ганначка ў бальніцы, усялякія беды далі сябе знаць і на яе нервах. Адчуў сябе да таго стомленым, нібы на маіх плячах ляжаць тысячы гадоў цяжару. Ніколі раней я не задумваўся аб смерці і раптам

адчуў, што, мабыць, ужо вельмі пара. І думалася пра гэта спакойна.

——————————

Страшэнная абыякавасць да ўсяго. Гэта, мабыць, — як спакойнае ўсведамленне, што нічога людскага я больш ужо не зраблю. І таму пэўна ўсё часцей і часцей чую сябе на зямлі ўжо лішнім.

27.12.1979.

Колькі разоў збіраюся выкінуць стары алфавіцік з запісамі адрасоў, тэлефонамі. Перапісаць у новую кніжачку, а гэтую выкінуць: там жа бог ведае колькі ўжо мёртвых запісаў. Адрасаты папраўдзе або хто памёр, або пераехаў ці перамянілі яму тэлефон. У цесных старонках паўпісвана між радкоў, падкрэслена папраўкамі.

Але як зірнеш у гэтую старую кніжачку, дык бачыш, што яна куды даражэй за новую, дзе ўсё ўпісана гладка, чыста, па-новаму, акуратненька.

Так і астаецца служыць старая кніжачка, хоць у ёй выпадаюць ужо нават старонкі. І перачытваеш яе з такім хваляваннем, як успаміны. Колькі тут чужых лёсаў уплялося ў твой лёс.

<...>

14.1.1980.

Ішоў з работы. Ужо каля дома зірнуў у неба: у халодным, шэрым паветры ляцеў клін птушак. Не гуртам, не бязладнаю чарадою, а іменна ключ. Мабыць, качкі, бо не так вялікія і дробна махаюць крыламі. Браліся ў кірунку да возера: ад праспекта — да возера. А возера ж замёрзла. Адкуль, як асталіся і куды ляцелі гэтыя птушкі? Потым з аднаго ключа разбіліся на два.

Аж трывожна забілася сэрца: што ж з імі такое, чаму асталіся? Як выжывуць?

Зніклі за дамамі. Я доўга глядзеў у той бок, можа, пакажуцца ў новай прасветліне за дамамі. Не паказаліся.

19.1.1980.

Званілі Янка Брыль, Ул. Мяжэвіч, В. Вітка, С. Грахоўскі. Пра ўспамін аб Пальчэўскім у ЛіМе. Мяжэвіч гаварыў і плакаў. Я сам расплакаўся, слухаючы яго. Хадзіў па хаце і румзаў. Які светлы чалавек быў Алесь!

——————————

Сяджу і чмыхаю носам. З яго капае, галава шуміць. Прастуджаны, насмарк. Учора ўвечары выйшлі з партсходу, з цяпла, я вельмі весела пайшоў на прыпынак. Апамятаўся, калі пачуў, што халодным ветрам дышу, забыўся, што трэба ісці ціха.

Мне здаецца, што калі я памру сёлета, то не ад мазгавое свае хваробы, а ад прастуды. Я ж не паспяваю акрыяць, як зноў прастуджваюся.

21.1.1980.

Да гэтага часу звоняць пра мае ўспаміны аб Пальчэўскім: «Пасля развітання». Эдзі Агняцвет, Заір Азгур, Іваніцкая; сёння — незнаёмая, жонка Харкова, артыстка ТЮГа Краўчанка. Гэта радуе мяне вельмі.

А сама Цулукідзе папрасіла Мяжэвічаў прыслаць ёй газету. А прачытаўшы, сказала: хіба толькі пра гэта трэба пісаць?

Чаго яна на мяне гэтак сярдзіта? Не разумею. Прыходзіцца верыць у тое, што чуў: што Алесь памёр, а я выжыў.

Гэта ўжо нешта страшнае.

Была доктарка. Выпісала лекі. Прыслала сястру паставіць банькі. З носа цячэ. У вушах бясконцы дзікі звон.

26.1.1980.

Атрымаў з «СП» карэктуру кнігі. Набіраецца ў Туле. Друк — афсетны. Вёрстка — для рэдакцыі, я нават быў злякаўся: даўжэзнымі старонкамі. Шрыфт — руды.

9.2.1980.

У газетах надрукаваны весткі пра насельніцтва Мінска паводле леташняга перапісу. Напісана, што 66% насельніцтва ў Мінску паказалі, што роднай мовай лічаць мову свае нацыянальнасці.

Прызнаюся, што такі паказчык мне проста нечаканы. Я чакаў меншага. Бо памятаю, калі была перапіска, то перапісчыха вельмі ўпіралася: ёй не хацелася запісаць, што маёй роднай мовай з'яўляецца беларуская. Запісала толькі тады, калі я сказаў ёй: «Ну вось я пісьменнік, пішу свае кнігі беларускаю моваю, штодня ў хаце, з сябрамі таксама гавару па-беларуску, дык чаму ж вы хочаце, каб я не лічыў гэтай мовы сваёй роднай?». Тады яна сцерла гумкаю ранейшы свой запіс у лістах і напісала новы: родная мова — беларуская.

То яна ж запісала ў родную мову рускую не толькі мне, бо не ўсякі ж мог спрачацца ці нагогул унікаць у гэтакія тонкасці.

Перад правядзеннем перапісу, памятаю, пісалася ў газетах, што з усімі перапісчыкамі праводзіліся нарады, што ім тлумачылася і пытанне нацыянальнасці і мовы. І мяне вельмі здзівіла была ўпартасць мае перапісчыцы: няўжо яна рабіла гэта ад сябе?

——————————

Калі ж я акрыяю нарэшце ад свае прастуды? На работу ежджу ў таксі, каб не дыхаць ні марозам, ні сырасцю, якія мяняюцца зусім неспадзявана.

16.2.1980.

У Броўкі. У лечкамісіі. Вынікі па Камітэце. Не вельмі ра-

дуюць, бо вартага чаго-небудзь няма. «А-а, будзе — тое і будзе». Энергічны, турбуецца, ці аформлены выдавецтвам Хелемскі.

А худы страшна. На шыі — гузак, ад інтэнсіўнага апрамянення. Шыя завязана.

23.2.1980.

Зноў у Броўкі. Люкс, два пакоі, а ён такі худы і адзінокі, у бавоўнянай кашульцы, і так не пасуюць яму гэтыя два пакоі. Здалося, што яшчэ больш пахудзеў. Апроч шыі марляю завязана і галава, відаць з-пад вязанае шапачкі. Падпісаў весткі ў аддзел культуры ЦК аб прэтэндэнтах на прэміі. З панядзелка пачнецца нейкае новае лячэнне, бо будзе кансіліум: або тут, або можа зноў давядзецца ехаць у Барвіху. Пра хваробу — аніякіх скаргаў, а ўсё аб справах і справах. І папрасіў, каб у панядзелак купіў і пераслаў яму «Правду», бо там будзе старонка, прысвечаная гераічнаму мінуламу Беларусі. Нарыс Палявога — пра чалавека, які стаў прататыпам помніка ў Берліне: салдат з апушчаным мячом і дзяўчынкаю на руках. Дзяўчынка — нямецкая, якую на полі бою ўратаваў ад смерці наш салдат. Мінчанін.

Ён трымаецца выключна тым, што жыве справамі, грамадскім клопатам, творчасцю.

25.2.1980.

Учора — дзень выбараў. Першы раз з Ганначкаю пайшлі ў 6 гадзін. А народу ўжо бог ведае колькі. З-за апельсінаў і яблык, аказваецца — чортведама якая чарга.

«Праўды» ўжо не застаў у кіёску. Званіў Грахоўскаму, каб пакінуў і пераслаў хоць сваю. А ён збегаў уніз і купіў. Занёс і ў лечкамісію — Броўку.

——————————

28-га вечар у нас — Чэхаў. Хочацца нешта напісаць: як позна палюбіў яго.

26.2.1980.

Увесь вечар здаецца, што сёння нейкае свята, і таму нічога не хочацца рабіць, усё чакаю, што нешта павінна здарыцца. І дзень — гэтакі доўгі.

Зранку занёс у ЦК весткі пра Дзяржаўныя прэміі. Хто сёлета іх дамагаецца. З таго часу і знаходзіўся ў такім адчуванні, што трэба нешта рабіць, але не магу ні за што ўзяцца. Свята нейкае, мабыць, проста ў мяне.

Учора пазваніў Гарулёву: даўно не ведаў, як сябе ён пачувае пасля свае хваробы. Памятаю, пасля таго, як ён выйшаў з лечкамісіі, я званіў яму. Ён сказаў, што дзякуй богу, выскрабся, ходзіць, пісаць яшчэ не асмельваецца, думае, што ўсё ж умацуецца.

Трубку ўзяла жонка яго. — Хто пытаецца, — папыталася яна. Я сказаў. — Ох, Яначка, у Міколы справы зусім дрэнь.

Я думаў, ён даўно ходзіць на работу, як след адужаў, піша. Аказваецца, ляжыць у пасцелі. Яму нават цяжка самому паварнуцца на другі бок...

І цяпер я свайго гэтага святочнага адчування проста баюся. Думаць аб рабоце — проста страшна. Недзе ў нечым падобным бачу свой лёс... І можа, боязь работы і чаканне, што нешта здарыцца — гэта радасць, што магу пражыць яшчэ чалавекам свой дзень.

Словам, не ведаю, што робіцца са мною. Бо ў гэтым чаканні чагось, у святочнасці — вельмі вялікая трывога.

Мабыць, я больш нічога людскага ўжо не зраблю.

Вось жа і пра Куляшова, і пра Чэхава — нічога не выходзіць. Шкада, што не магу знайсці Мележавага пісьма да мяне з Ялты, калі я яму сказаў, што яго «Людзі на балоце» — гэта цуд, падзея. Бо без таго пісьма пра Мележа пісаць проста нельга.

29.2.1980.

Усе мінулыя дні адчуваў сябе блага. Учора быў сход секцыі прозы, вечар Чэхава, дзе меўся і я выступіць. Не пайшоў. Сёння не пайшоў на сход, а — у лечкамісію. Неўрапатолаг сказала, што ў мяне прастуда, перш за ўсё трэба лячыць яе, і паслала да ўчастковага нашага доктара. І гэтая нічога прастуднага не дала, а прызначыла ўколы — будуць рабіць з панядзелка.

Пра Куляшова, пра Імя і артыкул у ЛіМ аб мове адкладваю: не пішацца — ці па здароўю, ці нешта ўнутры ў мяне яшчэ да гэтай работы не гатова. Падумаў, што, можа, лягчэй будзе пра Мележа. Былі недзе ад яго лісты, можа, яны якраз спатрэбіліся б, і пачаў шукаць.

Два дні пайшло на прагляд пісем. Сёе-тое выкінуў, сёе-тое яшчэ пакінуў, бо прачытваць іх няма калі. Многа выпадковага, безумоўна, трэба выкінуць.

Знайшоў і Мележавы. Цяпер будзе мучыць пачатак. І тое — што можна сказаць, а чаго не. У кожнага ж ёсць такое, пра што звычайна не заведзена гаварыць. Хоць бы пра тое, што кожны сябе любіць па-сляпому. А часамі бывае і некага другога любіць, але — дзеля сябе. Дзеля выгады. Усякай: і непасрэднай, і ўскоснай.

А вельмі ж цяжка пісаць, калі трэба балансаваць, бо бывае — то не пара яшчэ, то не адсеялася, то не ўляглося, то не ўсталявалася нечая думка. Бо хочацца ж, каб было ўсё глыбока чалавечна і па-грамадзянску. Вельмі далікатная рэч — гэты чалавечы такт.



Мастак Уладзімір Кандрусевіч.

# Фрэскі вучаць берагчы час

## З мастаком Уладзімірам Кандрусевічам гутарыць пісьменніца Ірына Жарнасек

*— Уладзімір, я добра памятаю наша з вамі знаёмства. Было гэта ў Полацку, у касцёле святога Андрэя Баболі, калі Вы, выпускнік Акадэміі мастацтваў, рабілі там сваю дыпломную працу — фрэскі, прысвечаныя жыццярысу Андрэя Баболі. Памятаю, як я тады задала Вам не надта тактоўнае пытаннейка наконт таго, а ці не абсыпяцца неўзабаве Вашыя творы на галовы полацкіх парафіянаў? Вы, памятаю, цярпліва патлумачылі, што не надарэмна ўсё ж вывучалі тэхніку фрэскі. А цяпер, калі ласка, для чытачоў нашага часопіса паўтарыце тое ж самае: дзе Вы авалодалі тэхнікай фрэскі?*

— Калі вучыўся ў Акадэміі мастацтваў на манументальным аддзяленні, стажыраваўся тады ў Нямеччыне, у Мюнстэры, а потым у Італіі, у рэстаўрацыйных майстэрнях Фларэнцыі, вывучаў тэхніку фрэскі і меў удосталь раскошы любавацца шэдэўрамі выбітных майстроў. Ну а што, не абсыпаліся ж пакуль полацкія фрэскі?..

*— Не абсыпаліся! Не хочацца збівацца на камплімантарнасць, але не магу не зазначыць, што яны вельмі дарэчы ў полацкім касцёле. Цяпер нават неяк і ўявіць цяжка гэтую святыню без Вашых фрэсак... Дарэчы, а як Вы самі ставіліся тады да гэтай працы? Як успрымалі постаць свайго героя?*

— Безумоўна, першая сур'ёзная праца і адразу ж у такім месцы, у старажытным Полацку — вялікая адказнасць. А постаць святога Андрэя Баболі... У часе той працы я з ім і пазнаёміўся бліжэй. Безумоўна, не можа не ўражваць мужнасць і пераканананасць гэтага чалавека, ягоная самаахвярнасць. Магчыма, у многім дзякуючы яму, Андрэю Баболю, ды яшчэ ксяндзу Францішку Кісялю, усёй атмасферы ў касцёле, у якой мне пашчасціла тады працаваць, я і сам прыйшоў да хрысціянства. Тады ж у Полацку на Вялікдзень я прыняў хрост.

*— Сапраўды, Полацк аказаўся для Вас такі багаты на падзеі!*

— Дарэчы, там жа, у полацкім касцёле, я пазнаёміўся з ксяндзом Вячаславам Барком. Ні ён, ні я, вядома, не маглі прадбачыць, што праз нейкі час мы будзем вельмі цесна супрацоўнічаць. Але для гэтага ксяндзу Вячаславу трэба было яшчэ пабудаваць касцёл у Расонах.

*— Сапраўды! А Вы самі, зазначым, зрабілі ў расонскім касцёле вялізную працу. Яна, шчыра прызнаюся, і стала галоўнаю прычынаю гэтай нашай гутаркі. Памятаю, як у дзень асвячэння гэтага касцёла я літаральна ахнула, адчыніўшы ягоныя дзверы. Потым пра тое ж самае мне казалі іншыя ўдзельнікі ўрачыстасці. Крыж у галоўным алтары, фрэскі паводле матываў твораў знакамітага італьянца Джота не проста рабілі касцёл асабліва святочным, але і ўражвалі сваёй нечаканасцю. Бо такая раскоша ў Расонах?! У Вас нейкая асаблівая любоў да Джота?*

— Магчыма. Яна засталася яшчэ з часоў маёй практыкі ў Фларэнцыі і, мабыць, настолькі адбілася ў памяці, што захацелася перанесці свае адчуванне Італіі ў нашы Расоны.

*— І зрабілі тым самым гэткую вось неспадзяванку нашым сучаснікам!*

— Напачатку задума ўнутранага аздаблення касцёла ў Расонах была іншаю. Гэта меўся быць сучасны аскетычны нямецкі стыль, суворы мінімалізм. Ды потым... Я, ведаючы, што ў касцёле мяне чакае вялікая праца, прыязджаў у Расоны ў розныя поры года, калі касцёл яшчэ толькі будаваўся. Блукаў па ваколіцах, думаў, уяўляў сваю будучую працу. Тады ж і даведаўся, што ў Расонах самы вялікі працэнт самагубстваў сярод гэткіх жа невялікіх райцэнтраў. І асабліва ўвосень агортвала там пачуццё неякай самоты, безнадзейнасці, безвыходнасці... Тады і падумалася: а чаму б не аздобіць касцёл прыгожа, ярка, можа нават з элементамі наіву?.. Ну, каб хтосьці пераступіў яго парог і адчуў гэтую прыгажосць,

радасць... Ведаеце, у Сярэднявеччы фрэскі, распавядаючы людзям пра падзеі Евангелля, выконвалі своеасаблівую ролю пісьма для вялікай колькасці непісьменных людзей — яны распавядалі пра біблійныя падзеі ў даступнай форме. Але ж і ў наш час візуальная інфармацыя таксама вельмі моцна ўздзейнічае на чалавека. Як гэта ні дзіўна, але пры агромністым патоку сучаснай інфармацыі, часта агрэсіўнай, яркая карціна, якая нясе дабро, пазітыў, здольная затрымаць чалавека пры сабе. А творчасць Джота вельмі прыдатная ў гэтым плане, бо яна ўзнікла на мяжы Сярэднявечча і Рэнесансу, нібы першы крок ад іконы да рэалістычнага мастацтва, да перыяду Адраджэння. Творы Джота яшчэ маюць моцны ўплыў візантыйскай культуры, умоўнасці, але адначасна гэта ўжо і паварот да чалавека. Мне падалося, што менавіта гэты мастак з ягонымі колерамі — цёмна-сінім колерам неба, з мноствам яркай пазалоты, з такімі радаснымі кантрастамі — унясе ў расонскую святыню патрэбны каларыт святочнасці, урачыстасці, дабрыні. Словам, я прапанаваў ксяндзу Вячаславу сваю ідэю. Ён, праўда, не адразу згадзіўся, але калі праз нейкі час паехаў пілігрымам у Асізі, Падую і пабачыў там арыгінальныя працы Джота, тады і ён палюбіў гэтага мастака.

*— Памятаю, як ксёндз Францішак жартаваў некалі: «Цяпер мы можам не сумаваць, калі не маем магчымасці паехаць у Італію, пабыць у Падуі... Можна паехаць у Расоны і пабачыць гэткую ж прыгажосць». Дарэчы, Вы стваралі свае працы ў расонскім касцёле паводле фларэнтыйца Джота, але ж гэта не капіяванне?*

— Не, простае капіяванне было б нецікавае. Я, вядома, у захапленні ад круцыфікса Джота, але цалкам паўтараць яго не меў ніякай ахвоты. Тое ж самае тычыцца і фрэсак.

Увогуле, я вельмі ўдзячны ксяндзу Вячаславу за тое, што ён пайшоў па шляху рэалізацыі поўнай канцэпцыі аздаблення касцёла. Бо гэта, заўважце, не часта здараецца. Звычайна ў касцёле можна ўбачыць трохі шэрага, трохі жоўтага, трохі яшчэ нейкага колеру — такія стандартныя падыходы... А тут канцэпцыя акрэсленая і рэалізаваная. Іншая рэч, што яе можна прымаць ці не, але гэта ўжо справа густу.

*— У сувязі з толькі што сказаным, ці можаце Вы лічыць, што ў Расонах рэалізаваны значны кавалак Вашай творчай біяграфіі?*

— Адназначна. Дарэчы, калі я там працаваў, то не раз лавіў сябе на адчуванні творчага шчасця. Прызнаюся, калі б у мяне была магчымасць займацца такой працай усё жыццё, я проста быў бы шчаслівы, бо гэта не толькі цікавая, але і ўдзячная праца. Я, вядома ж, пішу карціны, але іх хтосьці ўбачыць, хтосьці не, а тут людзі прыходзяць маліцца, размаўляць з Богам... І калі мая праца хоць крышачку дапаможа камусьці — ці ж гэта не шчасце для мастака?

*— А цяпер, калі ласка, колькі словаў пра фрэскі з правага боку ў галоўным алтары.*

— Для іх былі выбраныя сюжэты, якія звязваюць Беларусь з іншымі краінамі. На адной з іх сюжэт пра тое, як нараджэнец далёкай Скандынавіі Торвальд Вандроўнік хрысціў Полацк — ёсць такая версія ў некаторых навукоўцаў. Другая распавядае пра паломніцтва святой Еўфрасінні Полацкай у Ерузалем, на трэцяй адлюстраваны момант, калі наш слынны зямляк Францішак Скарына здаваў



іспыты ў Падуі, а чацвёртая адлюстроўвае час цяжкіх выпрабаванняў — пераследу Касцёла ў Беларусі ў XX стагоддзі. Гэта абагульнены трагічны вобраз.

*— Ну а цяпер пяройдзем да стацый Крыжовага шляху, які Вы таксама зрабілі ў гэтым касцёле і які нядаўна быў асвечаны. Тэма балючая, зададзеная. Складана было працаваць над адлюстраваннем падзей, аддаленых двума тысячагоддзямі? І наколькі Вы маглі рэалізавацца ў гэтых працах як мастак?*

—У прынцыпе, над крыжам таксама складана працаваць кожнаму мастаку ў тым сэнсе, што нібыта ўсё зразумела. Але, мабыць, кожны мастак рэалізуецца ў гэтай тэме па-свайму. Падзеі нібыта вядомыя, прапісаныя ў малітоўніках, але кожная стацыя — гэта асобны твор. У кожным прыпынку Крыжовага шляху ўвасоблены роздум над тым, што перажываеш ты сам у гэты час, што перажывае грамадства, у якім ты жывеш. Тэма гэта вельмі цікавая, актуальная, над ёй кожнаму хрысціяніну яшчэ думаць і думаць. Спадзяюся, што яна для мяне яшчэ не вычарпаная.

*— Дык гэта ж цудоўна! Магчыма, давядзецца і яшчэ папрацаваць над ёю ў нейкім касцёле...*

— Магчыма... Час пакажа. Гэта, вядома, удзячная і высакародная праца.

*— Цікава, калі Вы стваралі гэтыя стацыі, Вам бачыліся ў іх персанажах нашы сучаснікі таксама, ці ўсё ж Вы абстрагаваліся і стваралі цалкам гістарычныя постаці?*

— У тым і сэнс, што Евангелле заўсёды застаецца сучасным і актуальным, і таму, на маю думку, яго нельга адлюстроўваць толькі як гістарычныя падзеі. Я выказваў у гэтых стацыях тое, што мяне турбуе. Вядома, ёсць пэўныя рамкі, якія трэба захоўваць, але пры ўсёй зададзенасці гэтых сюжэтаў, мне цікава было ўбачыць у кожным персанажы сваіх сучаснікаў. Чалавек часам бывае такі розны: сёння ён дэкляруе адно, заўтра штосьці іншае, а можа, нават і супрацьлеглае...

*— Патлумачце, калі ласка, мне, дылетанту, ці вельмі складаная тэхніка фрэскі?*

— Яна патрабуе ад мастака ўмення даражыць часам. Для таго, каб стварыць фрэску, патрэбна доўгая і грунтоўная падрыхтоўка, а потым імклівая праца. Напрыклад, калі кавалак сцяны падрыхтаваны, фрэску на ім трэба напісаць за чатыры гадзіны, бо сцяна высахне і праца будзе няякаснай, фарбы замацуюцца кепска. Кожны спецыяліст добра зразумее настрой аўтара ў тыя гадзіны, калі стваралася фрэска, — ён выразна адаб'ецца ў творы.

*— Калі я правільна зразумела, фрэску ў працэсе яе стварэння направіць вельмі цяжка.*

— Так. Хоць у практыцы такое і здараецца, але гэта амаль заўсёды бачна і амаль заўсёды не на карысць твору. Таму, калі аўтар бачыць сваю нейкую дробную альбо большую няўдачу, то не варта шкадаваць сябе — надзейней усё ж збіць усю працу і зрабіць нанава.

*— А Вам таксама даводзілася збіваць?*

— Так. У Расонах у першы дзень працаваў-працаваў, а потым усё збіў — мабыць, на працу паўплываў мой кепскі настрой, а гэтага нельга дапускаць, бо потым не будзеш жа тлумачыць людзям, чаму ў цябе нешта не так, як хацеў, атрымалася.

*— Крыўдна было разбураць ужо створанае?*

— Ды не, нармальна. Гэта вучыць адказнасці, бо настолькі важны чатырохгадзінны працэс нанясення на сцяну самой фрэскі, што нельга шкадаваць сябе ў часе падрыхтоўкі і вельмі важна настроіць сябе на адпаведны лад. У гэтым сэнсе ў мяне былі ідэальныя ўмовы ў Расонах, дзе ніякія турботы мегаполіса цябе не кранаюць: ты кладзешся спаць і прачынаешся з думкамі аб працы...

*— Не магу не задаць пытання, якое ўзнікла ў мяне адразу, як толькі я пабачыла Вашыя творы ў расонскім касцёле. Пазней, дарэчы, я чула ў розных варыяцыях гэтае ж пытанне і ад іншых людзей. Скажыце, а Вам не крыўдна, што такая вялікая праца, значная частка Вашай творчай біяграфіі — і ўсё гэта ў далёкіх-далёкіх Расонах?*

— Не, мне не крыўдна, бо столькі прыкладаў у гісторыі, калі нейкія асяродкі ўзнікалі, можна сказаць, на пустым месцы, а потым станавіліся культурнымі цэнтрамі. Я не кажу, што Расоны — той самы выпадак, але само з'яўленне невялікага касцёла святога Язафата Кунцэвіча ў гэтым мястэчку і маіх працаў у ім не выпадковае. Магчыма, менавіта тут ёсць больш праўды, чымсьці яе было б у нейкіх іншых месцах. Калі прыязджаеш у Будслаў і бачыш там цудоўную святыню пасярод вёскі, то гэта, згадзіцеся, надае вялікую вартасць і самому месцу, і ўсёй нашай зямлі. Так і з кожнай святыняй, дзе б яна ні была. Прынамсі, колькі я працаваў у Расонах, меў шчаслівае адчуванне, што я там патрэбны. Вельмі прыемнае і дарагое адчуванне.

*— А тое, што парафія там маленькая, Вас не бянтэжыць?*

— Не. Па-першае, хто ведае, што будзе заўтра, а па-другое, я сам зрабіў тое, што мог. Рабіў адказна, за сваю працу мне не сорамна. Я ўвогуле лічу, што любая праца адказная і важная. І кожны чалавек, якой бы прафесіяй ён ні валодаў, можа працаваць так, каб ганарыцца сваёй працай. А галоўнае, каб твая праца прыносіла радасць людзям. Гэта тое, дзеля чаго мы жывем, працуем, авалодваем прафесіямі. І для мяне працаваць у сталіцы ці ў нейкай аддаленай, глухой вёсцы аднолькава адказна.

*— І ўсё ж дазволім сабе напрыканцы памарыць: у сталіцы, у нашым Мінску, таксама, магчыма, будуць узводзіцца новыя касцёлы... І, дзякаваць Богу, у Мінску жыве і працуе мастак Уладзімір Кандрусевіч... Як вам такая мара?*

— Прыгожа, аднак цяпер не тая сітуацыя, каб выбіраць...

*— І таму, калі б раптам з'явілася цяпер штосьці падобнае да Расонаў, то...*

— ...я з радасцю распачаў бы новую працу.

*— Дзякуй, Уладзімір, за гутарку. Жадаю Вам творчага натхнення на ўсе працы, якія для Вас, як я зразумела з нашай гутаркі, не бываюць малаважныя.*

Язэп Янушкевіч



# Руплівец на Божай ніве

*Якубу Дадэрку — першаму біскупу Менскай дыяцэзіі — прысвячаецца*

Калі б не вайна 1812 года — ён, біскуп Якуб Дадэрка, бясспрэчна, быў бы пахаваны ў нас, на Беларусі. Калі не ў лёхах-скляпеннях адноўленай ім менскай катэдры (перарobленай з паезуіцкага касцёла — маёмасці скасаванага ордэну), дык на залаціста-клёнавым Кальварыйскім узгор'і. У абодвух выпадках першы біскуп Менскай дыяцэзіі свой апошні спачын выбраў бы на старадаўняй Літве, якой паслужыў нямала, хоць часу на тое слугаванне яму было адведзена няшмат...

Каб быць дакладным, не сама расейска-французская кампанія 1812 года сталася прычынаю выгнання, вымушанай «эміграцыі» Дадэркі на сваю прарадзіму — Валынь, а ягоны актыўны ўдзел у грамадскім жыцці краю, у прыватнасці, у шчырых вітаннях імператара Напалеона Банапарта...

Нарадзіўся Якуб-Ігнацы Дадэрка на Вількамiршчыне ў сям'і драгічынскага скарбніка Караля і Клары з Міравецкіх паміж 1750–1752 гадамі[1], але родавым гняздоўем Дадэркаў лічыцца Крамянеччына, дзе ў маляўнічым парэччы-сутоку Стыру, Іквы і Гарыні на Валыні здаўна месціцца дворышча Дадэркалы. Ужо ў XVI ст. ім валодалі чатыры браты Дадэркі (Сідар, Дашко, Нестар і Андрэй). Праз два стагоддзі засценак па-ранейшаму належаў Дадэркам, хоць гаспадарылі там і іншыя асобы (між іншым — слынны філосаф Гуго Калантай)[2].

Першапачатковую адукацыю будучы біскуп атрымаў у Віленскай акадэміі, пасля якой у 1767 г. абраў для сябе духоўны сан, стаўшы езуітам. Абіраючы шлях паслядоўніка Ігнацыя Лаёлы (нездарма другое імя Дадэркі было Ігнацы) юнак не ведаў, што праз 7 гадоў ад-

---

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ** — літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук. Нарадзіўся ў мястэчку Ракаў у 1959 годзе. У 1981 г. скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. У 1984 г. — аспірантуру ў Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларусі.
Аўтар звыш 200 публікацый, у тым ліку кніг «Беларускі Дудар: Праблема славянскіх традыцый і ўплываў у творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча» (1991); «У прадчуванні знаходак: З адной вандроўкі ў архівы Варшавы, Вроцлава, Кракава» (1994); «Неадменны сакратар Адраджэння: Вацлаў Ластоўскі» (1995); «За архіўным парогам» (2002). На высокім тэксталагічным узроўні падрыхтаваў і выдаў творчую спадчыну шматлікіх дзеячаў беларускай культуры і літаратуры: аднатомнікі твораў Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча (1984, 2001), Францішка Багушэвіча (1991, 1998, 2001), Вацлава Ластоўскага (1997, 2001).

мысловым папскім брэве-пасланнем (з лацінскага «brevis» — кароткі) ордэн езуітаў будзе скасаваны. Калі ўлетку 1773 г. папа Клімэнт XIV падпісваў брэве «Dominus ac Redemptor noster»[3] пра паўсюднае скасаванне ордэну езуітаў, Дадэрка знаходзіўся на беларускіх землях, заграбленых расейскай імператрыцай Кацярынай II. Каб пастанова Папы набыла законную сілу, яна мусіла быць абнародаванай мясцовымі ўладамі. Аднак Кацярына II забараніла друкаваць на абшарах Расейскай імперыі змест папскага брэве, і таму ордэн езуітаў працягваў як бы законна дзейнічаць на прасторах адзінай славянскай імперыі, якая забірала пад сваё панаванне новыя і новыя ўладанні: без розніцы, ці гэта праваслаўна-ўніяцкая Украіна, каталіцкая Польшча або мусульманскі Каўказ. Падпарадкоўваючыся папскаму брэве (унікальнасць езуітаў як законнікаў-манахаў была ў тым, што ў адрозненне ад іншых манаскіх ордэнаў яны не прызнавалі аніякай біскупскай улады, апроч ордэнскіх генералаў-кіраўнікоў і самога Папы Рымскага), Дадэрка вярнуўся ў Польшчу і змяніў манаскі габіт езуіта на святарскую сутану. Святарскае пасвячэнне ён атрымаў з рук беларускага суфрагана біскупа Тавяньскага ў 1776 годзе і сваю духоўную дзейнасць распачаў з віленскай катэдры і касцёла св. Яна. Амаль адразу маладзенькі 25-гадовы ксёндз праслыў красамоўным прамоўцам, пераемнікам пакутніка Андрэя Баболі. Слава пра яго перакацілася за віленскія муры па ўсёй Літоўскай правінцыі, дзе яму таксама часта даводзілася несці ў народ Божае слова. Нядзіва, што віленскі генеральны афіцыял (старшыня духоўнага суда) біскуп Мікадэм Пузына узяў яго ў тамтэйшую канонію за каад'ютара[4]. Так пачалася яго імклівая духоўная кар'ера. Ужо праз год, у 1777 г., кс. Дадэрка стаў пробашчам капліцы Божага Цела ў віленскім святаянскім касцёле; тут пратэктарам для маладога святара выступіў калятар[5] касцёла св. Яна троцкі ваявода Тадэвуш Агінскі, з чым біскуп Масальскі ахвотна пагадзіўся. У 1781 годзе кс. Дадэрка стаў канонікам віленскай катэдры, а ў 1783 г. віленская капітула абрала яго дэпутатам на духоўны Літоўскі трыбунал (compositi judicii), дзе ён аднойчы выбіраўся скарбнікам і тройчы — старшынёю, што дало права сучаснікам параўноўваць Дадэрку з маршалкам трыбуналу. Усюды трыццацігадовы святар годна выконваў місію слугі Божага.

У 1789 годзе з пратэкцыі новага свайго апекуна, віленскага ваяводы князя Караля Радзівіла (больш слыннага пад мянушкаю Пане Каханку, таго, хто актыўна выступаў супраць выбрання каралём Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага, а таму быў змушаны на нейкі час эміграваць у Турцыю, пасля чаго частка ягоных вялізных маёнткаў была секвестраваная), энергічны духоўнік стаў прэлатам алыцкай калегіяты (пасля адмовы ад гэтай пасады арцыбіскупа Ляскарыса). А праз год у сваёй *Alma Mater* — Віленскай акадэміі, якою тады кіраваў славуты астраном і асветнік, найвыдатнейшы арганізатар навукі ў нашым краі, ксёндз-рэктар Марцін Пачобут-Адляніцкі (1728–1810), святар Дадэрка бароніць навуковую ступень і становіцца доктарам абодвух праваў — касцёльнага і цывільнага, што паспрыяла яму стаць дэлегатам ад Апостальскай Сталіцы ў правах разводу, а таксама прафесійных. У 1792 г. святары луцкай зямлі абралі яго ад Малапольскай правінцыі дэпутатам Валынскага ваяводства на Люблінскі трыбунал, пасля заканчэння якога Дадэрку дэлегавалі да караля Станіслава Аўгуста агучыць прапановы ад правінцыі. І ўжо сам апошні кароль Рэчы Паспалітай выступіў перад самім Святым Айцом чарговым пратэжэ-хадайнікам для Дадэркі, каб ён стаў дапаможным біскупам (суфраганам) Луцкай дыяцэзіі пасля смерці Качкоўскага. Аднак падзеі Таргавіцкай канфедэрацыі перашкодзілі Дадэрку ў належны час і належным парадкам атрымаць папскую булу, і з гэтай прычыны сама каралеўская намінацыя не мела выніку. Энергічны святар спадабаўся каралю Панятоўскаму. Пераказвалася здарэнне пра тое, што, калі ў Варшаве Станіслаў-Аўгуст рабіў конны шпацыр, манарх сумысна затрымаўся каля будынка, у якім новы біскуп зладзіў урачысты прыём для першых асобаў з Кароны і Літвы, падклікаў гаспадара застольнай «асамблеі», прывітаўся з гасцямі і сказаў: «Добра, ксёнжа Якубе, чыніш, што любіш караняжаў і лучыш з імі ліцвінаў». Іначай, чым «ксёндз Якуб», кароль да яго і не звяртаўся. З рук апошняга манарха Рэчы Паспалітай атрымаў Дадэрка абедзве высокія ўзнагароды: ордэн св. Станіслава (1789) і троху пазней (19 лістапада 1794 г.) кароль даў яму ордэн Белага Арла. Быццам рука Божага Провіду кіравала Панятоўскім, які не прадбачыў, што тым самым узнагароджвае вернага слугу Касцёла за будучы ўдзел у сваім хуткім адпяванні. Так, біскуп Дадэрка стане адным з нешматлікіх вышэйшых каталіцкіх іерархаў, хто ў далёкім Пецярбургу правядзе зрынута-

га караля ў апошні шлях...

Пасля ганебных падзелаў і ўпадку Рэчы Паспалітай віленская, луцкая капітулы і алыцкая калегіята дэлегавалі кс. Дадэрку да імперскіх намеснікаў — генералаў Крачэтнікава, Туталміна і Шарамецьева — з наказам адстаяць цэласць фундушаў і ўсёй касцёльнай маёмасці на абшарах Беларусі-Літвы і Украіны. Ужо тады сучаснікі заўважылі за кс. Дадэркам незвычайную рысу — уменне апекавацца чужым дабром як сваім, схільнасць дарыць ласку, мілату й дабро прыніжаным і маламаёмасным. З той самай мэтай Камянецкая дыяцэзія абрала Дадэрку сваім пасланнікам (1796) да імператара Паўла І. Выкліканы на каранацыю ў Маскву (5 красавіка 1797 г. паводле старога стылю), кс. Дадэрка працяглы час прабавіўся ў абедзвюх расейскіх сталіцах: Маскве ды Пецярбургу. Менавіта ў апошнім, калі былы папскі нунцый Літэ ўтвараў новую іерархію Каталіцкага Касцёла ў межах Расейскай імперыі, кс. Дадэрка быў прызначаны першым біскупам Менскай дыяцэзіі. Адбылося тое 10 жніўня 1798 года.

Аднак перш чым адбыцца прызначэнню, трэба было стварыць саму дыяцэзію, а такія рэчы ў самадзяржаўнай імперыі дзеяліся толькі з дазволу манарха. Падпісваючы 28 красавіка 1798 года адпаведны загад пра тое, што ў Менску павінна паўстаць новае біскупства, імператар Павел І ужо добра ведаў, каму даручае каталіцкую паству. Пра выказванні манарха і нагогул пра стаўленне сучаснікаў да кс. Дадэркі можна даведацца са старонак асабістага дзённіка першага каталіцкага біскупа на прасторах агромністай Расейскай імперыі мітрапаліта Станіслава Богуша-Сестранцэвіча.

Вось некалькі такіх прыгадак толькі за 1798 год[6].

«**7 студзеня 1798 г**. ... Біскуп Дадэрка сказаў мне, што граф Велягорскі спытаўся ў яго, ці задаволены я цяпер? «Чаму, — удакладніў Дадэрка,— цяпер?» Граф: «Хіба вы не ведаеце, што дэпартамент [па справах рэлігій. — Я. Я.] жадаў, каб яму было загадана вярнуцца ў сваю епархію; зараз жа часты прыём яго Імператарам прымусіў гэтых спадароў змяніць сваё меркаванне»[7].

**1 лютага**. Сёння, у сем гадзін раніцы, сканаў ад апаплексічнага ўдару кароль. Я з'явіўся ў палове на дзясятую і бачыў нябожчыка ў пасцелі. Я быў так усхваляваны, што рыдаў.

**11 лютага 1798 г. З Пецярбургу**. У пяць гадзін папаўдні, пасля нарады, якая адбылася ў мяне з обер-цырымоніймайстрам Валуевым адносна царкоўнага чыну пры пахаваннях караля, я адправіўся ў Мармуровы палац з двума мітрафорнымі абатамі, двума святарамі, прызначанымі для дапамогі, і чатырма дыяканамі...

У момант прыбыцця Імператара я з усім прысутным духавенствам сышоў да дзвярэй пад'езда і тут, у мітры і далматыцы, з паклонам сустрэў манарха і падаў яму крыж, каб Ён прыклаўся да яго.

Прыбыўшы ў тронную залу, манарх спытаў мяне, дзе Ён павінен стаць; я сказаў яму: крыху вышэй і паказаў яму месца амаль каля сцяны супраць сярэдзіны трона. З спальні, у якой сканаў кароль, прынеслі яго цела і паклалі на катафалк пад полагам каля прыступак трона. Імператар усклаў каралю на галаву карону. Я прачытаў *Reguiescat in pace* і акрапіў цела св. вадой. Потым, усё яшчэ не здымаючы мітры, я падышоў з глыбокім паклонам да Імператара і паднёс яму срэбнае з пазалотаю крапідла. Імператар спытаў у мяне, што Ён яшчэ павінен зрабіць?

Я адказаў, што неабходна акрапіць цела крыжападобна, і рухам рукі паказаў прыблізна, як гэта зрабіць. Зрэшты, Ён заўважыў усё тое толькі, што зробленае мною.

Ён узышоў на тры прыступкі і, пакланіўшыся парэшткам памерлага караля, акрапіў ягоны твар; я ўзяў назад крапідла і перадаў яго біскупу Дадэрку, які, у сваю чаргу, падаў яго вялікаму князю Канстанціну; апошні здзейсніў тое ж самае, што і Імператар. Біскуп Дадэрка ўзяў ізноў крапідла і хацеў перадаць яго іншаму мітрафорнаму біскупу...».

На вечаровай аўдыенцыі ў цара адбыўся, паводле ўспамінаў Сестранцэвіча, наступны дыялог.

Імп(ератар). «У вас дастаткова біскупаў?»

Адк(аз). «Вашамосць, мы спадзяемся, што Вы прызначыце яшчэ двух новых. Учора былі толькі мітрафорныя святары: адзін з іх — мітрафорны прэлат Дадэрка».

Імп. «Гэты малады?» (Імператар правёў рукою па шчацэ.)

Адк. «Малады, Ваша Вялікасць? Яму споўнілася пяцьдзясят гадоў».

Імп. «Прынамсі ён не робіць такога ўражання».

**22 лютага**. Адбыўся ўрачысты вынас цела нябожчыка караля Польшчы, Станіслава Аўгуста, з Мармуровага палаца ў царкву.

Шэсце пачалося а дзясятай гадзіне раніцы. Цар трымаўся адразу за пахавальнай каляс-

цай, конна, з аголенай шпагай, якую ён трымаў апушчанай уніз.

Духавенства папярэднічала калясніцы; яно было падзелена на тры групы. Акаліты ішлі наперадзе ў белых комжах, за імі святары ў белых комжах, далматыках і доўгіх арнатах. Пробашч царквы замыкаў шэсце першай групы духавенства. Абат Бэнэдыктын, мітрафорны прэлат Дадэрка, уніяцкі мітрапаліт Растоцкі і я з суправаджальнікамі, аточаныя паабапал 30-цю кадэтамі, складалі другую групу....

**25 лютага**. У гэты дзень адбыліся пахаванні (без адмысловай урачыстасці) нябожчыка караля. Нунцый адслужыў Імшу, а потым была памінальная служба, якую правілі: я, Рэнскі біскуп, мітрафорны прэлат Дадэрка і абат бэнэдыктынец. Уваход быў па квітках. Аркестр пад кіраўніцтвам Казлоўскага.

На працягу ўсіх чатырох дзён, калі было выстаўлена цела нябожчыка, мы ад панядзелку па чарзе служылі памінальніцу .... Ля труны пабывала каля трынаццаці тысяч цікаўных. Іх лічылі. Гэта перадаў мне цырымоніймайстар, граф Галоўкін.

**27 лютага**. Склаўшы праект прыняцця трапістаў у Дудулевічах, я раніцой прынёс яго, каб уручыць Імператару, бо Ён загадаў мне асабіста перадаць Яму. Праект быў запячатаны. Я хацеў уручыць яго праз сакратара. Той не прыняў. Пра мяне паведамілі, і Імператар загадаў мне з'явіцца а шостай гадзіне ўвечары. Я з'явіўся. Імператар міласціва спытаўся пра маё здароўе. Ён пакепліваў з маладога мітрафорнага прэлата, як быццам я яго любіў. Я заўважыў, што ў ягоных словах адлюстроўваюцца плёткі.

Я адказаў, што наўрад ці можна назваць маладым чалавека ў 48 гадоў.

— «Але ён такім не здаецца». Імператар спытаў, з якога часу я перастаў быць маладым.

Я адказаў, што споўнілася ўжо амаль сорак гадоў майго святарства.

Ягоны сабака забрахаў, быццам хочучы мяне ўкусіць. Цар прагнаў яго, кажучы, што бароніць епіскапат.

* * *

Сапраўды, за Паўлам I, які нарэшце дачакаўся імператарскага трону пасля раптоўнай смерці сваёй маці, Кацярыны II, у лістападзе 1796 года, шмат што ў палітычным жыцці расейскай дзяржавы атрымала палёгку (дастаткова згадаць вызваленне Паўлам I з казематаў сумнавядомай Петрапаўлаўскай цытадэлі легендарнага кіраўніка антырасейскага паўстання, нашага земляка Тадэвуша Касцюшкі). Акт высвячэння Якуба Дадэркі на біскупа адбыўся ў Полацку з удзелам Магілёўскага біскупа-суфрагана Яна Беніслаўскага, якому асіставалі Трыпалітанскі біскуп Лапацінскі і Магілёўскі біскуп-суфраган Бутрымовіч (уніят). Разам з ім быў таксама высвечаны Адынец (як біскуп-суфраган Полацкі). Урачысты ўезд (Ingres) Якуба Дадэркі ў новаўтвораную дыяцэзію адбыўся ў лістападзе таго ж 1798 года. Біскуп адчытаў перад сваімі вернікамі булу папы Пія VI, першыя словы якой у варунках расейскай нявол, да якой яшчэ ніхто з былых грамадзянаў Рэчы Паспалітай не мог прызвычаіцца, гучалі з асаблівым падтэкстам: *«Maximis undique pressi doloribus»* [«З усіх бакоў прыгнечаны болямі, цяжкасцямі, нягодамі».]

Стаўшы паўнаўладным пастырам Меншчыны, біскуп Дадэрка з маладым гартам й запалам аберуч узяўся за аднаўленне дыяцэзіяльных структураў. Найперш трэба было падумаць пра элементарнае: уласны прытулак, бо спадчына кс. Якубу дасталася разбураная й панішчаная да попелу: за год перад тым у менскім паезуіцкім касцёле адбыўся пажар; цагляныя сцены злавесна чарнелі, прымушаючы менчукоў і выпадковых прыезджых мінакоў прыспешваць крок, перасякаючы Высокі рынак. Занядбаную паезуіцкую святыню і абраў сабе як катэдральны касцёл былы езуіт кс. Дадэрка. За нейкі год-паўтары, ужо ў 1800 годзе, менская катэдра цалкам выконвала сваю функцыю галоўнай святыні краю, больш за тое— яна падавалася ці не самай адмысловай з мастацкага боку.

[1] Польскі біяграфічны слоўнік падае год нараджэння 1751 (Godlewski Michał, Biskup. Dederko Jakub // Polski słownik biograficzny. — Kraków, 1939, T. V. Zesz. 21. — S. 47).
[2] M. D. Dederkały // Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innnych krajów Słowiańskich. — Warszawa, 1880. T. 1. — S. 947.
[3] «Dominus ac redemptor noster...» («Гасподзь як наш Збавіцель...») — першыя словы булы ад 21 чэрвеня 1773 г., якой папа Клімэнт XIV скасаваў ордэн езуітаў.
[4] Каад'ютар (koadiutor) — у Каталіцкім Касцёле святар, прызначаны касцёльнымі ўладамі на дапамогу вышэйшым іерархам, зазвычай тытулярны (дапаможны) біскуп пры асобе ардынарнага (актуальнага) біскупа пэўнай дыяцэзіі з магчымасцю стаць наступнікам пасля ягонай смерці.
[5] Калятар (лац. collator) — фундатар або нашчадак фундатара, які мае права на прапанову займання духоўных пасадаў у збудаванай святыні.
[6] [Богуш-Сестранцэвіч Ст.] Дневник Сестренцевича. — Спб., 1913. Ч. 1 (1797–1798). — С. 131–158.
[7] Тут чуваць рэха падспуднага супрацьстаяння мітрапаліта Сестранцэвіча і ордэну езуітаў, не забароненага ў Расейскай імперыі ні пры Кацярыне II, ні пры яе пераемніку Паўлу I; паводле выказвання генерала ордэну Гаўрылы Грубэра, які атрымаў «доступ у імператарскія пакоі ў любы зручны час», яму ўдалося «зламаць Сестранцэвіча».



Іяланта Валуевіч

# Нястомны будаўнік святыняў

Не перастаю радавацца таму, наколькі багатая наша зямля на таленты. На жаль, складаны гістарычны шлях, палітычныя абставіны не заўсёды давалі развівацца ў поўнай меры ўсім магчымасцям. Шмат страчана, шмат забыта...

У сузор'е яркіх, таленавітых святароў, якія працавалі ў клюшчанскім касцёле, дабавілася яшчэ адна не зорачка, а зорка першай велічыні — ксёндз Юзаф Бародзіч. Асоба настолькі яркая і супярэчлівая, што да сённяшняга дня яго імя не забытае: яго любілі, яго паважалі, яго баяліся, пра яго складалі легенды і байкі, яму прыпісвалі анекдоты. У 2011 годзе споўнілася 150 гадоў з дня яго нараджэння...

У «Реестры ксяндзоў пробашчаў Клюшчанскага касцёла ад пачатку існавання да 1937 г.», складзеным ксяндзом А. Вайцяхоўскім, ёсць запіс пра ксяндза Ю. Бародзіча. Так, 110 гадоў таму святаром у Клюшчаны быў прызначаны актыўны ксёндз Юзаф Бародзіч. Ён адразу ж разгарнуў бурную дзейнасць: дабіўся ад уладаў вяртання касцёлу 34-х дзесяцінаў зямлі ў Світайлішках (цяпер Літва) за 6 км ад Клюшчанаў, адну дзесяціну зямлі выклапатаў ад клюшчанскага двара пад агароды каля плябаніі, павялічыў і добраўпарадкаваў магільнік. Па яго ініцыятыве зрабілі рамонт касцёла і некаторыя канструкцыйныя змяненні: на франтоне ўсталявілі 2 вежы замест васьміграннай званіцы, па-новаму абсталявалі 3 алтары, пабудавалі новую плябанію і дом для касцёльнай службы.

Касцёл захаваўся да нашых дзён амаль без зменаў і з'яўляецца помнікам драўлянага дойлідства з элементамі стылю неаготыкі (у некаторых крыніцах называецца гатычна-закапанскі стыль). У тым, што касцёл працуе і сёння, ёсць немалая заслуга малітваў ксяндза Бародзіча.

Ксёндз Бародзіч быў вялікім арыгіналам, якога вельмі любілі парафіяне. Гісторыі пра яго яны перадавалі з пакалення ў пакаленне, хоць яны адбываліся 110 гадоў таму. Памятаюць яго многія і сёння, што сведчыць аб харызматычнасці гэтага святара. Апроч асноўных яго заслугаў, людзі любілі ксяндза яшчэ і за тое, што ў размове ён ужываў вобразную мову, трапныя словы. Многія з яго выказванняў былі разабраныя на цытаты і па сённяшні дзень ужываюцца ў нашай мясцовасці.

Караліна Пілімон расказвала, што ксёндз сябраваў з яе бацькам, Каятанам Пілімонам, і часта наведваўся да іх. Аднойчы бацькава сястра спытала: «Чаму адзін ксёндз моліцца памалу, а іншы хутка?» На што ксёндз Бародзіч адказаў: «А ці ёсць розніца, калі я буду гаварыць: ду-р-на-я ба-ба , ці скажу баба-дура?»

Калі будавалі мур каля касцёла і могілак, кс. Юзаф Бародзіч часта за «пакуту» загадваў насіць каменне да муру. Парафіяне доўга жартавалі з адной старой дзеўкі, што пасля споведзі, носячы каменне, парвала падол тоўстай суконнай спадніцы (значыць грахоў мела шмат!).

Жартоўны выпадак расказвалі і ў Мёрах. Пасля фэсту ў пакой, дзе быў падрыхтаваны святочны абед, зайшоў малады ксёндз і пачаў расказваць старэйшаму ксяндзу, які сядзеў там у чаканні астатніх гасцей: «Замучаўся слухаць на споведзі: што ні другая баба — усё Бародзіча кляла...». А за сталом сядзеў сам кс. Бародзіч! Але гэта сапраўды толькі жарт. У Мёрах вельмі любілі гэтага святара, а цяпер любяць і шануюць памяць пра яго.

Што датычыцца касцёльных законаў, то ён выконваў іх няў-



Пасля Першай св. Камуніі.
З сямейнага архіва
Кацярыны Трыбоцкай.

хільна, чаго патрабаваў таксама і ад парафіянаў. І гэта не выклікала незадаволенасці — толькі павагу. Расказвалі, што аднойчы, калі маладыя прыйшлі да шлюбу, ксёндз, убачыўшы, у якім стане была нявеста, сарваў з яе галавы вянок і са словамі «табе гарохавы вянок патрэбен, а не міртавы!» кінуў на падлогу.

Ксёндз Бародзіч вельмі любіў і ўмеў весела пажартаваць. Клюшчанская парафія мяжуецца з жалядскай парафіяй, дзе ў той час касцёл быў перароблены пад царкву. Ксёндз Бародзіч і жалядскі бацюшка часам абменьваліся візітамі. Неяк вырашыў ксёндз Бародзіч пакпіць з бацюшкі. Прыехаў ён па нейкай справе ў Жалядзі і ўбачыў у двары новую прыгожую брычку. Пасядзелі, абмеркавалі ўсе справы, а калі прыйшла пара ўжо ехаць дадому, кс. Бародзіч, папярэдне падгаварыўшы фатографа Р. Ляйбовіча, прапанаваў: «Давайце памераемся сілай! Калі вы ўдваіх звязеце мяне з гары ў брычцы, то я ўсцягну пустую брычку на гару адзін!»

Папы, не адчуўшы ніякага падману, здзівіліся такой неразумнай, нават смешнай прапанове і... згадзіліся. А як толькі ксёндз усеўся ў брычку і папы пацягнулі яго, упрогшыся ў аглоблі, тут, як з-пад зямлі, вырас фатограф і зрабіў здымак усёй кампаніі. У хуткім часе ён ужо паказваў фатаграфію з каментарам: «Во, глядзі, ксяндзы на папах катаюцца...»

Збянтэжаны бацюшка выпрасіў у Бародзіча здымак, а потым выкупіў у фатографа і негатыў. А гара тая ў сувязі з гэтым выпадкам і па сённяшні дзень называецца Паповай...

Гэтая байка ў розных інтэрпрэтацыях, абрастаючы падрабязнасцямі, цягнулася ўслед за кс. Бародзічам, куды б ён ні паехаў. Кс. Аляксей Юркайць, будучы па запрашэнні мясцовага пробашча ў жалядскім касцёле на рэкалекцыях, расказваў гэтую байку, пачуўшы яе ўжо ў Мёрах. Я яму сказала, што ён якраз знаходзіцца ля вытокаў, у тым «гістарычным» месцы, дзе 100 з лішкам гадоў назад і адбываліся гэтыя падзеі.

Трэба сказаць, што гэты «нявінны» жарт не прайшоў бясследна для ксяндза Юзафа — папы ўсё-такі паскардзіліся вышэйшаму духавенству і ксяндза адразу ж перапраўілі ў новае месца: далёкі ад Клюшчанаў горад Мёры, каля латышскай мяжы.

Ксёндз Юзаф Бародзіч нарадзіўся ў 1861 годзе. У 1893 г. здаў экзамены ў духоўную семінарыю ў Вільні, якую скончыў у 1897 годзе. Працаваў вікарыем у Лідзе, Новых Троках, Даўгілішках і адзін год быў у гродненскім кляштары. У 1900 годзе ён паехаў у Рым, дзе папа Леў XIII благаславіў яго на місіянерскую дзейнасць. Пасля працаваў у Вільні. Першы касцёл ён пабудаваў у мястэчку Жозлі, затым — у Клюшчанах. У 1905 годзе быў накіраваны ў парафію Мёры, дзе на працягу 1905–1907 гг. сабраў сродкі, будаўнічыя матэрыялы і збудаваў цагляны касцёл. Гэты незвычайны ўчынак можна разглядаць як сусветны рэкорд у будоўлі святыні.

Пасля першай святой Імшы ў новапабудаванай мёрскай святыні ў 1907 годзе ён быў арыштаваны і сасланы спачатку на Ашмяншчыну, а потым у Яраслаўль і Рыбінск. Але і там ён нейкім чынам узновіць місіянерскую дзейнасць і таксама пабудуе касцёл.

Царскі ўрад «у падзяку» саслаў ксяндза Юзафа Бародзіча ў Аглонскі дамініканскі кляштар у Латвіі, куды святароў адсылалі для «направы». Над ім нават адбыўся суд у Гародні і Пскове і былі вынесены прысуды: адбываць пакаранне ў Дынанбургскай крэпасці. Але, як ён піша ва ўспамінах, Пан Бог уратаваў яго на шляху да рабства: яму ўдалося ўцячы з цягніка, мытнік за расійскі рубель прапусціў яго на польскую тэрыторыю.

Нейкі час ён выкладаў філасофію ў кракаўскім Ягелонскім універсітэце. Пасля трапіў у Сан-Рэма: па яго ж вобразным выразе — «у рай». Працаваў святаром у касцёле святога Роха і па просьбе сёстраў законных і за іх грошы збудаваў заезжы двор «Палонія» і невялічкі гатычны касцёл. На пабудове заказаў намаляваць белага арла — сімвал польскай дзяржаўнасці.

І гэтага зноў не дараваў яму царскі ўрад. Павезлі яго спачатку ў Фларэнцыю, а пасля ў Іспанію, адкуль караблём транспарціравалі ў Адэсу — на суд. У той час ішла Першая сусветная вайна і карабель падарваўся на міне. Пасажыраў выратавалі англічане і адвезлі ўсіх у Канстанцінопаль, дзе да ксяндза Юзафа Бародзіча дайшла навіна аб тым, што Польшча атрымала незалежнасць. І ён зноў спяшаецца ў Варшаву, дзе збірае грошы галадаючым.

Лёс святара Юзафа Бародзіча быў трагічны: у вольнай Польшчы яго падазравалі ў шпіянажы на карысць бальшавіцкай Расіі; адначасова ў Сан-Рэма распачалі справу аб сродках на будову маёнтка «Палонія». Меў праблемы таксама з польскай уладай і польскай прэсай. Зноў перажыў суд.




Так выглядала ахвяраванне («цаглінка») на збор сродкаў для будаўніцтва касцёла ў Мёрах.

...Выратаванне прыйшло з Мёраў. Парафіяне сабралі ў абарону кс. Бародзіча 5000 подпісаў! Прычым за апальнага ксяндза аддалі свае галасы не толькі каталікі, але і праваслаўныя, і габрэі!

Далейшы лёс ксяндза Юзафа Бародзіча складаўся больш спакойна, але застаецца невядомым, дзе ён далей працаваў і калі адышоў да Пана...

Мы не маем права забываць пра тое, што зрабіў гэты святар для нашых продкаў і для нас. Яго жыццё — гэта прыклад ахвярнага служэння Богу. Яго праца назаўсёды будзе ўпісана ў нашу гісторыю. Ён варты таго, каб мы памяталі пра яго і былі яму ўдзячныя. У мёрскім касцёле ёсць памятная дошка ў гонар кс. Бародзіча, хаця працаваў ён там усяго два гады...

Ксёндз Юзаф Бародзіч быў чалавекам вялікіх пачуццяў, які блізка браў да сэрца ўсё, што адбывалася, і частку свайго хвалявання і свайго сэрца пакінуў у сваіх творах: ім напісана больш за дзесяць кніг.

Пра тое, што кс. Бародзіч напісаў кнігу «На возе і пад возам», мне некалі расказаў Адам Мальдзіс. Улічваючы тое, што ў гэтай кнізе змешчана і байка пра папоў, я вырашыла, што гэта зборнік баек (і не я адна). І толькі калі стала вывучаць біяграфію кс. Бародзіча, зразумела, што кніга аўтабіяграфічная: ён апавядаў у ёй пра сябе і пра сваё цяжкае, але яркае, насычанае рознымі падзеямі жыццё, якое ён цалкам прысвяціў Богу і людзям.

У яго жыцці было многа высокага і трагічнага. Ён зведаў усё: ашаламляльны поспех і любоў парафіянаў, цярпенні, прыніжэнні і ганенні. Ён падымаўся на вяршыню і падаў у бездань... Толькі чалавек моцны духам, цвёрда ўпэўнены ў сваёй праваце і цалкам адданы той справе, да якой быў пакліканы, з Божай дапамогай мог вытрываць усе выпрабаванні і не разуверыцца, не растраціць душэўны запал, веру, чысціню, вернасць хрысціянскім ідэалам Праўды і Дабра.

*Дзякую за дапамогу ў зборы інфармацыі кс. Аляксею Юркайцю з Мосара і кс. Анатолю Захарэўскаму з Міхалішак.*

Аркадзь Шпунт

# Яблык ці гранат?..



...Па сутнасці гэта ўсяго толькі аповед пра адкрыццё яшчэ адной выставы. Аднак асаблівасць гэтай выставы ў тым, што многія рэчы на ёй экспанаваліся ўпершыню, бо нарэшце яны былі адрэстаўраваныя. Яны нідзе не друкаваліся, мала вывучаныя, але самім фактам свайго існавання пашыраюць вузкія рамкі агульных уяўленняў пра беларускае мастацтва сакральнага жывапісу.

Агульнавядома, што лепш адзін раз убачыць, чым сто разоў пачуць. Расказваць пра такія мастацкія выявы — занятак бясплённы, тым больш, што сюжэты такіх твораў адныя і тыя ж: з біблейскіх часоў нязменныя неба залацістых фонаў, прамяністасць німбаў над галовамі святых, пурпур або цёмна-вішнёвы, сіні ці нябесна-блакітны колеры ў выявах Божай Маці і Хрыста. І на каленях у Дзевы Марыі, і ў яслях, сярод жывёлаў пад дзіравым дахам у прыстанку пастухоў, Дзіця нязменна выпраменьвае нязгаснае святло, як і належыць Богу. І нязменна ззяе пуцяводная зорка ў начы... Што ў гэтым новага? Хіба што — Новы Запавет.

Аднак, нягледзячы на іканаграфічныя схемы і каноны, я ніколі не сустракаў цалкам аднолькавых вобразаў. І адзіны падыход (пры агульных прынцыпах) таксама не прыдатны для рэстаўрацыі розных твораў...

Абраз, рэстаўрацыя якога завяршылася ў 2011 годзе, мае відавочныя прыкметы лацінскай мастацкай традыцыі. І дзіўным падалося б, што гэты твор вывезены з праваслаўнай царквы, калі б гэта было не ў Беларусі, дзе каталіцкі абраз у царкве і праваслаўны ў касцёле — зусім не дзіва, бо гісторыя нашага сакральнага мастацтва вельмі моцна і натуральна звязана з гісторыяй нашай краіны.

Гісторыя абраза са Старых Дзявяткавічаў — яшчэ адно пацвярджэнне гэтаму, а яшчэ — сведчанне немагчымасці вывучэння сакральнага мастацтва Беларусі без аглядкі ... на Рым, Польшчу, Украіну, Расію, Германію, Галандыю — карацей кажучы, на ўсе бакі свету, Старога і нават Новага, бо паліхромны алтар дзесьці ў Нікарагуа можа мала чым адрозніваццa ад алтара ў Пінску, і завіткі барочных валютаў на фасадах нашых архітэктурных помнікаў такія ж пругкія, як ва ўсім свеце...

...«На Песках» — так называлася месца за сценамі старажытнага Кракава. Там у даўнія часы на сцяне касцёла Звеставання (над уваходам у бакавую наву) манах кармэліт намаляваў Найсвяцейшую Панну Марыю з Дзіцем і ... яблыкам, што злучае рукі Маці і Сына. Аднойчы пад вечар манах, які пісаў фрэску, пакінуў працу пад згасаючым небам, а раніцаю, узышоўшы на рыштаванні для таго, каб прадоўжыць справу, на вялікае здзіўленне, убачыў абраз завершаным — рыштаванні можна было здымаць...

З таго часу незлічоныя цуды, якія падараваў людзям абраз, зрабілі яго і месца «на Песках» надзвычай шанаваным сярод вернікаў — з усіх бакоў Рэчы Паспалітай ішлі пілігрымы, каб укленчыць перад іконаю Маці Божай Пескавай. Заступніцтва цудатворнага абраза прасілі і багатыя, і бедныя. І сярод саміх братоў кармэлітаў абраз шанаваўся не менш, чым іх галоўная святыня — Маці Божая Шкаплерная.

Гісторыя месца за старымі сценамі Кракава напоўненая неміласэрна-крывавым хаосам, але абраз нібы існаваў над чалавечай гісторыяй падчас войнаў, эпідэмій і ўсяго, што лічылася ня-

---

**Аркадзь ШПУНТ** — мастак-рэстаўратар вышэйшай катэгорыі. Нарадзіўся ў 1947 г. у Барысаве. Закончыў мастацкую вучэльню. Навучаўся прафесіі ў майстроў Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута рэстаўрацыі. Рэстаўраваў пінскі катэдральны касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, мінскую архікатэдру Імя Найсвяцейшай Панны Марыі, іншыя помнікі сакральнай архітэктуры і мастацтва. Аўтар аповесцяў-эсэ «Блики уходящего дня» (1989), «Момент нуль» (2000) і шэрагу сцэнарыяў дакументальных фільмаў. Працуе ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Жыве ў Мінску.

беснаю караю. Не крануўся абраза і агонь пажару, які знішчыў касцёл у 1578 годзе. А калі касцёл разбуралі шведы, не іначай як сапраўдны цуд спыніў іх перад сцяною з іконаю.

Каралева Бона па некалькі разоў на тыдзень малілася перад абразом і нарэшце загадала прыбудаваць да сцяны з выяваю Маці Божай Пескавай часовую капліцу, зрабіўшы пры гэтым ахвяраванне на срэбраныя кароны. Магчыма, сэрца італьянкі Боны Сфорца цягнула да іконы памяць пра яе радзіму, у жывапісе якой так шмат выяваў Мадонны з яблыкам... Хто ведае... але, дарэчы, пра кароны... На святых і цудатворных абразах яны сімвалізуюць асаблівую пашану і ўскладаюцца з благаслаўлення Папы Рымскага, аднак і гэта не ўратавала кароны, ахвяраваныя каралеваю, ад знікнення ў цемры часу. Паўторная каранацыя кракаўскага абраза павінна была адбыцца ў 1764 годзе пры Клімэнце XIII, які даў на гэта згоду, але яна чамусьці не адбылася. Кароны ж, якія можна ўбачыць і сёння, былі зроблены паводле эскізаў Яна Матэйкі і ўскладзены на святыню ажно ў 1883 годзе...



* * *

Навуковая рэстаўрацыя за 50 гадоў свайго існавання ўзбагацілася многімі тэорыямі, прынцыпамі і супярэчнасцямі. Паводле адной з іх, дастаткова элементарнай кансервацыі рэчы — стабілізацыі разбуральнага працэсу. Паводле іншых, хапіла б кансервацыі, выдалення позніх наслаенняў, аднаўлення стратаў палатна і грунту... Ва ўсялякім выпадку такія дзеянні не выклікалі б сумненняў у рэстаўрацыйнай рады, але, без сумнення, пазбавілі б абраз яго сутнасці. Дакладней, сталі б канчатковаю кропкаю ў лёсе пашкоджанага стратамі жывапісу абраза, які пасля гэтага можна змясціць у навукова-дапаможным фондзе музея — далей ад людскіх вачэй.

Мне вядомая толькі адна (у музеі старажытнабеларускай культуры пры ІМЭФ у Мінску) выява сюжэту, які ў Заходняй Еўропе называюць «Мадонна з яблыкам». Дык як жа было адмовіцца ад магчымасці з'яўлення падобнага сюжэту ў Нацыянальным мастацкім музеі? Як жа было не зрабіць спробу яго рэстаўрацыі? Кансервацыя і «разумовае» (як прапануецца адным з прынцыпаў рэстаўрацыі) аднаўленне стратаў падавалася не вельмі прымальным варыянтам, бо страта кончыкаў пальцаў на руках Божай Маці і Яе Сына абцяжарвала б «працу думкі» і спробу ўявіць, *што, каму і хто тут перадае.* Нагадаю, што з часу Адраджэння яблык у руках Дзіцяці Хрыста ўказвае на Збаўцу як на «новага Адама», а гранат з'яўляецца сімвалам яднання і адкуплення ва ўлонні Царквы. Яблык у руках Панны Марыі прэзентуе Яе як «новую Еву», якая выкупіла першародны грэх прамаці. І вось якраз гэты яблык ці, магчыма, гранат (а можа, апельсін) апынуўся ў зоне страты. Працей кажучы, на гэтым месцы палатна была дзіра — скразная да такой ступені, што ў яе вылецела і назва абраза, цягнучы за сабою ўвесь абраз.

Дарэчы, выявы яблыкаў сустракаюцца на помніках старажытнага Егіпта. Тым выявам усяго пяць тысяч гадоў, а самі яблыкі былі, відаць, ад стварэння свету. У Святым Пісанні не гаворыцца пра яблык, але з таго часу, як змеем было прамоўлена «адкрыюцца вочы вашыя, і будзеце, як Бог, які ведае дабро і зло», чамусьці менавіта яблык сімвалізуе спакушэнне і грэхападзенне. Гавораць, што ў заходняй хрысціянскай традыцыі гэта грунтуецца на падабенстве лацінскіх словаў «грэх» і «яблык». Можа, і гэтак. А як жа ў праваслаўнай? Зрэшты, у тыя часы «традыцыя» была яшчэ агульная?..

Плод Дрэва Пазнання мастакі малявалі і ў выглядзе яблыка, і граната, і апельсіна. Калі заглыбіцца ў мовы, то па-італьянску гэта — *melagrano* (яблык з зернем), па-галандску — *sinaasappel* (апельсін, або кітайскі яблык), па-нямецку — *apfelsine* (той жа яблык, і таксама кітайскі).

Кітай, безумоўна, не Эдэм, але ж таксама не блізка, а нязведаны пах і колер апельсіна сапраўды падаваліся ў заснежанай Еўропе здольнымі спакусіць жанчыну, тым больш... калі яна нічога ў жыцці не спазнала.

Увогуле ж плод (лац. *fructus*), як запэўнівае энцыклапедыя, — гэта кветка. Змененая ў працэсе двайнога апладнення, яна служыць органам для фармавання і захавання заключанага ў ёй семя. Міжволі думаеш: значыць Ева, створаная з рабра Адама, — гэта плод двайнога стварэння? Хіба Жанчына — не кветка, не плод, не орган раз-

мнажэння, «прыемны для вачэй і пажаданы»? І хіба яе цела не «fructus», што служыць і фармаванню, і абароне, і распаўсюджанню «семя»?

Немагчыма вымаліць цуд у дошкі з фарбавым слоем, немагчыма распазнаць у ёй цудатворны абраз, калі не ўмееш бачыць цуд у навакольным, у кожнай травінцы, у кожнай кветцы, у кожнай расінцы летняга ранку, у кожным плодзе, саспелым у свой час... Але гэта так, між іншым... і, напэўна, недарэчы ў размове пра аднаўленне страчанага жывапісу...

Рэканструкацыя на месцы страты выконвалася без уліку марфалагічных прыкметаў плода Дрэва Пазнання, бо, па-першае, яны невядомыя, а, па-другое... яны зноў-такі невядомыя. У выніку кончыкі пальцаў Панны Марыі і маленькага Хрыста паяднала нешта акруглае без усялякіх батанічных прыкметаў — прыблізна гэтак, як на абразе Маці Божай Пескавай з Кракава. Ці з мястэчка Бінарова, паблізу Кракава, дзе ў адным з алтароў бярвенчатага касцёла арханёла Міхала з XVI ст. таксама знаходзіцца абраз Маці Божай Пескавай, падобны да абраза са Старых Дзявяткавічаў настолькі, што бачнае іканаграфічнае супадзенне (яны падобныя нават па памеры).

Здаўна шанаваны бінароўскі абраз быў каранаваны ў 1767 годзе, усяго за 30 гадоў да пабудовы касцёла ў Старых Дзявяткавічах, а значыць, мог стаць узорам для пераймання невядомым майстрам са Слонімшчыны. Таму, відаць, і кароны з’явіліся на абразе са Старых Дзявяткавічаў раней, чым на каранаваным у 1883 годзе кракаўскім.

Дзявяткавічамі з 1677-га да 1939 года валодалі прадстаўнікі даўняга шляхецкага роду Слізняў. У 1979 г. пан Тадэвуш Слізень пабудаваў у Дзявяткавічах драўляны касцёл. Яму было па кішэні замовіць копію абраза ўпадабанай цудатворнай Маці Божай Пескавай. Магчыма, ён адразу ж упрыгожыў чаканным срэбрам шаты абраза, які падаўся яму не надта багатым...

У 1866 годзе дзявяткавіцкі касцёл перадалі праваслаўным вернікам — яго перабудавалі і назвалі царквою святой Параскевы. З гэтай царквы, зачыненай у 1964 годзе, 29-я экспедыцыя Дзяржаўнага мастацкага музея БССР вывезла абраз у срэбнай шаце — гэта было ў 1975 годзе.

...Выяву яблыка, хутчэй за ўсё, таксама закрывала пазалочаная накладка ў выглядзе плоду. Зрываючы з цвікоў бліскучую жалезку, вырвалі разам з палатном і жывапіс. І кароны знялі. Чаму не забралі шаты? Напэўна, таму, што юным піянерам (ці акцябратам) было не па сілах іх дзіцячымі пальчыкамі выцягнуць з дошкі цвікі. Дарослыя, вядома ж, панеслі б і шаты разам з жывапісам — срэбра, ды яшчэ пазалочанае, заўсёды было каштоўным металам (а можа, пабаяліся б...). Пра каштоўнасць для культуры тады амаль ніхто не думаў — яшчэ нядаўна і само жыццё нічога не каштавала...

Як бы там ні было, але не прайшло і 35-ці гадоў няволі ў музейным сховішчы, і алтарная карціна (палатно, алей, страты асновы і фарбавага слою па ўсёй паверхні, 64x54) лягла на стол рэстаўратара.

...На выставе «Вобраз Багародзіцы ў беларускім іканапісе» я не мог не згадаць нашы музейныя экспедыцыі 70-х па зачыненых касцёлах і цэрквах... Пры чым тут выстава? — запытаецеся вы. А пры тым, што ўсе рэчы на гэтай выставе былі прывезеныя з нашых экспедыцый. «Божа мой! — падумаў я, уваходзячы ў залу. — Колькі ж трэба было стварыць, каб, нягледзячы на татальнае знішчэнне сакральнага мастацтва, яшчэ захавалася штосьці, здольнае напоўніць выставачную залу гэткай разнастайнасцю, гэткай прыгажосцю, што так хораша ўздзейнічае на душу!» Выявы Божай Маці, напісаныя і ў каталіцкай, і ў праваслаўнай традыцыі, гарманічна суседнічалі на адной сцяне, і гэта таксама напаўняла душу ціхай, узвышанай радасцю.

У светлай зале, упрыгожанай выратаванымі іконамі і алтарнымі карцінамі, ператворанымі ў экспанаты, мне міжволі згадваліся прыцемкі драўлянай царквы, забітыя вокны, голыя сцены, апаганеныя алтары, іканастасы, што зеўралі чорнаю пустэчаю («мярзотнасць запусцення»)... і выпадкова забытая ці, можа, пакінутая (як не вельмі каштоўная) невялікая ікона на падлозе...

Быццам Медуніца няясная — кветка цяністага лесу — пад нагамі ляжала ікона. «Няясная», відаць, ад таго, што маленькая і някідкая, але, прыгледзеўшыся, убачыш на адным сцябле і чырвоны, і блакітны, і цёмна-ружовы, і валошкава-сіні колеры. Да запыленай дошкі з цьмяным жывапісам прыгледзеліся і... забралі ў музей.

Такія пакінутыя іконы мы знаходзім на заседжаных галубамі гарышчах, у званіцах, сырых падвалах, сярод хімічных угнаенняў, у гніллі сховішчаў гародніны.

...Гэтая ікона не ўражвала ні вытанчанасцю рамесніцтва, ні багаццем фарбаў, ні мудрагелістасцю кампазіцыі, але яна прыцягвала сваёю мілаю непасрэднасцю і разуменнем таго, што багамаз на адным дыханні ёмка і дакладна адлюстраваў убачанае ў сваім уяўленні. Нязграбны самаробны пэндзаль не даў мастаку выпісаць дэталі: ультрамарын пляскатага неба, жоўтая зорка, упертая промнем у саламяную страху хлява, адсутнасць адной з бярвенчатых сценаў дазвалялі зазірнуць унутр і падзівіцца ззянню ружовацелага Дзіцяці. Мяккае святло высвечвае сена, засяроджаныя вочы быка і асла, якія саграваюць Нованароджанага сваім дыханнем, схіленае да Сына аблічча Марыі,

здзіўлена пазіраючых на цуда-Дзіця сялянаў — магчыма, беларускіх, але чамусьці ў нейкіх іншаземных шапках, штанах да калена і паласатых панчохах... можа, і вешчуны пакуль у дарозе, але ўжо прыдуць з хвіліны на хвіліну... А можа, сяляне і ёсць тыя вешчуны, але дзе тады золата, ладан і смірна?

...У чым жа сакрэт абаяльнасці гэтых някідкіх выяваў, што змушаюць перажываць замілаванне? Можа, гэта веруючая душа мастака праявілася ў просценькім жывапісе? А можа, гэта якасць кожнага мастацтва, якое завецца народным? Але ж якое відавочнае знаёмства багамаза з прафесійным мастацтвам, з прыгожымі кніжнымі карцінкамі! Як дакладна ён схапіў і ўвасобіў усе прыкметы часу, як удала змясціў іх у сваім малярстве!

Мае роздумы пра «народнае» мастацтва больш маюць адносіны да запісу ўпершыню паказанай «Мадонны з яблыкам», але гэтага запісу ўжо ніхто ніколі не ўбачыць — пра яго можа сведчыць толькі фотафіксацыя «аб'екта» да рэстаўрацыі і аповед рэстаўратара. Пазбаўлены натхнення, як, зрэшты, усялякі запіс, ён быў зроблены «сонным пэндзлем» няўмелага і да таго ж скаванага неабходнасцю панаўлення мастака, які не мог праявіць сваёй самабытнасці, але, безумоўна, мог засвоіць прыкметы жывапісу, на якім ён дзеля панаўлення бессэнсоўна накрэсліў свой «беззаконны малюнак». Між іншым, ён мог запомніць тое, што замалёўваў, каб потым увасобіць у самастойным жывапісе...

Запіс амаль беспрасветна хаваў першасны жывапіс невялікага палатна — скамечанага, забруджанага, з абадранымі кромкамі, без падрамніка. Аднак, як скрозь туман, угадвалася выява Божай Маці з Сынам. Па ўсёй паверхні жывапісу было мноства прарываў, пацёртасцяў і стратаў фарбавага слою. Найбольшая страта палатна мелася ў самым цэнтры выявы...

У музеі фарбавы слой быў замацаваны, палатно нацягнутае на падрамнік, страта асновы залатаная ўстыч устаўкаю палатна. Запіс XIX ст. быў выдалены — расчысціўся жывапіс канца XVIII стагоддзя.

Такіх, здавалася б, «невысокага палёту» твораў у нас захавалася больш за ўсё. Яно і зразумела: калі рабаваць, то найлепшае, а сумніўнае можна і пад ногі кінуць — гэтак, відаць, ва ўсе часы разважаюць рабаўнікі. І — атрымліваецца — нямала рэчаў выратавалі для нашчадкаў менавіта запісы, якія скажалі арыгінал да жахлівага стану. Можна толькі ўявіць, колькі людзей з веку ў век, з дня ў дзень плакала перад «...цёплай Заступніцай халоднага свету», колькі каленяў схілялася перад Ёю ў просьбах, спадзевах, пакаяннях і ўдзячнасці. І тая адвечная намоленасць вяртаецца да людзей разам з адроджанымі святынямі.

...Аднаўленне страчанага і, найперш, сюжэтатворнай дэталі, дапамагло аднавіць аўтарскую задуму і сам Вобраз, які вельмі ж хацелася вярнуць, каб у Беларусі з'явілася яшчэ адна выява «Мадонны з яблыкам», аднак нам ніколі не даведацца, які ж плод быў першапачаткова намаляваны аўтарам: яблык — як сімвал грэхападзення і адкуплення ці гранат — як сімвал яднання ва ўлонні Царквы. Рэканструкцыя страты, зробленая ў адпаведнасці з аналагам, пазначана на іконе тэхнікай, якая выдзяляе для гледача адноўлены фрагмент жывапісу...

Вырашаючы свае навукова-рэстаўрацыйныя задачы, рэстаўратары (хто свядома, хто інтуітыўна) разумеюць, што дакранаюцца не толькі да разбуранай матэрыі (асновы, грунту, фарбавага слою і г. д.), але да чагосьці, што нельга ўзяць у рукі. Зрэшты, гэта можна сказаць і пра ўсе творы сапраўднай мастацкай вартасці, няхай сабе не сакральныя, але створаныя, як і ўсё прыгожае, не без удзелу Святога Духа.

Разуменне або адчуванне таго, што мы не муміфіцыруем, а менавіта адраджаем, напэўна, самае галоўнае ў наданні помнікам сакральнага мастацтва гэтак званага экспазіцыйнага выгляду. Святы вобраз не павінен ператварацца ў працэсе рэстаўрацыі ў помнік — дакумент гісторыі. Так думаю я, так лічыў і рэстаўратар алтарнага абраза Маці Божай Пескавай Аляксандр Лагуновіч-Чарапко, які не толькі даследаваў гісторыю «аб'екта», але яшчэ і ведае, як называецца яблык на розных мовах.

Зразумела, што іконаў і алтарных карцін у нашых святынях было ў сотні разоў больш, але дзе яны цяпер? Задумаўшыся, абавязкова ўзгадаеш пра геапалітычнае становішча і пра чужыя інтарэсы, ахвяраю якіх не раз была наша Бацькаўшчына, ператвораная ці то ў дарогу вайны, ці то ў зону эксперыменту па выкараненні ўласнай культуры...

Безумоўна, у параўнанні з узорамі высокага мастацтва жывапісу «Маці Божая з яблыкам» — твор прафесіянала «сярэдняй рукі». Але сакральных рэчаў захавалася так няшмат, што кожнай з іх, выбаўленай са схованкі і вернутай да жыцця рэстаўратарамі, нязменна здзіўляешся і радуешся. Магчыма, настане час, і нашу рэканструкцыю таксама выдаляць як запіс, але, выдаляючы, пераканаюцца ў тым, што аўтарскі слой жывапісу замацаваны і не пашкоджаны, а рэканструкцыя страчанага і таніроўкі жывапісу зроблены выключна ў межах стратаў і іх можна без шкоды для арыгінала перарабіць у любы час, калі раптам падасца, што можна зрабіць лепш або інакш... у адпаведнасці з якімі-небудзь найнавейшымі прынцыпамі, што надаюць рэстаўрацыі яшчэ большую навуковасць...

# ДОЎГАЧАКАННАЯ КНІГА...




*Леанід Галубовіч. З гэтага свету: вершы пасля вершаў. — Мінск, — Кнігазбор, 2012. — 108 стар.*

Гэтую кнігу чытачы чакалі доўгіх дванаццаць гадоў. Роўна столькі часу прайшло з таго дня, калі паэт Леанід Галубовіч публічна, у радыёэфіры, пакляўся больш ніколі не пісаць вершаў. Тады гэтую навіну абмяркоўвала ўся літаратурная супольнасць: а вы чулі?.. ды кіньце вы — будзе пісаць, куды ён дзенецца... вось да чаго даводзіць абсалютна цвярозы лад жыцця... Калегі і са спачуваннем выказваліся, і дасціпнічалі, і кепікі строілі. Што ж, на чужыя вусты не накінеш хусты... Але ўсе, хто любіў Галубовіча-паэта і меў у сваіх кнігазборах яго выдатныя зборнікі «Таемнасць агню» і «Закладнік цемры», чакалі, што ён парушыць сваё ж слова, не стрывае працяглага маўчання...

Чакалі і прычакалі... зборніка пад назовам, які гучаў развітальна, як эпітафія — «апошнія вершы леаніда галубовіча». І тут усе зразумелі, што паэт не жартаваў. Бо адна справа — сказаў і забыўся, і зусім іншая — напісаў, ды яшчэ на вокладцы. Быццам распісаўся і пячатку паставіў. І паэту нарэшце паверылі.

І Леанід Галубовіч трымаўся колькі мог. За дванаццаць гадоў у друку не з'явілася ніводнага ягонага верша. З'яўляліся папулярныя ў чытачоў západ... цемкі, эсэ, рэцэнзіі. Паэт заняўся складальніцкай працай — сабраў і выдаў спадчыну Міколы Купрэева і Васіля Гадулькі. І вось, калі амаль дарэшты звялося і так нешматлікае племя аматараў паэзіі (чаму звялося — гаворка асобная), беллітсвет абляцела новая нечаканая навіна — Галубовіч выдаў новы зборнік вершаў. Прычым — не друкаваных у перыёдыцы, што само па сабе ўспрымаецца як невялічкае дзіва. Сенсацыйна адышоў ад паэзіі, сенсацыйна вярнуўся — такім чынам можна сёння патрактаваць учынкі Леаніда Галубовіча, хоць ён і не любіць шуму вакол свайго сыходу-прыходу. Але — «не дадзена прадбачыць нам, як наша слова адгукнецца...». На нядаўняй прэзентацыі доўгачаканай кнігі ў сталічным Музеі гісторыі беларускай літаратуры выступоўцы — усе да аднаго! — найперш гаварылі пра маўчанне Галубовіча, нібы забыўшыся, што сабраліся зусім з іншай нагоды. Міжволі складвалася ўражанне, што паэтава маўчанне — больш дарэчная і актуальная тэма для нашай беларускай рэчаіснасці, чым ягоная — любая — прамова.

Але пра маўчанне ды ягоныя прычыны хай разважае нехта іншы. Для мяне ж дванаццаць маўклівых гадоў Леаніда Галубовіча — усяго толькі перапынак дзеля назапашвання новай крытычнай масы паэтычнай энергіі. У кагосьці з творцаў гэты перапынак цягнецца дзень-два, а ў кагосьці — на гады расцягваецца. А што паэтычная творчасць — самы энергазатратны літаратурны жанр, для мяне гэта бясспрэчна. Дык вось, усё залежыць ад колькасці выдаткаванай энергіі — хтосьці яе фармацэўтычным пінцэтам адмервае, а хтосьці — спальвае яе дастатку, ні трошкі не пакідаючы на заўтрашні дзень. Прыгадайма — і Янка Купала на гады замаўкаў, і Аркадзь Куляшоў, і Анатоль Сыс...

«Чем продолжительней молчанье, тем удивительнее речь», — гэта, здаецца, прызабыты сёння Мікалай Ушакоў. Вынік працяглага маўчання Леаніда Галубовіча — кніга «З гэтага свету» — перад намі. Прычым гэта менавіта кніга паэзіі, кампазіцыйна прадуманая, падзеленая на тэматычныя цыклы пад вылучна займеннікавымі загалоўкамі: *Нада мною — Пра мяне — Са мною — У маіх — Маё — Мае — Мая*. І гэта невыпадковыя назвы, бо перш чым аддаць, паэт павінен спачатку ўсё прыўласніць. Пералічаныя «эгацэнтрычныя» загалоўкі — як абручы на дыхтоўна збітай бочцы, каб вершы-клёпкі не рассыпаліся. І яны насамрэч стаяць па сваіх месцах трывала. Але вось што дзіўна (прынамсі, для мяне): вершы згуртаваныя ў цыклы, але кожны з іх — самадастатковы, не патрабуе перагуквання з «суседам». Можа быць, тут больш дарэчнае другое параўнанне — вершы ў кнізе «З гэтага свету» нагадваюць сселеныя ў адну вёску хутары. Кожны хутар і ў вёсцы працягвае жыць сваім жыццём — у яго свая гаспадарка і свае традыцыйныя звычаі, якія не супярэчаць агульным. А агульнымі для былых хутаранцаў былі не толькі ваколіцы, але і могілкі. З гэтага гледзішча вельмі характэрны для новай кнігі верш «Дом пры могілках», дзе знікае мяжа паміж гэтым і тым светам і так проста працягваецца супольнае суіснаванне і сумоўе між тымі, хто т а м, і тою, якая т у т.

*Да могілак глухой сцяной*
*Стаіць хаціна Маніна.*
*Там ноччу спіць яна спіной*
*Да ўсёй радзіны мамінай.*
*Яе суседзі тут даўно*
*Для ўсіх жывых — нябожчыкі,*
*А Маня ім штодня ў акно*
*Пастукае-пабожкае.*
*То міскай бразне, то вядром,*
*То пілкай, то матыкаю...*
*І па ваду ідзе з Пятром,*

*А з граблямі — з Мікітаю.*
*Капае з Янам агарод,*
*З Іллёй жыты прарошчвае,*
*Смяецца з Паўлам цераз плот,*
*З Платонам плача роспачна...*

Аўтар назірае за сваёй гераіняй, можна сказаць, з зацікаўленай прыхільнасцю — пастукацца і дастукацца на той свет з гэтага не кожнаму дадзена. А мне таксама было цікава, як паэт завершыць сваю канстатацыю жыцця на памежжы, ці знойдзе ён той заключны акорд, які не абразіць насельнікаў таго свету і не прынізіць ironiяй жыхарку гэтага. Без такога акорду верш страчваў бы сваё высокае экзістэнцыйнае гучанне. І акорд — патрэбны і неабходны — аўтарам быў шчасліва знойдзены. Знойдзены на тых самых могілках,

*Дзе муж не можа ўсё заснуць,*
*Пільнуючы хвіліну,*
*Каб дом нарэшце свой замкнуць,*
*Забіць, як дамавіну...*

Эсхаталагічны дыскурс кнігі «З гэтага свету» істотна дапаўняецца паэтычным цыклам, прысвечаным памяці Маці. Па пранізлівасці гучання, па спавядальнасці інтанацыі мне хочацца параўнаць яго са знакамітым барадулінскім цыклам «Бяроза з лістам гаварыла», прысвечаным памяці Куліны Андрэеўны Барадулінай. У Галубовічавым цыкле найлепшыя вершы — «Маміна хата» і «Пасля саракавін». Сыноўскі смутак стаў паэтычнымі радкамі, якія не сорамна прачытаць і над дарагой магілай...

Пасля шматгадовага расстання людзі прыглядаюцца адзін да аднаго, заўважаючы змены не толькі ўзроставыя. Карцела і мне, зазірнуўшы пад стракатую вокладку новай кнігі Леаніда Галубовіча, даведацца, ці змяніўся ён як паэт, бо змены за прамінулыя дванаццаць гадоў адбыліся грандыёзныя, у тым ліку і ў літаратурнай прасторы. З'явіліся інтэрнэт-часопісы і цэлыя інтэрнэт-бібліятэкі, паэтычныя вечарыныператварыліся ў пэрформансы і слэм-паядынкі, вершы цяпер нярэдка пішуцца без рыфмы і рытму (а часам і без сэнсу) і публікуюцца без усякага рэдагавання на ўласных сайтах. Ёсць ад чаго раз-згубіцца (і двазгубіцца) сучаснаму чытачу. Вось і трывожыла мяне думка пра тое, як усе гэтыя рэвалюцыйныя змены перажыў Галубовіч. Прачытаўшы новую кнігу, я з палёгкай уздыхнуў: паэт на слэмгалавы не пабег за навеяўленай модай. Памудрэў — так, стаў больш лаканічным — несумненна. Але са свайго шляху не збочыў і са сваёй нетаропкай хады не збіўся.

Здаецца, у рамане Жуля Верна «Падарожжа на Месяц» грамадка авантурыстаў задумала стрэлам з велізарнай гарматы змяніць арбіту Зямлі, каб такім чынам ямчэй сягнуць на зямны спадарожнік. Усчаўся вялікі гармідар — хтосьці ўзяўся дапамагаць авантурнікам, хтосьці чакаў канца свету. І толькі адзін фізік спакойна сядзеў у сябе дома, бо зрабіў дакладныя разлікі і ведаў, што аніякім стрэлам арбіту Зямлі не зменіш... Вось і Леанід Галубовіч нагадвае мне таго разважлівага фізіка — ён таксама сёе-тое разлічыў і за будучыню сваёй «планеты» спакойны.

Два гады таму на ягонай літаратурнай вечарыне ў клецкім раённым Доме культуры я трошкі паэксперыментаваў: пачынаў з памяці чытаць верш Галубовіча і ўдавана «забываўся». Напрыклад: *«І раптам скажа дзед які // з развагай аналітыка...»* І тут жа з залы нехта падказваў: *«Хлеб трэба сеяць, мужыкі, // без хлеба — дрэнь палітыка»*. Альбо — верш пра бабулю Алімпіяду, якая *«стаіць у двары як вечнае, // нібыта душа сама...»* І слухачы імгненна давершвалі: *«І сонца яе прасвечвае, // і цэню яе няма»*. Пагадзіцеся — гэта пра многае гаворыць.

Слынны наш мовазнавец і пісьменнік Фёдар Янкоўскі намагаўся ў свой час скласці слоўнік пісьменніцкіх афарызмаў, якія шырока разышліся ў народзе, па сутнасці сталі народнымі. Перагарнуў «гімалаі» кніг, а слоўнічак у выніку атрымаўся зусім невялічкім. І хто ў тым вінаваты — пісьменнікі, патрабавальны складальнік ці народ, я не бяруся вызначыць і сёння. З тае пары мінула паўстагоддзя, а ніхто не адважыўся дапоўніць слоўнік крылатых выразаў Ф. Янкоўскага. Афарызмы пісьменніцкія з'яўляюцца, але ці знаходзіць іх народ? І ці знаходзяць яны — народ?

Вось калі яны сябе ўзаемна адшукаюць, будучыя айчынныя лексікографы складуць новы шматтомавы слоўнік. І безліч аўтарскіх афарызмаў для таго слоўніка знойдзецца ў кнігах Леаніда Галубовіча, у тым ліку і ў вершах «З гэтага свету». Вось яны, пазбаўленыя слоўнай лішніцы, ёмкія чатырохрадкоўі:

*Агонь — і агмень, і геена.*
*Вада — і крыніца, і вір.*
*І сам чалавек — пераменна —*
*То гліна жывая, то жвір...*
*
*А той і гэты свет*
*Не адгародзіш строга,*
*Як Новы Запавет —*
*Старонкай — ад Старога.*

Ясна, выразна і дакладна, а значыць — афарыстычна. Дзякуй паэту за яго нешматслоўнасць, за выгайданыя ў калысцы маўчання, ужо не падуладныя хваробам росту вершы. Іх нібыта і няшмат, але — дастаткова, бо *«ведай, болей, чым імгненне, не прыме вечнасць ад цябе»*. Гэтыя стральцоўскія радкі апошнім часам успамінаюцца мне ўсё часцей.

«З гэтага свету» — кніга не толькі доўгачаканая, але і доўгачаканная. Доўга чаканіў Леанід Галубовіч свае новыя творы. Нарэшце дачаканіў — на радасць чытачам, якія дачакаліся.

*Міхась СКОБЛА*

**Міхась СКОБЛА** — паэт, журналіст, даследчык літаратуры. Нарадзіўся 23 лістапада 1966 г. на хутары каля мястэчка Дзярэчын Зэльвенскага раёна. У 1991 г. закончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Выдаў зборнікі паэзіі «Вечны Зьніч» (1990), «Вочы Савы» (1994),«Нашэсьце Поўні», кнігу літаратурных пародыяў «Розгі ў розьніцу» (1993), зборнік вершаў для дзяцей «Камень-перунок» (1998), кнігу гістарычных нарысаў «Дзярэчынскі дыярыюш» (1999). Укладальнік анталогіі беларускай паэзіі XX ст. «Краса і сіла» (2003), шматлікіх твораў класікаў нацыянальнай літаратуры ў серыі «Беларускі кнігазбор», анталогіі перакладаў сусветнай паэзіі XX ст. на беларускую мову «Галасы з-за небакраю» (2008) і інш.

Аляксей Яроменка

# КАТАЛІЦКІЯ СВЯТЫНІ АСТРАВЕЧЧЫНЫ



Дамініканскі касцёл у Астраўцы. Фота 1890-х гг.

**Астравец, цэнтр дэканата**

Цікава, што першае ўзгадванне ў пісьмовых крыніцах аб паселішчы Астравец зафіксавана менавіта ў дакументах аб заснаванні мясцовай каталіцкай парафіі, калі ў 1468 г. (1458г. ?, 1466г. ?) наваградскі староста Марцін Гаштольд зафундаваў тут касцёл, які і быў асвечаны пад тытулам святых Космы і Дам'яна. А ўжо праз некалькі гадоў, у 1474 г., пры касцёле распачалі сваю дзейнасць дамініканe. Такім чынам, менавіта з Астраўца, паколькі гэта была першая місія ордэну на землях Беларусі, пачынае сваю прысутнасць у нашай краіне старажытны ордэн братоў-прапаведнікаў.

З 1546 г. Астравец атрымаў статус мястэчка ў Віленскім ваяводстве Вялікага Княства Літоўскага. Да XX ст. мясцовая парафія ўваходзіла ў Ашмянскі дэканат Віленскай дыяцэзіі, а з 1905 г. разам з парафіямі Быстрыца, Варняны, Гервяты, Гудагай, Міхалішкі і Цудзенішкі — у Віленскі дэканат. З 1925 г. усе гэтыя парафіі ўвайшлі ў склад наваўтворанага Варнянскага дэканата. З 1991г. Астравец – цэнтр аднайменнага дэканата, межы якога амаль цалкам супадаюць з межамі Астравецкага р-на і які складаецца з 13-ці парафій: Астравец (2 парафіі), Быстрыца, Варняны, Гервяты, Градоўшчына, Гудагай, Дайлідкі, Жукойні Жалядзкія, Кемелішкі, Клюшчаны, Міхалішкі і Вялікія Свіранкі.

У 1795 г. Астравец з астатняй часткай Рэчы Паспалітай, пасля апошняга, 3-га падзелу, увайшоў у склад вялізнай Расійскай імперыі. У тыя часы гэта было невялікае мястэчка спачатку Віленскага, потым Ашмянскага павета Віленскай (у 1797–1801 гг. Літоўскай) губерні. І ў хуткім часе, як і шмат дзе ў нашай краіне, пачаліся рэпрэсіі ў адносінах да Касцёла. У 1832 г., як і шматлікія іншыя каталіцкія святыні пасля Лістападаўскага паўстання, у Астраўцы быў ліквідаваны дамініканскі кляштар. Касцёл надалей дзейнічаў як парафіяльны, аднак на хвалі рэпрэсій пасля паўстання К. Каліноўскага зачынілі і яго, пераабсталяваўшы ў 1866 г. пад праваслаўную царкву.

Амаль паўстагодзя мясцовыя католікі не мелі ўласнай святыні. Толькі пасля маніфесту 1905 г. апошняга расійскага імператара Мікалая ІІ аб свабодзе веравызнання з'явілася магчымасць ізноў аднавіць рыма-каталіцкія набажэнствы, будаваць новыя святыні. І ў 1911 г. у Астраўцы паўстаў новы касцёл у гонар Узвышэння Святога Крыжа, а ў 1918 г., католікам нарэшце быў вернуты і старажытны па-дамініканскі касцёл.

Абедзве парафіі дзейнічалі да часоў савецкай улады, калі касцёл Узвышэння Святога Крыжа быў зачынены. Касцёл жа святых Космы і Дам'яна працягваў працаваць, як і некалькі іншых касцёлаў на тэрыторыі раёна, часам без уласнага пробашча — у Быстрыцы, Гервятах, Гудагаі, Міхалішках і Жукойнях Жалядзкіх.

З 1940 г. Астравец атрымаў статус цэнтра раёна Гродзенскай вобласці, а з 1958 г. стаў гарадскім пасёлкам.

Напрыканцы 1980-х гг. пачалося адраджэнне парафіяльных структураў і на Астравеччыне. Сёння ў Астраўцы зноў функцыянуюць абедзве парафіі.

---

**Аляксей ЯРОМЕНКА** — архітэктар, даследчык архітэктуры. У 1989 г. скончыў архітэктурны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута. Працаваў у ВА «Белрэстаўрацыя», ДПІ «Мінскпраект», творчых майстэрнях пры Саюзе архітэктараў РБ. Лаўрэат міжнародных і рэспубліканскіх архітэктурных конкурсаў. Большасць работ зроблена ў галіне культавага дойлідства, рэстаўрацыі і рэканструкцыі сакральных аб'ектаў. Аўтар праектаў культавых збудаванняў у Бабруйску, Бараўлянах, в. Браздзечына, Мінску, Слуцку, в. Цэнтральнай і інш. Займаецца выяўленнем і фіксацыяй руінаў раней не даследаваных культавых аб'ектаў. Жыве ў Мінску.



Галоўны алтар у астравецкім дамініканскім касцёле.
Фота А. Яроменкі.

З 1996 г. святарам тут дапамагаюць сёстры эўхарысткі.

**Касцёл святых Космы і Дам’яна і кляштар дамініканаў**

Першая каталіцкая парафія ў Астраўцы была заснавана ў 1466 г. (1458 г. ?), у 1468 г. упасажана фундацыяй Марціна (Ежы — ?) Гаштольда, старосты наваградскага і «дзедзіча на Геранёнах». Драўляны касцёл быў кансэкраваны пад тытулам святых Космы і Дам’яна, і апекаваліся святыняй манахі дамініканe. У 1474 г. дамініканін бр. Мілковіч заснаваў пры касцёле (дакладней, перадаў пад патранат — *destinata*) кляштар дамініканаў — так пачалася самая ранняя місія ордэну на беларускай зямлі (паводле іншых звестак, у 1474 г. браты Багдан, Юшка і Ян Міткавічы толькі павялічылі першапачатковы фундуш). У 1616–1618 гг. магнат Ян Мікалай Корсак і ягоная жонка Алена з Гнаінскіх, тагачасныя ўладальнікі мястэчка, пабудавалі ўжо каменны касцёл. А праз некалькі дзесяцігоддзяў, у сярэдзіне XVII ст., астравецкая святыня ўжо мела статус нават Марыйнага санктуарыя. У канцы XVIII ст. у кляштары жылі і працавалі 17 манахаў, дзейнічала школа, да астравецкай парафіі належала капліца ў Дубнічках.

Падчас «маскоўскага нашэсця», жудаснай вайны 1654–1667 гг., дамініканскі кляштар быў цалкам знішчаны маскоўскімі казакамі, і ў канцы XVII ст. касцёл ізноў узгадваецца як драўляны. Паводле іншых звестак, толькі падчас адраджэння Косма-Дам’янаўскага касцёла пасля той вайны, у 1684 г., суддзя ашмянскі Корсак і «асадзіў» дамініканаў.

Так ці інакш, але ў 1785–1787 гг. замест драўлянага касцёла дамінікане на сродкі пана Гілярыя Цішэўскага пабудавалі новую велічную каменную святыню. Звычайна лічылася, што ў стылі класіцызму, аднак дакладней яго можна акрэсліць як «станіславаўскі класіцызм», бо стыль барока яшчэ чытаецца ў слаістасці пілястраў і «філяраў», шматпрофільнасці гзымсаў, сандрыках, праёмах і іншых элементах дэкору. Касцёл выращаны адзіным прамавугольным аб’ёмам пад 2-схільным дахам. Спачатку, магчыма, ён меў 2 вежы. Галоўны ўваход пазначаны 4-калонным іанічным порцікам. Інтэр’ер падзелены 4-ма, квадратнымі ў сячэнні, калонамі-«філярамі» на тры навы, сёння тут змешчаны 5 алтароў: галоўны — тытульны — святых Космы і Дам’яна, св. Антонія і Маці Божай Гудагайскай у левай наве і св. Тэклі і Маці Божай Вастрабрамскай у правай, яшчэ 2 алтары ўсталяваныя пры сценах святыні. Цэнтральная нава, перакрытая цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, пераходзіць у прэзбітэрый, які фланкуюць дзве 3-павярховыя сакрыстыі, канструктыўна звязаныя з бочнымі навамі, перакрытымі крыжовымі скляпеннямі.

У 1832 г. царскія ўлады ліквідавалі кляштар дамініканаў, а касцёл застаўся дзейнічаць як парафіяльны, але нядоўга — пасля 1864 г. зачынілі і яго, перадаўшы будынак у праваслаўнае ведамства. Тады ж і пачалася перабудова старажытнай святыні ў рэтраспектыўна-рускім стылі — за два гады святыні надалі «царкоўны выгляд», надбудаваўшы паўсферычны глухі купал над цэнтрам даха і змяніўшы верхні ярус галоўнага фасада. Унутры былі разабраныя алтары і з’явіўся іканастас, 12-галасавыя арганы былі перавезеныя ў касцёл у Гервятах. Аднačасова з касцёлам была зачыненая і капліца ў Дубнічках.

У 1918 г. храм быў вернуты каталіцкай супольнасці мястэчка, у 1920-я гг. святыні ізноў спрабавалі вярнуць касцёльны выгляд — быў разабраны купал, ізноў зменены дэкор шчыта над галоўным фасадам — цяпер у стылі неакласіцызму. Касцёл дзейнічае і сёння. У 1970-я гг. ён атрымаў статус помніка архітэктуры, аднак першапачатковы выгляд яму пакуль што не вернуты.

**Касцёл Узвышэння Святога Крыжа**

З 1864 г., пасля ліквідавання парафіі святых Космы і Дам’яна, астравецкія каталікі доўгі час не мелі ўласнай святыні. Але, як толькі з’явіўся талерантны маніфест 1905 г., мясцовыя вернікі адразу ж пачалі шукаць магчымасці пабудаваць новы касцёл і ў 1910 г. ужо ўзводзілі яго на паўднёвай ускраіне мястэчка, па дарозе на Ашмяны, насупраць каталіцкіх могілак. Праз год, у 1911 г., касцёл, пабудаваны ў неараманскім стылі і цалкам на сродкі парафіянаў, быў асвечаны пад тытулам Узвышэння Святога Крыжа.

Касцёл мае выгляд 3-нававай базылікі з жоўтай вонкавай цэглы, з трансэптам і 2-ма сакрыстыямі пры 5-граннай апсідзе. Галоўны фасад з акном-ружай завершаны трохвугольным франтонам з паўцыркульнымі нішамі; будынак фланкуюць 2 вежачкі, аднак яны нізкія, што робіць выгляд касцёла як бы бязвежавым. Сцены святыні дэкараваны ступенчатымі контр-





Астравец, касцёл Узвышэння Святога Крыжа.
Фота А. Яроменкі.

форсамі, аркатурнымі паясамі, нішамі-экседрамі, прафіляванымі гзымсамі. Інтэр'ер, перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі, упрыгожваюць 3 алтары: галоўны з разьбяным Укрыжаваннем, левы бочны — Божай Міласэрнасці з абразом св. Фаўстыны над ім і правы — св. Антонія з абразом св. Яна Хрысціцеля і абразом Сэрца Найсвяцейшай Панны Марыі над ім. Над уваходам зроблены хоры.

Касцёл дзейнічаў да Другой сусветнай вайны, але пры савецкай уладзе быў зачынены, перароблены ў сховішча і, нягледзячы на гэта, аб'яўлены помнікам архітэктуры. Толькі ў 1994 г. святыня была вернутая каталіцкай супольнасці і пасля рэстаўрацыі зноў дзейнічае, цяпер як філіяльны касцёл астравецкай парафіі.

**Вёска Быстрыца.** Менавіта тут, у Быстрыцы, пасля Крэўскай уніі быў заснаваны адзін з першых пяці касцёлаў на тэрыторыі Беларусі. У 1390 г. на маляўнічым узвышшы над ракой Віліяй была ўзведзеная святыня, асвечаная пад тытулам Узвышэння Святога Крыжа. Заснавальнікам парафіі і фундатарам касцёла стаў сам кароль Уладзіслаў Ягайла. Адначасова пры касцёле быў заснаваны кляштар канонікаў рэгулярных (братоў ад пакуты св. мучанікаў), ці, як яшчэ іх называлі, — «белых аўгустынаў». Аднак манахі тут былі толькі да 1526 года. Чаму яны пакінулі Быстрыцу, пакуль невядома: паводле некаторых звестак — з загаду караля, які быў не задаволены паводзінамі законнікаў у Быстрыцы. Не зусім зразумелым пакуль з'яўляецца і згадванне ў Быстрыцы ў 1507 г. «малога дому» трокскіх бэнэдыктынаў.

Звесткі пра заснаванне мясцовага касцёла і з'яўляюцца першаю згадкаю пра Быстрыцу ў архіўных крыніцах. У 1526 г. быстрыцкая парафія была прыпісаная да віленскай суфраганіі. Паводле іншых крыніцаў, менавіта ў 1526 г., пасля сыходу законнікаў, і была заснаваная быстрыцкая парафія. З 1537 г. Быстрыца мела ўжо статус мястэчка, цэнтра воласці і з'яўлялася некаторы час нават рэзідэнцыяй віленскага ваяводы. У XVII–XVIIIстст. — цэнтр староства Бжастоўскіх.

Першапачаткова ўсе каталіцкія святыні ў Быстрыцы былі драўляныя, а новы каменны парафіяльны касцёл быў пабудаваны ў 1523 г. па фундацыі караля Жыгімонта I Старога і кансэкраваны ў 1530 годзе. У 1761 г. святыня была (*ampilata* — пашырана) рэканструяваная ў стылі барока, мяркуюць, што ў гэтых працах прымаў удзел знакаміты архітэктар віленскага барока Ян Крыштаф Глаўбіц. У хуткім часе адноўленую святыню рэкансэкраваў біскуп Зяньковіч.

Касцёл мае выгляд залавага, 2-вежавага будынка з 5-граннай апсідай і адной сакрыстыяй пры ёй. Дах 2-схільны, з вальмамі над прэзбітэрыем. Інтэр'ер, перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі на падпружных арках з распалубкамі над вокнамі, упрыгожваюць 3 барокава-ракайлевыя алтары: галоўны і бочныя, левы — Маці Божай Шкаплернай, правы — у гонар Хросту Пана Езуса. Галоўны алтар вырашаны ў выглядзе трыфорыума, цэнтр якога займае абраз Маці Божай Вастрабрамскай, злева змешчана фігура св. Юзафа, справа — св. Антонія. Кампазіцыю ўвенчвае разьбянае Укрыжаванне.

Спачатку быстрыцкая парафія ўваходзіла ў склад Свірскага дэканата, у XIXст. — Віленскага павятовага, з 1921 г. — Варнянскага Віленскай дыяцэзіі, з 1991 г. — Астравецкага дэканата Гродзенскай дыяцэзіі. Да быстрыцкай парафіі ў свой час належалі капліцы ў **в. Вайдацішкі і в. Слабодка.**

Пасля паўстання пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага касцёл, як і шмат іншых каталіцкіх святыняў, быў зачынены і ў 1865 г. перааабсталяваны пад праваслаўную царкву. Знешне пры перабудове храм не страціў касцёльнага выгляду, калі не лічыць з'яўленне над вежамі і дахам цыбулепадобных галовак, таму рэканструкцыя касцёла не была





Касцёл у вёсцы Быстрыца. Фота А. Яроменкі.

складанай — у 1918 г. храм быў вернуты католікам, а ў 1926 г. (калі пробашчам быў прэлат кс. Уладзіслаў Бжастоўскі) віленская фірма Аляксандра Стамброўскага вярнула вежам барокавы выгляд, пра што сведчыць закладная пліта ў правай вежы. Перад Другой сусветнай вайной колькасць мясцовых парафіянаў складала больш за 3000.

Касцёл Узвышэння Святога Крыжа выстаяў і ў ваенныя гады, і ў бязбожныя дзесяцігоддзі савецкай улады, толькі з 1965 г., пасля смерці кс. Клеменса Лікшты, у ім не было пастаяннага пробашча. У 1970-я гг. святыні быў нададзены статус помніка архітэктуры. З 2000 г. у парафію быў прызначаны пробашч – кс. Уладзіслаў Гжэгорэк, які пабудаваў новую плябанію, а тэрыторыю вакол будынка ператварыў у квітнеючы сад.

На захад ад вёскі, па дарозе на в. Петраполле, у сярэдзіне 1990-х гг., тагачасны пробашч парафіі Здзіслаў Пікула разам з парафіянамі аднавіў капліцу над крыніцай. Месца гэтае лічылася святым яшчэ з даўняга часу, а 3 мая 1921 г. над крыніцай усталявалі мемарыяльны камень у гонар 130-годдзя Канстытуцыі Рэчы Паспалітай, аб чым і сёння сведчыць надпіс на ім. Побач узвялі драўляную каплічку, але пры савецкай уладзе яна была знішчаная. Цяпер святыня пабудавана з сілікатнай цэглы і накрыта 2-схільным дахам з заломам, побач – высокі драўляны крыж і лаўкі для вернікаў. Асвечана капліца пад тытулам св. Яна Хрысціцеля.

**Вёска Вайдацішкі.** Тут у фальварку Корсакаў у 1769 г. (тады фальварак належаў смаленскай харунжыне Корсакавай) была «ўзнесена» капліца ад быстрыцкай парафіі. Хутчэй за ўсё, святыня была пабудавана з дрэва. Скасавалі яе разам з быстрыцкай парафіяй, на хвалі рэпрэсіяў пасля паўстання 1863 г.

Сёння аб старажытнай святыні мясцовыя жыхары ўжо нават і не ўспамінаюць, але на ўсход ад вёскі, каля паварота на в. Навасады, на ўзвышшы захаваліся невялікія могілкі, дзе магчыма знайсці руіны каплічкі (надмагілле ці прыдарожная) XIX ст. Гэта было цэнтрычнае, квадратнае ў плане (2 х 2 х 3, 5м) збудаванне з атынкаванай цэглы.

**Вёска Слабодка.** Аб мясцовай святыні звесткі вельмі супярэчлівыя: паводле адных — калісьці тут нават быў касцёл ад варнянскай парафіі, паводле іншых — гэта была капліца быстрыцкай парафіі пад тытулам Маці Божай Ружанцовай (14, 17).

Так ці інакш, пасля закрыцця касцёла ў Быстрыцы ў 1865 г. капліца ў Слабодцы была адпісана да варнянскай парафіі. Драўляная святыня Зачацця Найсвяцейшай Марыі Панны згадвалася тады на мясцовых могілках як невядома кім і калі пабудаваная.

У XX ст. звестак пра капліцу адшукаць не ўдалося.

**Літаратура і крыніцы**

1. Архітэктура Беларусі. Энцыклапедычны даведнік. — Мінск, 1993.
2. А.М.Кулагін. Каталіцкія храмы на Беларусі. — Мінск, 2000.
3. Памятная книжка виленского генерал-губернаторства на 1868 г. под ред. А. М. Сементовского. — Спб, 1868.
4. A. Hlebowicz. Kościół w niewoli. — Warszawa. 1991.
5. Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. — Мінск, 1985–1988.
6. Studia z historii Kościoła w Polsce. Tom V. Ks. Tadeusz Krahel. «Historiografia (Archi)Diecezji Wileńskiej do 1939r.». Akademia Teologii Katolickiej. — Warszawa, 1979.
Studia teologiczne (Białystok, Drohiczyn, Łomźa). 5-6 / 1987–1988. «600 lat (Archi)Diecezji Wileńskiej».
Białystok, 1987. Ks. Jozef Mandziuk. «Zakony w (Archi)Diecezji Wileńskiej».
7. Калекцыя фотаздымкаў канца XIX – пач. XX ст. з аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. BAN 23-2-24.
8. Кушнярэвіч А. М. Культавае дойлідства Беларусі XIII–XVI стст. — Мінск, 1993.
9. Rouba N. «Przewodnik po Litwie i Bialejrusi». wyd. III. — Wilno. 1908.
10. Jan Kurczewski. «Biskupstwo Wileńskie». — Wilno. 1912.
11. Порядок богослужения для духовенства римско-католического исповедания Виленской Епархии на 1878 г., 1885 г., 1895 г., 1929 г., 1937 г.
Rocznik informacyjny diecezji Grodzieńskiej. — Grodno, 2005.
12. Наша вера: Юры Туронак. «Фарміраваньне сеткі рыма-каталіцкіх парафій на Беларусі ў 1387–1781 гг.», 1, 1995 г.
Тамара Габрусь. Святыні ордэна прапаведнікаў. 3, 4, 2003 г., 1, 2004 г.
13. Ochmański J. Biskupstwo Wileńskie w średniowieczu: Ustrój i uposaźenia. — Poznań. 1972.
14. Słownik Geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T 1-14. — Warszawa. 1880.
15. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. — Мінск, 1994–2001.
16. «Materiały do dziejów sztuki sakralnej na ziemiach wschodnich dawnej Rzeczypospolitej». Redaktor naukowy serii Jan K. Ostrowski, redakcja naukowa Maria Kałamajska-Saeed: Część III. «Kościoły i klasztory rzymskokatolickie dawnego województwa Wileńskiekiego». Tom 1. — Kraków, 2005.

## CONTENTS

This issue offers to readers excerpts from the sermon of John Paul II («*Blessed by the Cross*»), which were preached during the solemn St. Mass on the occasion of the canonization of Edith Stein on October 11, 1998 (p. 2-3).

Number of materials of this issue is dedicated to St. Edith Stein in connection with the 70th anniversary of her martyrdom and the 25th anniversary of her beatification: article by fr.Arkadz Kulaha OCD «*Strike a Stone...*», excerpts from letters and works of Edith Stein («*Spirituality is the Root and Foundation of All Life*»), her letter to Pope Pius XI, excerpts from the treatise by Edith Stein about St. John of the Cross («*The Science of the Cross*»), verses of the Saint and passages from her lectures «*Life of the Christian Woman*» (p. 4-25).

We also continue to publish the translation of the work by Stephan Svyazhauski «*Saint Thomas, reread*», made by Ales Zhlutka (p. 26-29).

The publication of art critic Valery Buival «*Francisco Goya*» tells readers about the masterpiece of this great Spanish artist «*St. Jerome*» (p. 30-31).

Candidate of Philological Sciences, Professor Eva Liavonava offers to readers article entitled «*Angels in the Bible Space.*» (p. 32-35).

In column «*Poetry*» we print poems of famous Belarusian poets Vasil Zuyonak and Ales Razanau (p. 36-39).

In interview «*Voice from the Past*» Hanna Sasnouskaya talks with Polish writer and translator Antoni Libera about the problems of contemporary literature and society (p. 40-43).

«*There Will Be no Peace of Soul...*» is the name of Galina Skrygan's introduction to the publication of excerpts from the diaries of her father Yan Skrygan, the famous Belarusian writer, prisoner of the Stalinist camps (p. 44-51).

In interview «*The Frescoes Teach not to Waste Time*» writer Iryna Zharnasek talks with artist Uladzimir Kandrusievich about his work (p. 52-54).

Article by candidate of philological sciences Yazep Yanushkevich is dedicated to the first bishop of the Diocese of Minsk Yakub Dederko (p. 55-58).

Iyalanta Valuyevich in article «*A Tireless Builder of Shrines*» tells readers about Catholic priest Yuzaf Barodzich and his work on the revival of churches in Belarus (p. 59-61).

Restorer Arkadz Shpunt in his essay «*An Apple or a Pomegranate?..*» writes about the peculiarities of artistic details on icons of Virgin Mary with the Child (p. 62-65).

«*The Long-awaited Book*» is the name of article by famous poet, journalist and scholar of literature Mihas Skobla, dedicated to the new, written after a long silence, book of poetry by Leanid Galubovich (p. 66-67).

Architect Alaxey Yaromenka in the article «*Catholic Churches of Astravets Region*» tells readers about distinctive religious monuments of the region (p. 68-71).

## RESÜMEE

Diese Nummer der Zeitschrift beginnt mit einem Auszug aus der Predigt („Die vom Kreuz Gesegnete“) von Johannes Paul II. während der feierlichen heiligen Messe anlässlich der Kanonisierung von Edith Stein am 11. Oktober 1998 (S. 2-3).

Der heiligen Edith Stein ist im Zusammenhang mit ihrem Märtyrertod und dem 25. Jahrestag der Beatifikation eine Reihe von Materialien gewidmet: der Artikel von Pater Arkadzj Kuljacha OCD „Schlag auf den Stein…“, Fragmente aus Briefen und Werken von Edith Stein („Spiritualität als Wurzel und Grundlage des ganzen Lebens“), ihr Brief an den Papst Pius XI, Auszüge aus Edith Steins Traktat über den heiligen Johannes vom Kreuz („Kreuzeswissenschaft“), Gedichte der Heiligen und Auszüge aus ihren Vorlesungen „Christliches Frauenleben“ (S. 4-25).

Es werden in Fortsetzungen veröffentlicht: die Übersetzung des Werkes von Stefan Swiezawski „Der heilige Thomas, neu gelesen“ von Alesj Shlutka (S. 23-29).

Die Publikation des Kunstwissenschaftlers Walery Bujwal „Francisco Goya“ handelt vom Meisterwerk des großen spanischen Malers „Der heilige Hieronymus“ (S. 30-31).

Die Kandidatin der philologischen Wissenschaften Ewa Ljawonawa präsentiert den Leserinnen und Lesern den Artikel „Engel im biblischen Raum“ (S. 32-35).

In der Rubrik „Poesie“ sind die Gedichte der bekannten belarussischen Poeten Wasilj Sujonak und Alesj Rjasanau veröffentlicht (S. 36-39).

Im Interview „Stimmen aus der Vergangenheit“ spricht Hanna Sasnouskaja mit dem polnischen Priester und Übersetzer Antoni Liber über Probleme der modernen Literatur und Gesellschaft (S. 40-43).

„Es wird keine Ruhe für die Seele geben…“ – so nannte Galina Skrygan das Vorwort zur Publikation der Auszüge aus den Tagebüchern ihres Vaters Jan Skrygan, des bekannten belarussischen Schriftstellers, eines Gefangenen in stalinistischen Lagern (S. 44-51).

Im Interview „Die Fresken lehren die Zeit zu sparen“ spricht die Schriftstellerin Iryna Sharnasek mit dem Maler Uladzimir Kandrusewitsch über sein Schaffen (S. 52-54).

Dem ersten Bischof der Diözese Minsk Jakub Daderka ist der Artikel vom Kandidaten der philologischen Wissenschaften Jasep Januschkewitsch gewidmet (S. 55-58).

Ialanta Walujewitsch erzählt im Artikel „Der unermüdliche Erbauer der Heiligtümer“ über den Priester Jusaf Barodzitsch und seine Arbeit am Wiederaufbau der katholischen Kirchen in Belarus (S. 59-61).

Der Restaurator Arkadzj Spunt schreibt im Essay „Apfel oder Granatapfel? ...“ über die Besonderheiten der künstlerischen Details auf den Ikonen der Muttergottes mit Kind (S. 62-65).

„Das langersehnte Buch“? so nannte der bekannte Poet, Journalist, Literaturforscher Michasj Skobla seinen Artikel, der dem neuen, nach langem Schweigen geschriebenen Gedichtband von Leanid Galubowitsch gewidmet ist (S. 66-67).

Der Architekt Aljaksej Jaromenka erzählt im Artikel „Katholische Heiligtümer des Rayons Astrawez“ über markante religiöse Denkmäler dieser Region (S. 68-71).

## PODSUMOWANIE

Ten numer czasopisma rozpoczyna się fragmentem z homilii („Błogosławiona krzyżem”) Jana Pawła II wygłoszonej podczas uroczystej Mszy św. z okazji kanonizacji Edyty Stein 11 października 1998 roku (s. 2-3).

Świętej Edycie Stein z uwagi na 70-lecie jej męczeńskiej śmierci i 25-lecie beatyfikacji poświęcono cały szereg materiałów: artykuł ojca Arkadiusza Kulachy OCD „Stuknij w kamień…”, fragmenty listów i utworów Edyty Stein („Duchowość – korzeń i osnowa całego życia”), jej list do papieża Piusa XI, urywki ze studium o św. Janie od Krzyża Edyty Stein („Wiedza Krzyża”), wiersze świętej i fragmenty z wykładu „Życie kobiety chrześcijańskiej” (s. 4-25).

Drukujemy ciąg dalszy przekładu Alesia Żłutki pracy Stefana Świeżawskiego „Święty Tomasz na nowo przeczytany” (s. 26-29).

W publikacji znawcy sztuki Waleryia Bujwała „Franciszek Goya” jest mowa o arcydziele wielkiego hiszpańskiego artysty „Święty Hieronim” (s. 30-31).

Doktor filologii, profesor Ewa Lawonawa proponuje czytelnikom artykuł „Anioły w przestrzeni biblijnej” (s. 32-35).

W kolumnie „Poezja” drukujemy wiersze znanych białoruskich poetów Wasila Zujonka i Alesia Razanawa (s. 36-39).

W wywiadzie „Głosy z przeszłości” Hanna Sasnouskaja rozmawia z polskim pisarzem i tłumaczem Antonim Liberom o problemach literatury współczesnej i społeczeństwa (s. 40-43).

„Spokoju duszy nie będzie…” – tak zatytułowała Galina Skrygan wstęp do publikacji fragmentów z dziennika swojego ojca Jana Skrygana, znanego białoruskiego pisarza, więźnia stalinowskich łagrów (s. 44-51).

W wywiadzie „Freski uczą strzec czasu” pisarka Iryna Żarnasiek rozmawia z artystą Uładzimirem Kondrusiewiczem o jego twórczości (s. 52-54).

Pierwszemu biskupowi mińskiej diecezji Jakubowi Dederku poświęcony jest artykuł doktora filologii Jazepa Januszkiewicza (s. 55-58).

Jolanta Wałujewicz w artykule „Nieustający budowniczy świątyń” opowiada o księdzu Józefie Barodziczu i jego pracy po odrodzeniu Kościoła na Białorusi (s. 59-61).

Konserwator Arkadź Szpunt w eseju „Jabłko czy granat?...” pisze o osobliwościach artystycznych detali na obrazach Matki Bożej z Dzieciątkiem (s. 62-65).

„Długo oczekiwana książka” – tak zatytułował swój artykuł, poświęcony nowej, napisanej po długim milczeniu książce poezji Leonida Gałubowicza, znanego poety, dziennikarza – badacz literatury Michaś Skobła (s. 66-67).

Architekt Alaksej Jaromienka w artykule „Katolickie świątynie ziemi Astrawieckiej” opowiada o wyjątkowych pomnikach kultu tego rejonu (s. 68-71).

## SOMMARIO

Il numero inizia con un brano tratto dall'omelia "Benedetta della croce" di Giovanni Paolo II pronunciata l'11 ottobre 1998 durante la santissima messa ufficiale in occasione della canonizzazione di Edite Stein (p. 2-3).

Al 70° anniversario della morte martiriale della Santa Edite Stein e al 25° anniversario della sua beatificazione è dedicata una serie di pubblicazioni: articolo del padre Arkadz Kuliakha OCD «Batti la pietra…», frammenti di lettere e di opere di Edite Stein («La spiritualità è la radice e la base per tutta la vita"), sua lettera al Papa Pio XI, brani del suo trattato su san Giovanni della Croce («La scienza della Croce»), poesie della santa e brani del suo discorso «La vita cristiana della donna» (p. 4-25).

Continuano: traduzione del testo "Dal Medioevo, epoca d'oro, ai tempi nostri: San Tommaso e il suo interprete Stefan Swiezawski", eseguita da Ales Žlutka (p. 26-29).

Nella pubblicazione del critico d'arte Valery Bujval «Francisco Goya» si racconta del capolavoro del grande pittore spagnolo "San Geronimo" (p. 30-31).

La Dottoressa di ricerca in letteratura, Professoressa universitaria Eva Liavonava propone ai lettori l'articolo "Gli angeli nello spazio biblico" (p. 32-35).

Sotto la rubrica "Poesia" si pubblicano i versi dei famosi poeti bielorussi Vasil Zuionak e Ales Razanau (p. 36-39).

Lo scrittore e traduttore polacco Antonij Liber parla dei problemi di letteratura e di società contemporanea nell'intervista "Le voci del passato", rilasciata a Ganna Sasnouskaya (p. 40-43).

Halina Skrygan ha intitolato la sua prefazione alla pubblicazione dei brani del diario di suo padre, famoso scrittore bielorusso, prigioniero del campo stalinista Jan Skrygan «Non ci sarà pace per l'anima…» (p. 44-51).

Il pittore Uladzimir Kandrusevich racconta della sua attività creativa nell'intervista «Gli affreschi insegnano a risparmiare il tempo", rilasciata alla scrittrice Iryna Žarnasek (p. 52-54).

Al primo vescovo della diocesi di Minsk Jakub Daderka è dedicato l'articolo del Dottore di ricerca in letteratura Jasep Janushkevich (p. 55-58).

Iolanta Valuevich nell'articolo "Un costruttore instancabile dei santuari" racconta del prete Josaf Barodzič e del suo lavoro finalizzato alla rinascita delle chiese cattoliche in Bielorussia (p. 59-61).

Il restauratore Arkadz Špunt nel saggio «Una mela o un melograno?..» racconta delle particolarità artistiche dei dettagli presenti nelle immagini della Madonna con Bambino (p. 62-65).

Il famoso poeta, giornalista, studioso di letteratura Mikhas Skobla ha intitolato il suo articolo «Un libro tanto atteso» e l'ha dedicato al nuovo libro di poesie di Leanid Galubovič, pubblicato dopo un lungo silenzio (p. 66-67).

L'articolo "I santuari cattolici della provincia di Astravez" dell'architetto Aliaksej Jaromenka è dedicato ai particolari monumenti di culto che si trovano in quella zona (p. 68-71).

На 1-й ст. вокладкі — святая Тэрэза Бэнэдыкта ад Крыжа (Эдыта Штайн).

*Часопіс «**НАША ВЕРА**», № 2 (60)/2012.*

*Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, 220002, г. Мінск-2; тэл./факс: 293-17-50. **E-mail:** media@catholic.by. **Web:** media.catholic.by/nv/*

*Рэдакцыя рукапісаў не рэцэнзуе і не вяртае.*

*Заснавальнік – Мінска-Магілёўская архідыяцэзія РКК у РБ. Вуліца Рэвалюцыйная, 1а, 220030, г. Мінск.*

*Галоўны рэдактар — Крыстына Аляксееўна Лялько. Часопіс выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*

*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за № 903.*

*Падпісаны да друку 08.06.2012 г. Фармат 60x84 1/8. Ум. друк. арк. 8,37. Ул. выд. арк. 6,93. Наклад – 1 300 экз. Зак № 612.*

*Надрукавана ў друкарні ПУП «Джі энд Ді».*

*ЛП 02330/0150065 ад 05.06.08 г. Вул. Бурдзейнага, 37–191, Мінск, 220136.*



# ФРЭСКІ ВУЧАЦЬ БЕРАГЧЫ ЧАС

Працы мастака Уладзіміра Кандрусевіча ў расонскім касцёле














Уладзімір Кандрусевіч.
Фрэскі з касцёла ў в. Расоны Віцебскай вобласці.